

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

15 СТУДЗЕНЯ 1999г. № 3/3983 КОШТ 12 000 РУБ.





# Гады. Творы. Школа.



*Ілюстрацыя да паэмы Я. Купалы "Адвечная песня", 1980 г.*



**Выдатнаму беларускаму графіку, народнаму мастаку Беларусі, прафесару, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Беларусі, заслужанаму дзеячу культуры Польшчы Васілю Шаранговічу споўнілася 60 год.**

Не адно дзесяцігоддзе ён плённа працуе ў розных жанрах станковай і кніжнай графікі, шмат зрабіў для развіцця мастацкай адукацыі рэспублікі, для станаўлення нацыянальнай школы графікі.

*(Працяг на стар. 4)*



*Вёска "Качэргі", малюнак.*



# КОЛА ДЗЁН

***Вось ужо сустрэлі мы Новы год і па-старому — мінулі два тыдні года, пазначанага трыма дзевяткамі. І ён сапраўды абяцае быць годам непрадказальным. Возьмем тыя ж выбары. Афіцыйныя СМІ крычаць (акурат крычаць, быццам такога ніколі не было) аб выбарах органаў мясцовай улады. А ў апазіцыйным друку — заклікі байкатаваць тыя выбары як несвабодныя, недэмакратычныя, нелегітымныя. У дадатак дэпутаты Вярхоўнага Савета 13-га склікання, якія лічаць яго дзеючым вышэйшым заканадаўчым органам краіны (што нібыта й праўда), абвяшчаюць аб правядзенні прэзідэнцкіх выбараў, на што тут жа паследавала адпаведная рэакцыя мінюста і пракуратуры. А людзі? А людзей усё гэта, бадай, мала кранае. Выбары мясцовай улады? Дык жа — ці залежыць што-небудзь ад яе? Прызначаны зверху кіраўнік чыніць усё самаўладна. Апазіцыя абвясціла выбары прэзідэнта і нават прызначыла дзень іх правядзення і стварыла цэнтрвыбаркам? А ці не гульня ўсё гэта? Ці не адстойванне сваіх уласных амбіцый і прэтэнзій на ўладу? Людзей турбуюць куды больш жыццёвыя клопаты. Найперш — нізкія зарплаты і несутрымны рост цэн. Як пражыць да чарговай палучкі ці пенсіі, як звязаць канцы з канцамі? Перад гэтымі балючымі штодзённымі пытаннямі нікне, адступае на задні план усё астатняе...***

### СПРАЎДЖАННЕ ТЫДНЯ

Нерэзідэнты, якія працуюць з фінансавымі кампаніямі, скупляюць і прадаюць долар па 450 і больш тысяч рублёў. Такі ж імклівы рост долара і на "чорным рынку" — штодня прыкладна на 10 тысяч рублёў. Тут "зялёны" пераваліў за 300 тысяч і неўзабаве сапраўды дасягне, як і прадказваў спадар Багданкевіч, паўмільёна "зайчыкаў". Якія б сімпатыі ці антыпатыі ні выклікаў згаданы былы галоўны банкір краіны, аднак жа ягоныя прагнозы куды больш верагодныя, чым байкі славутага Глобы пра эканамічны пад'ём у Беларусі ў 1998 годзе, які "будзе насіць рэзкі, хуткасны характар".

### ЗГАДКА ТЫДНЯ

"Драздоўская" эпапея з пасламі нібыта падыходзіць да завяршальнага канца. Аб'яўлена, што еўрапейскія дыпламаты прылятаюць у Мінск паслязаўтра, 17 студзеня, рэйсам нямецкай авіякампаніі "Люфтганза". У сувязі з гэтым зноў міжволі згадваецца адно надзвычай дзіўнае супадзенне: у свой час нямецкі пасол Хорст Вінкельман прыбыў да нас 9 мая, а ў знак пратэсту пакінуў Мінск разам з іншымі пасламі ЕС 22 чэрвеня. А ці ж ёсць патрэба тлумачыць, што значаць гэтыя даты для нашага народа?..

### АСТУДЖВАННЕ ТЫДНЯ

Газетна-тэлевізійны галас пра інтэграванне з Расіяй, пра хуткае стварэнне нейкай міфічнай саюзнай дзяржавы такі, быццам гэта самае моцнае жаданне людзей у нас і ў Расіі. А між тым... Газета "Новые известия" апублікавала вынікі апытання, праведзенага Усерасійскім цэнтрам вывучэння грамадскай думкі. Усяго толькі 9 працэнтаў апытаных расіян назвалі важнейшай падзеяй мінулага года падпісанне Дэкларацыі аб стварэнні саюзнай дзяржавы з Беларуссю! Зусім іншыя падзеі займалі летась іх галовы. 13 працэнтаў апытаных назвалі "галоўнай падзеяй года" скандал вакол Біла Клінтана, 22 працэнты — дэнамінацыю расійскага рубля ў студзені, 25 — бамбардзіроўку Ірака, 32 — забойства Старавойтавай, 43 працэнты — фінансавы крызіс 17 жніўня. Ці не астудзіць хоць крыху гэтая мізэрная лічба — 9 працэнтаў! — нашых інтэгратараў?

### ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ

70-годдзе адзначае Нацыянальная акадэмія навук Беларусі — афіцыйнае яе адкрыццё адбылося 1 студзеня 1929 года на базе Інстытута беларускае культуры. Шлях яна прайшла немалы, на гэтым шляху шмат важкіх здабыткаў і слаўных здзяйсненняў. Сёння НАНБ перажывае, на жаль, не лепшыя часы. Вось толькі адзін паказчык яе цяперашняга стану: штат супрацоўнікаў скараціўся ўдвая. Але найперш засмучае іншае: на пачатку свайго існавання АН была куды больш беларускай, чым сёння, нават набыўшы нядаўна афіцыйны статус Нацыянальнай...

### САМОТНІК ТЫДНЯ

Газета "Навіны" апублікавала інфармацыю пра сустрэчу ў Мілане моладзі з еўрапейскіх краін. У ёй бралі ўдзел і беларусы: з Гродна ездзілі (на аўтобусе) 47 чалавек, у тым ліку 4 ксяндзы і манашка. Былі яны і ў Ватыкане, іх прыняў папа Ян Павел II. Перад ад'ездам з Рыма ў аўтобус зайшла карэспандэнтка беларускай праграмы Ватыканскага радыё і пацікавілася, ці гаворыць хто з пасланцоў Беларусі пабеларуску. Гэтакім аказаўся толькі адзін — першакурснік Гродзенскага універсітэта. Усе астатнія размаўлялі па-руску. Вось такія нашы "дасягненні", спадарове!

### ПАЦВЯРДЖЭННЕ ТЫДНЯ

Міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі "падлічыла" даходы насельніцтва за студзень—лістапад мінулага года. Больш за ўсіх зараблялі кіраўнікі прадпрыемстваў (8,4 мільёна рублёў у месяц), работнікі трубаправоднага транспарту (8,3 мільёна), банкаўскія работнікі (8 мільёнаў) і мытнікі (7,7 мільёна). Сярэдняя зарплата прафесарска-выкладчыцкага складу склала 5,7 мільёна рублёў, урачоў — крыху больш за 5 мільёнаў, настаўнікаў — 3,8 мільёна рублёў. Самыя ж нізкія заробкі, што было пацверджана красамоўна ў каторы раз, былі ў работнікаў сферы сацыяльнага забеспячэння, сельскай гаспадаркі, а таксама мастацтва і культуры.

### НАБЫТАК ТЫДНЯ

45 найменняў уключала калекцыя старадрукаў і рукапісаў XVII — пачатку XIX стагоддзя адной са староверскіх абшчын на ўсходзе Беларусі. 8 рукапісаў і 12 старадрукаў з яе набыла Нацыянальная бібліятэка Беларусі, а таксама 29 асобных кніжыц выданняў XVII—XVIII стагоддзяў. Прыдбаць усё гэта дапамог прэзідэнцкі грант у памеры двух мільярдаў рублёў. Ягона, на жаль, не хапіла, каб набыць усю згаданую калекцыю, але ўсё ж гэта лепш, чым нічога.

### ЛІСТ ТЫДНЯ

"Шаноўная рэдакцыя газеты "Народная воля"! Хачу прапанаваць адзін з варыянтаў абрання чалавека на пост прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Для гэтага неабходна выявіць самага аўтарытэтнага чалавека для ўсяго народа, напрыклад, Васіля Быкава. І поўнасцю даверыцца яму. Няхай ён і назаве чалавека, які мог бы ўзначаліць дзяржаву. На мой погляд, гэта самы найлепшы і самы танны варыянт, бо ўсё роўна наша насельніцтва не здольна беспамылкова выбраць чалавека ў прэзідэнты. А ўсё ж каго Васіль Быкаў прапанаваў бы на гэты высокі пост? Можа, праз "Народную волю" можна было б атрымаць адказ ад самога пісьменніка? З павагай — Віктар Фурман. Мінск".

*("Народная воля", 12 студзеня 1999 года).*

ВІНШУЕМ!

## Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь N 6

# Аб прысуджэнні прэмій "За духоўнае адраджэнне" 1998 года

Разгледзеўшы прадстаўленні Міністэрства культуры і Беларускай Праваслаўнай Царквы, **пастанаўляю:**

1. Прысудзіць прэміі "За духоўнае адраджэнне" 1998 года:

**Ждану Яўгенію Іванавічу** — галоўнаму мастаку Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі Рэспублікі Беларусь, заслужанаму дзеячу культуры Рэспублікі Беларусь;

**Казінцу Міхаілу Антонавічу** — рэктару Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, галоўнаму дырыжору Дзяржаўнага акадэмічнага народнага аркестра Рэспублікі Беларусь імя І. Жыновіча Беларускай дзяржаўнай філармоніі, народнаму артысту Беларусі;

**Шамко Юрыю Мікалаевічу** — рэгенту Архіерэйскага хору Мінскага Свята-Духава кафедральнага сабора;

**Шаўцову Георгію Васільевічу** — протаіерэю, настаяцелю Свята-Петрапаўлаўскай царквы г. Бяроза Брэсцкай вобласці;

калектыву рэдакцыі газеты "Культура".

2. Устанавіць памер прэміі "За духоўнае адраджэнне" 1998 года 100 мінімальных заработных плат.

3. Міністэрству фінансаў вызваліць Міністэрству культуры з фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва неабходныя сродкі на выплату прэмій "За духоўнае адраджэнне" 1998 года.

4. Вызваліць асоб, якія прэміяваны ў адпаведнасці з гэтым указам, ад спагнання падаходнага падатку з грамадзян па сумах атрыманых прэмій.

5. Дадзены ўказ уступае ў сілу з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА**

*6 студзеня 1999 г.*
*г. Мінск*

# Лаўрэаты прэзідэнцкіх прэмій

***Савет фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва 4 снежня 1998 г. прыняў рашэнне аб прысуджэнні спецыяльных прэмій Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у галіне культуры і мастацтва.***

У мэтах падтрымкі творчай працы дзеячаў культуры і мастацтва і за высокія творчыя дасягненні ў 1998 годзе спецыяльнымі прэміямі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь узнагароджаны:

**У галіне культуры і мастацтва ў наступных намінацыях:**

**музычнае мастацтва**

ЛАМАНОВІЧ Ніна Іосіфаўна, галоўны хормайстар Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы Рэспублікі Беларусь, — за харавы канцэрт, канцэртнае выкананне оперы "Барыс Гадуноў" і харавой часткі спектакляў VIII фестывалю "Classic Openiar" у г. Салатурн, Швейцарыя у 1998 годзе;

**тэатральнае мастацтва**

БАРКОЎСКІ Віталій Міхайлавіч, галоўны рэжысёр Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа, лаўрэат міжнародных тэатральных фестываляў, — за пастаноўку ў 1998 годзе спектакля "Таму, што люблю" па п'есе "Дзень карабля" А. Паповай і спектакля "Пісьменная" М. Чокэ;

**мастацкая літаратура**

БАРАВІКОВА Раіса Андрэеўна, пісьменніца, — за кнігу "Сад на капялюшыку каханай", апублікаваную ў 1998 годзе;

**журналістыка**

ШАБАЛІН Аляксандр Андрэевіч, галоўны рэдактар часопіса "Беларусь", — за серыю матэрыялаў аб Нарвегіі, апублікаваных у 1998 годзе, і стварэнне таварыства "Беларусь — Нарвегія";

**кіно і тэлебачанне**

ШЭВЯЛЕВІЧ Віктар Васільевіч, кінарэжысёр, — за дакументальныя фільмы "Шлях да святыні", "Благо твори", "Миссия Патриарха";

**архітэктура і рэстаўрацыя**

ШКОЛЬНІКАЎ Барыс Эмануілавіч, архітэктар, дырэктар архітэктурнай майстэрні, — за праекціроўку і будаўніцтва ў 1998 годзе шэрагу пабудоў у г. Мінску;

**народная творчасць**

БЛУДАВЫ Яўген Яўгенавіч, Тамара Міхайлаўна, Аляксей Яўгенавіч, Уладзімір Яўгенавіч, Аляксандр Яўгенавіч, народныя майстры, — за высокія творчыя дасягненні, актыўную даследчую і выхаваўчую дзейнасць, адраджэнне і развіццё традыцыйных беларускіх рамёстваў;

**выяўленчае мастацтва**

ГРАМЫКА Віктар Аляксандравіч, прафесар, народны мастак Беларусі, — за цыкл твораў сацыяльнай тэматыкі, створаны ў 1998 годзе;

**харэаграфічнае мастацтва**

ДУДКЕВІЧ Валянцін Уладзіміравіч, мастацкі кіраўнік-дырэктар Дзяржаўнага ансамбля танца Рэспублікі Беларусь, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь, — за стварэнне ў канцэртным сезоне 1997/98 года канцэртнай праграмы "Карагод сяброў", канцэртных нумароў на музыку М. Агінскага "Паланэз" і С. Хвашчынскага "Ефрасіння", а таксама за шматлікія дасягненні ў развіцці нацыянальнага харэаграфічнага мастацтва;

**эстрадна-цыркавое мастацтва**

ЯРМОЛЕНКА Анатоль Іванавіч, мастацкі кіраўнік студыі "Сябры", народны артыст Беларусі, — за сольную праграму "Переживем", створаную ў 1998 годзе;

**крытыка і мастацтвазнаўства**

НАЗІНА Іна Дзмітрыеўна, прафесар, загадчык кафедры беларускай музыкі Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, кандыдат мастацтвазнаўства, — за навуковую работу "Традыцыйная народна-інструментальная музыка Беларусі", выдадзеную ў 1998 годзе.

**За ўклад у выхаванне творчай моладзі:**

ДРОБЫШ Станіслаў Іосіфавіч, загадчык кафедры беларускай народна-песеннай творчасці Беларускага універсітэта культуры, — за шматгадовую працу і значныя поспехі ў выхаванні творчай моладзі;

МАНАКОВА Лідзія Аляксееўна, рэжысёр, загадчык кафедры майстэрства акцёра і рэжысуры Беларускай акадэміі мастацтваў, — за шматгадовы ўклад у выхаванне творчай моладзі;

СЕРГІЕНКА Таццяна Пятроўна, дацэнт Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, — за шматгадовы ўклад у выхаванне творчай моладзі.

**За ўклад у развіццё міжнародных культурных сувязей Рэспублікі Беларусь:**

ДАРАШКОЎ Міхаіл Рыгоравіч, начальнік упраўлення культуры Магілёўскага аблвыканкама, заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь, — за шматгадовы ўклад у развіццё міжнародных культурных сувязей;

ЕЛІЗАР'ЕЎ Валянцін Мікалаевіч, мастацкі кіраўнік-дырэктар Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета Рэспублікі Беларусь, народны артыст СССР і Беларусі, — за значны ўклад у развіццё міжнародных культурных сувязей;

народны фальклорна-этнаграфічны ансамбль "Неруш" Беларускага дзяржаўнага універсітэта (кіраўнік — ГЛАДКАЯ В. Ф.) — за ўдзел у 1998 годзе ў фестывалі ў ЗША, у Днях беларускай культуры ў Краснадарскім краі Расійскай Федэрацыі, у Польшчы, у Італіі, супрацоўніцтва з калектывамі Даніі і Нарвегіі.

**За дасягненні ў эстэтычным і маральным выхаванні беларускага народа і прапаганду духоўных каштоўнасцей у галіне:**

**музейнай справы**

калектыў Дома-музея А. Міцкевіча ў г. Навагрудку — за ўдзел у Міжнародным свяце паэзіі, прысвечаным 200-годдзю з дня нараджэння А. Міцкевіча, метадычную дапамогу ў 1998 годзе настаўнікам школ;

ІЛЬНІЦКІ Мікалай Мікалаевіч, дырэктар Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка, — за вялікі ўклад у развіццё музейнай справы;

**бібліятэчнай справы**

калектыў Магілёўскай абласной аб'яднанай бібліятэкі імя У. І. Леніна — за стварэнне ў 1998 годзе аўтаматызаваных інфармацыйных сетак "Абласная бібліятэка" і "Магілёўская вобласць";

СЛЕСАРЭНКА Галіна Міхайлаўна, дырэктар цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы г. Барысава Мінскай вобласці, — за значныя дасягненні ў галіне бібліятэчнай справы;

**мастацкай самадзейнасці**

ЖУКАВА Людміла Адамаўна, выкладчык Навагрудскага музычнага вучылішча, кіраўнік Полацкага народнага камернага хору, — за паспяховы ўдзел хору ў фестывалі "Беларусь — мая песня" і II Міжнародным фестывалі харавой музыкі ў Турцыі;

СУШКО Іосіф Фаміч, мастацкі кіраўнік народнага ансамбля песні і танца "Спадчына" Маладзечанскага гарадскога Дома культуры Мінскай вобласці, — за значныя дасягненні ў галіне мастацкай самадзейнасці.

**Старшыня савета фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва М. А. КАЗІНЕЦ**

# "Дзяржаўная прэмія" — за энцыклапедыю "Беларуская мова"

Напярэдадні Новага года названы лаўрэаты Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь 1998 года і ў галіне навукі і тэхнікі. Прынамсі, за работу "Беларуская мова. Энцыклапедыя" гэтай высокай узнагароды ўдастоены: **Міхневіч Арнольд Яфімавіч**, доктар філалагічных навук, прафесар, рэктар Беларускага інстытута праблем культуры Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь; **Германовіч Іван Клімавіч**, кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры Беларускага дзяржаўнага універсітэта; **Булыка Аляксандр Мікалаевіч**, доктар філалагічных навук, прафесар, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, загадчык аддзела Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі; **Шуба Павел Паўлавіч**, доктар філалагічных навук, прафесар, загадчык кафедры Беларускага дзяржаўнага універсітэта; **Шчэрбін Вячаслаў Канстанцінавіч**, кандыдат філалагічных навук, памочнік прэзідэнта Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі; **Плотнікаў Браніслаў Аляксандравіч**, доктар філалагічных навук, прафесар кафедры Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь.

ЧАСОПІСЫ-99

# "Полымя" ёсць "Полымя"

***Тоўстых часопісаў, асабліва сённяшнім часам, выходзіць як быццам і нямала. Аднак сумнення не застаецца, што самы любімы з іх — "Полымя". І не столькі як старэйшына сярод штомесячнікаў, а і як выданне, на старонках якога змяшчаецца ўсё лепшае з сучаснай беларускай літаратуры, а таксама актуальная (і надзіва змястоўная!) публіцыстыка, глыбокая, аргументаваная, крытыка, літаратуразнаўства, асобныя старонкі з творчай і гістарычнай спадчыны. Ды і як жа інакш: "Полымя" ёсць "Полымя". Такім яно застанецца і ў сёлетнім годзе, у чым і пераконвае гутарка з галоўным рэдактарам часопіса Сяргеем ЗАКОННІКАВЫМ.***

— Напачатку хачу выказаць шчырую ўдзячнасць нашым сталым чытачам, усім, хто і ў гэты цяжкі, у тым ліку і для літаратуры, культуры, час не развітваецца з часопісам. Больш таго, колькасць прыхільнікаў "Полымя" павялічваецца. І гэта ўсцешвае. Значыць, жыве роднае слова... Значыць, ёсць нямала тых, хто не цураецца яго. А гэта, безумоўна, ускладае на супрацоўнікаў часопіса вялікую адказнасць. Трэба апраўдаць спадзяванні. Неабходна і надалей гэтаксама высока трымаць планку мастацкасці. Да чаго мы імкнёмся і ў сёлетнім, 1999 годзе.

Назаву толькі асноўныя творы, што будуць змешчаны ў першым паўгоддзі. Найперш — аповесць Васіля Быкава "Ваўчыная яма". Як і дагэтуль, Васіль Уладзіміравіч застаецца нязменным першапраходцам у асэнсаванні складаных з'яў жыцця. Гэтым разам нашай сучаснасці, але сучаснасці, якая, канечне ж, звязана і з нядаўнім мінулым, адкуль і пачынаюцца многія нашы беды, дзе вытокі таго гаротнага становішча, у якім усе мы апынуліся. Чытача чакае сустрэча з заключнымі раздзеламі гістарычных раманаў Генрыха Далідовіча "Кліч роднага звона" і Вольгі Іпатавай "Залатая жрыца Ашвінаў". Гістарычная праблематыка гучыць і ў драматычнай паэме Аляксея Дударава "Чорная панна". Будуць таксама змешчаны аповесць Васіля Гігевіча "Ланцуг", новыя апавяданні Алеся Петрашкевіча, Міколы Гіля, Анатоля Кірвеля і іншых аўтараў, чыю творчасць чытач добра ведае, і тых, хто толькі ўваходзіць у літаратуру, але паспеў ужо няблага зарэкамендаваць сябе.

Заўсёды вызначалася высокай мастацкасцю і палымянская паэзія. Сёлетні год — не выключэнне. Новыя творы прапанавалі Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Максім Лужанін, Васіль Зуёнак... Парадуюцца і прыхільнікі творчасці Ларысы Геніюш. "Полымя" ўжо неаднойчы публікавала тыя старонкі яе спадчыны, якія пры жыцці Ларысы Антонаўны так і не прыйшлі да чытача. Робім яшчэ адзін крок у гэтым кірунку. Як і ў дачыненні да Васіля Гадулькі, на жаль, таксама нябожчыка. Некалькі гадоў назад з асобнымі яго творамі пазнаёміў чытачоў Васіль Сахарчук. Цяпер ён прапануе яшчэ некалькі. І, зразумела, знойдзецца месца перакладной паэзіі. А паколькі сёлета адзначаецца 200-годдзе з дня нараджэння найвялікшага паэта Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна, некаторыя творы яго пераўвасобілі па-беларуску Рыгор Барадулін і Васіль Зуёнак.

Каб не стамляць чытача пералікам, скажу толькі, што "Полымя" і сёлета захавае свае пастаянныя раздзелы. Прынамсі, такія, як "Культура мовы", "Старонкі нашай гісторыі", "Крытыка і літаратуразнаўства", "Сярод кніг" і іншыя.

**Запісаў Алесь МАРЦІНОВІЧ**

ЗГАДКІ

# І песня вестку падае...

Здаецца, гэтае фота не вымагае каментарыяў. Наш чытач, безумоўна, пазнае-згадае Уладзіміра Уладзіміравіча Алоўнікава — народнага артыста Беларусі, прафесара, грамадскага дзеяча, ветэрана-франтавіка. Пра цудоўную песню, што даўно ўжо зрабілася музычнай візіткай нашага краю, нагадвае нотны радок, падпісаны рукою самога кампазітара: "Радзіма мая дарагая..." Пазначаная злева дата — памятная: 16 студзеня — дзень нараджэння У. Алоўнікава, і можна здагадацца, што размешчанае побач вершаванае чатырохрадкоўе-аўтограф з'явілася з-пад пяра сямідзесяцігадовага кампазітара. Як шчырая і амаль музычная падзяка нястомнаму лімаўскаму фотамайстру Уладзіміру Круку. Такі вось неспадзяваны творчы дар быў у Алоўнікава.



Дзесяць гадоў мінула. Многае змянілася. 80-годдзе Уладзіміра Уладзіміравіча Алоўнікава адзначаць заўтра, ды ўжо, на жаль, без яго... На доме ў цэнтры Мінска, дзе доўгі час жыў ён, ганаровы грамадзянін сталіцы, кампазітар і педагог, летась з'явіўся мемарыяльны знак. Прыглядзеўшыся да яго металічнай паверхні, няцяжка прачытаць той знаны песенны радок, які роднаю музыкай гучыць штодня ў эфіры і па якім пазнаюць Беларусь у шырокім свеце...

**С. Б.**

*Фота У. КРУКА*

ПАМЯЦЬ

# Каліноўскі на кані

Абавязковыя атрыбутныя сведчанні дзяржаўнасці — гэта не толькі афіцыйныя дзяржпратакольныя сцяг і герб краіны. Альбо наяўнасць прэзідэнцкага картэжа і зборнай па футболе. Ёсць і іншыя прыкметы, што таксама палягаюць у вонкававізуальнай прасторы. Менавіта яны нефармальным духоўным чынам ілюструюць нас. Павінны ілюстраваць, прынамсі.

Ад старажытнасці імі былі самыя разнастайныя рэчы і збудаванні. Напрыклад, Сафійскі Сабор у Полацку. Ён стаіць і зараз, але, на жаль, ягоная сімвалічнасць пертатварылася ў гістарычную. Змяняліся і мянялі ўсё стагоддзі — і з'явіліся новыя, больш асацыявана звязаныя з сучаснасцю, сімвалы. Традыцыяй сталася ўзвядзенне помнікаў выбітным палітычным асобам (пераважна — у выглядзе вершнікаў, на кані).

Дарэчы, у Беларусі няма наогул аніводнай ці то бронзавай, ці то меднай падобнай помнікавай канструкцыі. А калісьці была: пасля падзелаў Рэчы Паспалітай помнік апошняму ейнаму каралю, нашаму земляку Станіславу Аўгусту Панятоўскаму прывёз і паставіў ва ўласным родавым маёнтку граф Патоцкі. Аднак паводле Рыжскай дамовы ў 1921-ым годзе Польшча запатрабавала вярнуць ёй культурныя каштоўнасці. Такім чынам, помнік Панятоўскаму па дэмантажы апынуўся ў Варшаве, дзе і месціцца дагэтуль у тамтэйшым Доме ўрада.

Лепш позна, чымсьці ніколі. Праз год-два ў нас усё ж з'явіцца выява адмысловага значнага зместу. Прынамсі, ёсць на тое намеры і задумы.

Гэта будзе Кастусь Каліноўскі на кані. Вышынёй у чатыры метры. Узведзены ён, мяркуецца, будзе каля Свіслачы насупраць Міністэрства абароны. Займаецца гэтым гістарычны клуб "Спадчына" і асабіста яго старшыня Анатоль Белы. Аўтар помніка — вядомы нават у Еўропе як добры анімалістычны майстар Сяргей Бандарэнка — ужо мае рабочую мадэль.

Чаму менавіта Каліноўскі, а не, напрыклад, князь Вітаўт, за якім наша прадзяржава мела надзвычайны росквіт? Спадар Белы лічыць, што, па-першае, імя Каліноўскага самае вядомае сярод айчынных нацыянальна-палітычных дзеячаў, а, падругое, у ім увасобіліся беларускі дух, патрыятызм, незалежніцтва і г. д. Гэта і павінен будзе выпраменьваць будучы помнік, як тое робіць аналагічны помнік Салавату Юлаеву ва Уфе, які не падабаўся і не падабаецца Маскве. Дарэчы, адлюстраванне постаці Каліноўскага менавіта на кані абгрунтавана. Прынамсі, аднаго разу Каліноўскі разам з Урублеўскім, сапраўды, парадна аглядалі на конях паўстанцкае войска.

Нядаўна пастаўленыя ў дворыку БДУ помнікі Скарыне і Гусоўскаму дадаюць спадзеву, што і чарговы праект клуба "Спадчына" будзе ажыццёўлены, нягледзячы на тое, што ўсё будзе ладзіцца прыватнымі ініцыятывамі і сродкамі бізнесовых колаў, без удзелу дзяржавы, якой зноўку проста падораць помнік ейнаму герою.

**Кірыла ПАЗНЯК**

АБСЯГІ

ГОМЕЛЬ...

## "Гамонку" слухаюць усе

На Гомельшчыне ёсць творчыя калектывы, якія сваімі бліскучымі выступленнямі радавалі і радуюць не толькі сваіх землякоў, але і шматлікіх гледачоў далёка за межамі вобласці. Да іх па вартасці адносіцца і ансамбль народнай музыкі і песні "Гамонка", што існуе пры Палацы культуры Гомельскага хімічнага завода. Кіруе калектывам апантаны сваёй справай чалавек, вялікі знаўца народных традыцый Іван Кацэвіч. З вялікім імпэтам, узнёсла і агніста артысты "Гамонкі" выконваюць песні, якія з'яўляюцца сапраўднай каштоўнасцю нашай нацыянальнай культуры. Ансамбль прымаў удзел у свяце беларускай пісьменнасці, ва ўрачыстасцях, прысвечаных 500-годдзю Мірскага замка, у міжнародным фестывалі фальклору ў Іспаніі, стаў лаўрэатам рэспубліканскага фестывалю "Беларусь — мая песня". Зараз "Гамонка", якой споўнілася пяць гадоў, падрыхтавала новую праграму "Родныя напевы".

## Здабыткі маладых

У Гомельскім дыска-клубе "Лайт" падведзены вынікі творчай дзейнасці маладых талентаў горада за 1998 год — школьнікаў, навучэнцаў прафтэхвучылішчаў і тэхнікумаў. Прадстаўлена 13 намінацый: тэатр, музыка, жывапіс, аўтарская песня... Пераможцы атрымалі ганаровыя граматы аддзела па справах моладзі гарвыканкама і сувеніры.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

## "Пунсовая кветачка" — на сцэне драмтэатра

Нават сёння, у час засілля відовішчных шоу, тэатр з поспехам можа супрацьстаяць тэлебачанню, калі за справу бярэцца рэжысёр, які разумее псіхалогію сучаснага гледача, асабліва псіхалогію дзіцяці. Яшчэ і месяца не мінула з дня прэм'еры, але 10 студзеня вось ужо ў 65-ы раз на сцэне абласнога Драмтэатра сыграны спектакль паводле казкі Аксакава "Пунсовая кветачка". ! кожны раз — поўная зала. Усім вядомая казачная гісторыя ў пастаноўцы рэжысёра Мінскага маладзёжнага тэатра Сяргея Кавальчыка стала для юнага гледача незабыўнай падзеяй. Дарэчы, аўтар музыкі і песень — таксама мінчук Цімур Каліноўскі. Знакамітыя гомельскія акцёры народная артыстка Ніна Карнеева, заслужаны артыст Фёдар Іваноў у творчым саюзе з моладдзю спрыялі здзяйсненню арыгінальнай задумы рэжысёра.

**Ален АНАНЬЕЎ**

ВІЦЕБСК...

## Вяртанне Льва Сапегі

У Астроўненскай сярэдняй школе Бешанковіцкага раёна адбылася гісторыка-мастацкая вечарына ў гонар знакамітага земляка канцлера Вялікага княства Літоўскага Льва Сапегі. Супрацоўніца Бешанковіцкага раённага музея Наталля Аўчыннікава зрабіла даклад аб жыцці і дзейнасці Льва Сапегі. А потым перад прысутнымі вучнямі, настаўнікамі, жыхарамі Астроўна выступілі самадзейныя артысты: спевакі, танцоры, музыкі. Нашчадкі Льва Сапегі паказалі, што народ наш быў заўсёды і будзе таленавітым, шчодрым на багатыя душэўныя парыванні.

**Барыс БЕЛЯЖЭНКА**

МАГІЛЁЎ...

## Ідзе інтэлігенцыя ў свой клуб

Чацвёрты год працуе ў Магілёве клуб інтэлігенцыі, савет якога ўзначальвае дацэнт Магілёўскага тэхналагічнага інстытута Леанід Карназінаў. Клуб стаў месцам цікавых сустрэч навукоўцаў, мастакоў, пісьменнікаў, кампазітараў, музыкантаў, іншых прадстаўнікоў творчасці.

На чарговым пасяджэнні клуба галоўнай тэмай стала знаёмства з творчасцю двух прафесійных магілёўскіх мастакоў: акварэліста Фёдара Кісялёва і партрэтыста Галіны Конанавай.

На вечары гучала музыка ў выкананні ансамбля скрыпачоў мясцовага музычнага вучылішча. Магілёўскі кампазітар Галіна Сёміна пазнаёміла прысутных са сваімі новымі песнямі.

Пасяджэнне клуба вялі супрацоўніцы музея Святлана Строгіна і Вера Купрына.

**Іван ПЕХЦЕРАЎ**

БРЭСТ...

## "Студзеньскія музычныя вечары"

У тэатры драмы 10—12 студзеня праходзіў адзінаццаты міжнародны фестываль "Студзеньскія музычныя вечары". У свяце класічнай музыкі, ініцыятарам якога з'яўляецца выкладчыца мясцовага музычнага каледжа Лілія Батырава, прынялі ўдзел сімфанічны аркестр "Маладая Беларусь", саліст Вялікага тэатра Расіі Артур Эйзен, лаўрэат міжнародных конкурсаў, музыкант з Кітая Чжан Чун, скрыпачка з Польшчы Клаўдзія Шляхта, народны артыст Беларусі Ігар Алоўнікаў, выканаўцы з Украіны, Латвіі.

**Святлана ГУЛЯЕВА**

## З балагана казачка, не адна, а вязачка!

Якраз пад Каляды патрапілі з новай прэм'ерай у Берасцейскім тэатры лялек. І настрой выбралі адпаведны: святочны, дасціпны, балаганны. Менавіта ў такім ключы-антуражы была распрацавана п'еса Ігара Сідарука, у аснове якой — дзве добра вядомыя народныя казкі: пра Калабка ды пра Бычка-Смалянога бачка. А весела пабалаганіць на радасць дзятве і на карысць дарослым берасцейскія артысты-лялечнікі вырашылі з падачы рэжысёра-пастаноўшчыка Зміцера Нуянзіна ды мастака Валерыя Рачкоўскага. Дзед Панас і Баба Палашка, дастаючы з артыстычных куфэркаў вядомых казачных персанажаў: Зайчыка Міцяйчыка, Ваўка Папіхача, Мядзведзя Бурдулая ды Ліску Анфіску! Ну і вядома ж, саміх галоўных герояў усёй дзеі — Калабка ды Бычка-Смалянога бачка. У абліччы Бабы й Дзеда адмыслова раскрыліся артысты Лідзія Воўчанка (Тамара Тэвасян) і Анатоль Мацвееў (Іван Герасевіч), а спектакль суправаджала музыка Анатоля Мядзведзева. Таму цалкам лагічна, што і сама пастаноўка мае назву "Кірмашовы балаган". Вытрымаўшы тузін прэм'ерных паказаў, спектакль, аднак, усё болей "набірае абароты" і з кожным разам абрастае новымі ды цікавымі знаходкамі-адметнасцямі.

**І. Х.**



**ЧАСАПІС**

## *Медаль Ф. Скарыны — Ст. Паптоневу*

**Напрыканцы мінулага года ў Федэрацыі дружбы з народамі СНД у Балгарыі адбылося ўручэнне медаля Францішка Скарыны вядомаму балгарскаму пісьменніку Стэфану Паптоневу.**

**На ўручэнні прысутнічалі супрацоўнікі МЗС, пасольстваў Украіны, Расійскай Федэрацыі, прадстаўнікі ад Рэспублікі Югаславіі і Славацкай Рэспублікі, сябры Федэрацыі дружбы з народамі СНД і Фонду "Славяне", а таксама прадстаўнікі розных творчых калектываў і дзелавых колаў Балгарыі.**

**Цырымонію ўручэння адкрыў старшыня Федэрацыі дружбы з народамі СНД прафесар З. Захарыеў. Ён адзначыў, што ўручэнне высокай дзяржаўнай узнагароды Рэспублікі Беларусь балгарскаму пісьменніку — гэта знамянальная падзея ў культурным жыцці Балгарыі. С. Паптонеў стаў першым балгарскім грамадзянінам, які атрымаў высокую ўзнагароду РБ за развіццё беларуска-балгарскіх літаратурных сувязяў.**

**Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Балгарыя А. Герасіменка зачытаў Указ Прэзідэнта РБ А. Лукашэнкі аб узнагароджанні С. Паптонева медалём Францішка Скарыны. Пасол адзначыў, што С. Паптонеў з'яўляецца старшынёй Таварыства дружбы "Балгарыя—Беларусь", якое сумесна з пасольствам РБ спрыяе двухбаковым культурным і рэгіянальным сувязям, выдавецкай дзейнасці. Пастаянна праводзяцца сумесныя мерапрыемствы ў галіне культуры. За кароткі прамежак часу таварыства разам з беларускім пасольствам выдала шэраг кніг беларускіх аўтараў на балгарскай мове. Сярод іх творы В. Быкава, А. Разанава, М. Гусоўскага, Я. Янішчыц. У альманаху "Панарама" былі надрукаваны творы больш чым 50 беларускіх аўтараў. На Беларусі ў часопісе "Полымя" выйшлі ў свет творы 24 балгарскіх аўтараў. Імя С. Паптонева вядома як у Балгарыі, так і ў Беларусі. Яго пяру належаць тры кнігі аб Беларусі, больш за сотню твораў беларускіх аўтараў пераклаў ён на балгарскую мову. Таварыства дружбы "Балгарыя—Беларусь" актыўна займаецца развіццём рэгіянальнага супрацоўніцтва. Філіялы таварыства створаны ў розных гарадах Балгарыі, падпісана 11 пагадненняў аб братэрскіх сувязях.**

**Са словамі ўдзячнасці выступіў С. Паптонеў. Ён адзначыў, што аказаны яму высокі гонар — гэта адзнака дзейнасці перш за ўсё Таварыства дружбы "Балгарыя—Беларусь", а таксама Федэрацыі дружбы з народамі СНД. Ён запэўніў, што медаль Скарыны будзе стымулам па актывізацыі яго працы, а таксама працы таварыства, якое ён узначальвае.**

**Ігар СТАНКЕВІЧ**

## *І гучалі рамансы*

**Нядаўна Ліду наведалі госці — народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін і вядомы бард Алесь Камоцкі. Р. Барадулін прачытаў свае вершы, з гумарам адказаў на пытанні слухачоў. А. Камоцкі распавёў пра агульны праект, над якім ён зараз працуе разам з Рыгорам Іванавічам. Справа ў тым, што на лірычныя вершы Р. Барадуліна ён зараз піша рамансы. Некаторыя з гэтых рамансаў і былі прапанаваныя слухачам. Дарэчы, яны былі вельмі добра ўспрынятыя, бо "рок" ці "метал" — гэта таксама добра, але калі-нікалі хочацца і нечага лірычнага.**

**Пасля сустрэчы ў Доме культуры госці наведалі лідскую школу N 4.**

**Л. САЗАНАВЕЦ**

## *Беларускі калегіум запрашае*

**19 студзеня Яўген Шунейка прачытае лекцыю па тэме "Беларуская архаіка: спробы актуалізацыі ў сучасным мастацтве".**

**26 студзеня пройдзе відэапрэзентацыя "Тэатра восьмага дня" (Познань, Польшча).**

**Лекцыі адбудуцца ў Цэнтральнай бібліятэцы Я. Купалы (актавая зала) па адрасе: вул. В. Харужай, 16. Пачатак лекцыяў у 18.30.**

***Дадатковую інфармацыю можна атрымаць па тэл. 256-36-13***

ВІНШУЕМ!

# Годнасць мастака і грамадзяніна

Мастак Васіль Шаранговіч.

Адзін з самых выдатных і знакамітых творцаў у гісторыі беларускай кніжнай і станковай графікі. Працы яго ў гэтым жанры — партрэты, кампазіцыі, пейзажныя малюнкі — прынеслі яму шырокую вядомасць і прызнанне як на Радзіме, так і далёка за яе межамі. Пацвярджэннем гэтаму — званні заслужанага дзеяча мастацтваў і народнага мастака Беларусі, Дзяржаўная прэмія рэспублікі і шматлікія іншыя айчынныя і замежныя ўзнагароды, прэміі, дыпломы.

Але асобу Шаранговіча на беларускай культурнай ніве немагчыма ўявіць і без яго другой іпастасі — іпастасі педагога. Трыццаць гадоў жыцця ахвяраваў ён педагагічна-выхаваўчай дзейнасці ў Беларускай акадэміі мастацтваў — спачатку выкладчыкам і загадчыкам кафедры, затым прарэктарам і апошнія дзевяць гадоў — рэктарам. Не толькі клапатлівы, чулы і патрабавальны настаўнік творчай моладзі, але і таленавіты арганізатар вучэбна-навуковай жыццядзейнасці славутай установы. Дарэчы, гэта яго стараннем тэатральна-мастацкі інстытут быў рэарганізаваны ў акадэмію.

Нарэшце, Васіль Шаранговіч — актыўны грамадскі дзеяч. Не пералічыць усе моманты ягонага ўдзелу ў важных грамадска-палітычных і культурна-асветніцкіх акцыях — там, дзе патрэбны яго творчы аўтарытэт, яго прынцыповая грамадзянская пазіцыя, яго ўзважанае на вагах сумлення слова. Дзе нярэдка даводзіцца паказаць і свой байцоўскі характар.

Сёння ўжо можна з усёй пэўнасцю сказаць: у асобе Васіля Шаранговіча Беларусь мае мастака-творцу і педагога высокай прафесійнай і грамадзянскай годнасці. З чаго яна пачыналася і як станавілася — гэта вызначальная рыса яго чалавечага і мастакоўскага характару? Ды напэўна з таго, з чаго пачынаюцца, узыходзяць, узрастаюць усе неардынарныя постаці нацыянальнай культуры: з пачуцця любові і ўдзячнасці. Любові да жыцця як да найвялікшага дару боскага, да зямлі, на якой нарадзіўся і вырас, абрысы і колеры якой, дух і водар якой, галасы і гукі якой уваходзілі ў душу з маленства і гэтую душу фарміравалі. Удзячнасці бацькам за хлеб надзённы і за вечны хлеб духоўнасці, за шчодрыя і мудрыя ўрокі чалавечнасці, а таксама суседзям-вяскоўцам, настаўнікам, затым — сябрам мастакам, пісьменнікам навукоўцам і ўсім іншым добрым людзям, якіх сустракаў на сваёй нялёгкай жыццёвай дарозе. Аднойчы, ужо будучы масцітым і знакамітым, ён слушна сказаў: "Мне ўвесь час шанцавала на добрых людзей, і я пільнаваўся, каб не застацца перад іх дабрынёй у даўгу".

Пачуццё любові і ўдзячнасці ў душы мастака своечасова пачало зніткоўвацца з пачуццём адказнасці і абавязку, а значыць, і строгай патрабавальнасці да сябе. Да сябе і, зазначым дзеля справядлівасці, да тых, хто ў справах, у дарозе з ім поплеч. Мала ведаю такіх абавязковых і верных сваім маральным прынцыпам людзей, як Васіль Шаранговіч. Ці ёсць патрэба падкрэсліваць, што без усіх гэтых якасцяў і рыс характару сур'ёзныя, значныя поспехі і дасягненні ў мастацкай творчасці немагчымыя? Зрэшты, і ва ўсякай іншай грамадска карыснай дзейнасці таксама.

Ад гадоў маладосці, ад пары вучобы і першых творчых спроб мастак Шаранговіч ішоў насустрач жыццю і часу з душою адкрытай і чуйнай да зрухаў і перамен у грамадскіх настроях, да тэндэнцый і праяў абнаўлення. Ён ішоў насустрач часу, а час — насустрач яму, насустрач яго запаветным марам і жаданням. Пасля доўгіх дзесяцігоддзяў гнятлівага застою і амярцвення ў душах нашчадкаў Скарыны пачала абуджацца і ўсё шырэй пускаць карані ідэя беларускага нацыянальнага адраджэння. Шаранговіч не спазніўся далучыцца да гэтага самага значнага і магутнага грамадска-палітычнага і культурна-асветніцкага руху ў гісторыі Беларусі канца XX стагоддзя. Усім сваім папярэднім жыццём, вучобай і працай ён быў падрыхтаваны да гэтага. Час, можна сказаць, прымусіў яго пільней прыглядзецца да гістарычнага жыцця-быцця свайго народа, глыбей удумацца ў асаблівасці яго лёсу, шырэй адкрыць для сябе гераічныя моманты і трагічныя павароты яго гісторыі. І канешне ж — яшчэ выразней убачыць сапраўдны характар народа, убачыць і — увасобіць у сотнях яскравых вобразаў-тыпаў беларуса. О, як многа бачыцца і прачытваецца ў гэтых разнастайных людскіх абліччах! Чалавечая годнасць, мужнасць і цвёрдасць характару, багацце і хараство ўнутранага свету, дабрыня і светлыня душы. Такім — высакародным, прыгожым, мудрым, эпічна-велічным і магутным — падае мастак свайго галоўнага героя. Створаныя ім графічныя партрэты беларусаў — ад звычайнага селяніна ці ганчара да Купалы і Коласа — у сукупнасці сваёй ёсць узнёслы, светлы гімн чалавеку і чалавечнасці, высокі, пранікнёны хваласпеў Беларусі і беларускаму народу. Нехта, можа быць, скажа — ідэалізацыя? Я наконт гэтай адметнасці мастацкага почырку Шаранговіча скажу інакш: гэта — філасофска-светапоглядная пазіцыя, гэта — своеасаблівая форма водпаведзі мастака-патрыёта ўсім тым незлічоным "ворагам беларушчыны", што ў сваіх пісаннях і маляваннях, наўмысна ці па бяздумнасці, прыніжалі і абражалі беларуса, падавалі яго вобраз пачварна скажоным, непрыглядным, духоўна ўбогім (падавалі і, на жаль, падаюць!). Думаю, гэта шчаслівая рыса светапогляду і таленту мастака — бачыць свой народ у высокіх праявах яго духу, ягонае жыццёвае волі. Гэта ёсць і красамоўнай адзнакай уласнага характару мастака: нязломлівы дробязна драбязіца, мітуслівa марнаваць час і сілы на пустое, нікчэмнае, нявартаснае.

Як вядома, талент або прызнанне кожны творца атрымлівае ад Бога. Але належным чынам, глыбока і верна зразумець гэтае сваё прызванне, але распарадзіцца ім, гэтым Божым дарам, у вышэйшай меры адказна, рацыянальна і разумна, але нястомна і нязухільна ісці ўсё жыццё шляхам самаахвярнага служэння вялікім ідэалам Бацькаўшчыны, — гэта даецца далёка не ўсім, пазначаным ласкай Усявышняга. Мастаку Васілю Шаранговічу гэта дадзена.

**Ніл ГІЛЕВІЧ,**
**народны паэт Беларусі**

# Гады. Творы. Школа.

*(Працяг на стар. 1)*

Як творца Васіль Шаранговіч сфарміраваўся ў 60-я гады. Пра "шасцідзесятнікаў" пісалі і яшчэ будуць пісаць, як пра феномен у мастацтве, калі на грунце ідэалагічных установак таталітарызму пасляваеннага беларускага савецкага мастацтва выпеставалася пакаленне нацыянальна свядомых творцаў. Выяўленчае мастацтва пазбавілася так званага "сацыялістычнага рэалізму", развіццё атрымалі тэатр, музыка, кіно, радыё, архітэктура, а найперш — мастацкая літаратура. А ўздым нацыянальнай літаратуры паспрыяў шырокаму развіццю беларускай кніжнай графікі. Сярод тагачасных маладых графікаў загучала і імя Васіля Шаранговіча.

Яшчэ падчас навучання ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце Васіль Шаранговіч супрацоўнічаў з кніжнымі і часопіснымі выдавецтвамі. А гэта — сотні ілюстрацый, застаўак, вокладак і пераплётаў, шматлікі эскізны матэрыял да літаратурных твораў часам у даволі эксперыментальных тэхніках. А дыпломнай работай (14 лінагравюр па матывах паэм Янкі Купалы) пачаўся адлік "Купаліяны" мастака, замацаваліся і сталі пазнавальнымі асноўныя рысы яго творчага почырку. Багацце асацыяцый, глыбіня вырашэння тэмы, выразная манументальная пластычнасць вобразаў, эпічнасць і псіхалагічнасць, вялікі арсенал тэхнічных і кампазіцыйных сродкаў, артыстычнае падпарадкоўванне дэталяў галоўнаму ды шмат іншае выразна праяўляецца пры стварэнні ілюстрацый да купалаўскіх "Паэм" (1978), "Адвечнай песні" (1981), трыпціха "Дзе крыўда адвечная спела" (1993). Свет Купалы сімвалічны. Менавіта ён найбольш увасобіў у сваёй творчасці нацыянальную ідэю. Фраза-пытанне "А хто там ідзе?" успрымаецца сёння ў магутным сцвярджальным гучанні, і гэта набыло выдатнае адлюстраванне ў аднайменнай графічнай рабоце В. Шаранговіча (1976).

Можна доўжыць пералік твораў мастака, тым больш, што ён працаваў і працуе і ў станковай, і ў кніжнай графіцы. Кніжная графіка В. Шаранговіча адзначана 15-цю дыпломамі ўсесаюзных і 20 рэспубліканскіх конкурсаў "Мастацтва кнігі", сярод якіх 4 дыпломы імя Ф. Скарыны. За 35-гадовы творчы шлях мастаком былі праілюстраваны больш за 60 выданняў, сярод якіх кнігі Я. Коласа, Д. Рыда, У. Караткевіча, М. Багдановіча, Н. Гілевіча, Р. Барадуліна, У. Маякоўскага... У 1978 г. у выдавецтве "Беларусь" выйшла кніга А. Бялевіча, "Споведзь сэрца", прысвечаная Хатыні. Менавіта ілюстрацыі да яе, адзначаныя ў 1979 г. журы Усесаюзнага конкурсу "Мастацтва кнігі" дыпломам 2-й ступені, былі пакладзены Васілём Шаранговічам у аснову знакамітай станковай серыі "Памяці вогненных вёсак", за якую мастак быў адзначаны Дзяржаўнай прэміяй Беларусі ў галіне выяўленчага мастацтва 1986 года.

Важна падкрэсліць педагагічную дзейнасць прафесара Шаранговіча. Сапраўднага майстра заўжды вызначаюць славутыя імёны вучняў і паслядоўнікаў. А для Васіля Пятровіча гэта — цэлае пакаленне графікаў, сярод якіх М. Селяшчук, В. Славук, Р. Сітніца, У. Савіч, В. Валынец, Л. Палякова, У. Вішнеўскі, Ю. Хілько і іншыя. Менавіта яны склалі яркую старонку беларускага выяўленчага мастацтва апошніх двух дзесяцігоддзяў. З імем В. Шаранговіча звязана і станаўленне кафедры графікі Беларускай акадэміі мастацтваў. Вынікам яго працы на пасадзе загадчыка кафедры стала фарміраванне беларускай школы графікі, якая абапіраецца ўжо на ўласныя традыцыі і якой доўга яшчэ не будуць пагражаць занепад і эксперыментатарства. Школа гэта вядома на сённяшні дзень не толькі на Беларусі, але далёка за яе межамі. Павага да мастака, педагога, грамадскага дзеяча знайшла сваё адлюстраванне ў 1989 г. у выбары калектывам акадэміі В. Шаранговіча на пасаду рэктара, калі свядома быў абраны накірунак да нацыянальнага культурнага адраджэння Беларусі. З Беларускай акадэміяй мастацтваў звязана трыццацігадовая (з 1967 да 1997 г.) лепшая частка творчага і педагагічнага жыцця Васіля Пятровіча.

Але мастак заўжды ў шэрагу стваральнікаў — цяпер новага, гэтак неабходнага рэспубліцы Музея сучаснага мастацтва Беларусі. Разам з арганізацыйнай дзейнасцю, шматлікімі выступленнямі ў друку і перад грамадскасцю Васіль Шаранговіч не перастае плённа працаваць. У майстэрні ўвесь час з'яўляюцца новыя творы, яго гравюры, акварэлі няспынна вандруюць па экспазіцыях рэспубліканскіх і міжнародных выстаў, захоўваюцца ў прэстыжных зборах. Не толькі на радзіме адзначаны талент мастака. За афармленне паэмы А. Міцкевіча "Пан Тадэвуш" (1985) у 1986 г. яму было прысвоена званне "Заслужаны дзеяч культуры Польшчы". А да 200-годдзя з дня нараджэння Адама Міцкевіча мастак завяршыў у 1998 годзе цыкл ілюстрацый да славутага твора. Юбілейнае выданне паэмы набыло мастацкую завершанасць і стала па-сапраўднаму унікальным. Шмат увагі аддае мастак і Беларускай акадэміі выяўленчага мастацтва (БелАВМ), акадэмікам графікі якой ён з'яўляецца.

Зараз Васіль Шаранговіч — у творчым росквіце, поўны смелых задум, жадання працаваць на карысць Беларусі. Сам ён гаворыць: "Не магу заставацца ўбаку..."

Віншуем Васіля Пятровіча з юбілеем, зычым яму адданасці ў працы, у шчаслівым і цяжкім лёсе мастака.

ШЛЯХІ

ВАКОЛ ЯГО — амаль біблейская таямніца.

Яго карціны — малавядомыя (большая частка схавана ў запасніках, не ў самых лепшых умовах), яны такія загадкавыя, інтрыгуючыя, гэтак мастацтвазнаўча не інтэрпрэтаваны, як і сам лёс мастака, падобны на траекторыю каметы, дзе злучок за датай нараджэння пераходзіць у шматкроп'е. Гэта балючая прыкмета, бо геніі (у асаблівасці геніі-"квазары", як Моцарт, напрыклад) не маюць дат смерці альбо магіл.

Што да жанру, дык Драздовіч — ледзьве не адзіны прадстаўнік этыка-філасофскага накірунку жывапісу на Беларусі (накірунку, якое ўзыходзіць да Мікеланджэла, Босха, Гоі і мае працяг у творчасці Пікасо і Далі). Цыкл "Марсіянскія хронікі" Драздовіча — гэта спроба інтуітыўнага, паэтычнага, сакральнага, філасофскага асэнсавання праблемы існасці нацыі, чагосьці ўнутранага ёй уласцівага, або, як гавораць філасофы, іманентнага ёй, і разам з тым вызначэнне пэўных умоў адраджэння нацыі з улікам своеасаблівасці яе генатыпу, у той час, калі адпаведных навуковых дысцыплін, накшталт сацыяльнай псіхалогіі ці культуралогіі (альбо кампаратывістыкі) не было. Але трэба сказаць, што некаторыя ісціны адкрываюцца толькі паэтам з вялікім апярэджаннем свайго часу. І Драздовіч — геніяльны ўзор першынства спасцікжэння.

# Адкрыццё нацыі

## ГОРЫЧ І ГОНАР ЯЗЭПА ДРАЗДОВІЧА

Галіна МАЙСЕЙЧЫК

**Ісціна першая:** адкрыццё гістарычнага парадоксу, што ў 1917-18 гадах нацыянальная рэвалюцыя "выпала" з кантэксту сацыяльнай. Гэты ж самы парадокс паўтараецца ў наш час: і тая сацыяльная рэвалюцыя, і цяперашняя "перабудовачная" па сутнасці сваёй — кампрадорская. У выніку іх нацыя "адкідваецца да зорак" (А. Экзюперы) альбо пускаецца ў "нябесныя бегі" (Я. Драздовіч).

Каб усвядоміць сабе феномен і трагедыю заняпаду магутнай колісь беларускасці і церніяў яе адраджэння, тлумачэнне якіх ніколі не падавалася мне (думаю, са мной пагодзяцца) дастатковым і пераканаўчым, бо заўсёды заставалася загадка і пачуццё незразумелай фатальнасці, то трэба было б выкарыстаць эўрыстычны патэнцыял наступнага падыходу.

У эпоху свайго росквіту Ліцвінская Беларусь была ўзорам еўрапейскай культурнай дэмакратыі на духоўнай глебе артадаксальнага хрысціянства. Лепшыя доказы яе развітасці — даты выдання біблій на нацыянальных мовах, якія сведчаць, што Літва была ў ліку першых у адукаванай Еўропе (паперадзе Польшчы, Украіны і Расіі). І іменна на гэтым шляху ўласнага ўдасканалення бачыў перспектыву развіцця радзімы Скарына. Але ж у Еўропе ў гэты час пракацілася магутная пратэстанцкая хваля (нават само Адраджэнне і выданне біблій на нацыянальных мовах было абавязана гэтаму руху). Больш таго, з'яўленне мадэлі сучаснай заходняй дэмакратыі стала магчыма (як гэта досыць пераканаўча паказаў, напрыклад, Макс Вэбэр) на духоўнай і ідэйнай глебе пратэстантызму. На Беларусі, як вядома, пратэстантызм не атрымаў развіцця. Тут, наадварот, дамінавала праваслаўе і экспансіўна пранікалі з Захаду езуіцкія ордэны, крэда якіх было ў адстойванні чысціні каталіцтва. Таму паўстае пытанне: было такое спалучэнне дзвюх артадаксальных канфесій (праваслаўя і каталіцтва) і культурнай дэмакратыі правілам альбо хутчэй выключэннем з правіла? Ва ўсякім разе, нам падаецца, што *нашу гісторыю трэба разглядаць у кантэксце канфесійнай гісторыі і драматычнага пошуку адэкватнага канфесійнай існасці прававога і сацыяльна-культурнага яе ўвасаблення.* Такі падыход можа растлумачыць сэнс і механізм заходняй і ўсходняй экспансіі праз рэлігійнае месіянства і асіміляцыю нацыянальнай ліцвінскай арыстакратыі.

*Гіпотэза:* неадэкватнасць альбо немагчымасць спалучэння артадаксальных хрысціянскіх светавызначальных мадэляў і дэмакратыі ў часы ліцвінскага росквіту прадвызначылі няўстойлівасць ліцвінскай дзяржаўнасці і грамадства і трагедыю заняпаду беларускай нацыі. Да таго ж, абедзве артадаксальныя канфесіі ў тым часе знаходзіліся ў стане (антаганістычнага) суіснавання. З пункту гледжання глабальнасці "эксперыменту" лёс беларускай нацыі з'яўляецца настолькі паказальным, вызначальным, што яго сапраўды можа ахарактарызаваць, як месіянскі. Гэты тэзіс яшчэ трэба ўсвядоміць сродкамі гісторыі, паліталогіі, тэалогіі, культуралогіі і сацыялогіі. Але найпершай прыкметай такога месіянства з'яўляецца само паяўленне на беларускай зямлі генія і жыхара Сусвету — Язэпа Драздовіча.

Гэтая гіпотэза дазваляе таксама ўсвядоміць сілу разбуральнасці знешніх уплываў на Беларусь і беларускую існасць. Асіміляцыя беларускай нацыі і дзяржавы была ўдалай, бо ажыццяўлялася *гамагеннымі*дзяржаўна-рэлігійнымі ўтварэннямі. З Захаду гэта — каталіцызм і крызісная манархія ўжо з трэшчынамі абсалюту, які паспешна латаўся духоўным наднацыянальным манархам тагачасных заходніх манархій — Ватыканам і яго ордэнамі; з Усходу гэта — праваслаўе і абсалютная пакуль што (да Пятра) тэакратычная манархія. Механізм асіміляцыі пачынаўся са схілення нацыянальнай арыстакратыі да калабарацыянізму ў дуалістычнай (двухнацыянальнай, двухрэлігійнай, двухсветаадчувальнай) імперыі, якой была на працягу 12—14 стст. Ліцвінская Беларусь. (Магчыма, спецыялісты палічаць гэтую назву адвольнай і некарэктнай з пунту гледжання існуючай тады гістарычнай назвы, але яна справядлівая з пункту гледжання генезісу сучаснай беларускай нацыі і дзяржаўнасці, а таксама сучаснага пункту гледжання на сэнс і змест яе гістарычнай, тапанімічнай таксама, эвалюцыі). Для дэнацыяналізацыі ліцвінска-беларускай арыстакратыі ўсе сродкі былі добрыя — ад раздачы зямель да іх секвестравання, ад подкупу і падману да трансфармацыі права. Магдэбургскае альбо саксонскае права, якое прывівалася на Беларусі стараннямі і з падачы езуіцкіх ордэнаў і каралеўскай каталіцкай Польшчы з канца XII ст., азначала рэальна абмежаванне правоў беларуска-літоўскіх вялікіх і малых князёў (гл. А. Канчар). Затым шляхам паступовай і вельмі дасканала прадуманай дэарыстакратызацыі гэтыя правы арыстакратычнай дэмакратыі страціла ўжо нацыя ў цэлым. Такім чынам, вынікам дэнацыяналізацыі арыстакратыі была дэарыстакратызацыя нацыі. Пазней мы, магчыма, больш дэталёва пакажам механізм гэтай з'явы. Бо гэта ўжо прадмет самастойнага даследавання. Тут жа толькі зазначым, што Драздовіч мастацка-выяўленча выдатна-геніяльна высвеціў сэнс беларускай трагедыі, паказаўшы сучасную яму Беларусь 20—30-х гадоў як нацыю "тутэйшых дзядзькоў", жыццёва мудрых і духоўна дасканалых, але зусім безабаронных і бездапаможных перад пагрозай новага таталітарызму — зноў, як спрадвеку, і з Захаду і з Усходу. Бо яны, дзядзькі, тагачасна, як і спрадвеку, не маюць нацыянальна-ідэнтыфікаваных правоў чалавека і дасканалых умоў і гарантый для такой ідэнтыфікацыі.

Дарэчы, "срэбраны век" беларускага Адраджэння ў 20-я гады XX ст. пачаўся з грамадскай дыскусіі іменна па гэтым пытанні.

*Ісціна другая:* нацыянальнае — гэта тое, што на ўзроўні касмічнага, але прыдае яму цепліню і сэнс. Якраз гэта вызначыла крэда мастацкай канцэпцыі Драздовіча. Гэта — узнёслы, касмічны, касмагенны, касмапалітычны нацыяналізм — касмапалітызм месіянства. А таксама гратэскавасць і мадэрнізм як асаблівасці яго мастацкага стылю.

*Ісціна трэцяя:* адраджэнне нацыі магчыма толькі на такім, касмічным, узроўні, толькі праз панкасмізм. (Дарэчы, да гэтае ісціны падыходзіў М. Багдановіч, а таксама і Дастаеўскі. Можа, камусьці падасца міфанімічным, але я ўспрымаю выснову апошняга як доказ яго беларускага паходжання).

Больш падрабязна наконт таго, што гэта за гістарычныя ўмовы і што гэта за своеасаблівы генатып беларускай нацыі. Рысы генатыпу беларусаў вельмі супярэчлівыя і ў той жа час гэта вельмі цэльны тып. На адным полюсе — заніжаная самаацэнка ці нясхільнасць да самаацэнак, вербальная скупасць, адсутнасць пасіянарнасці, падаўленасць і цярплівасць, паслухмянасць, рахманасць, інфантыльнасць, наіўнасць, правінцыйнасць, патрыярхальнасць. На другім — адкрытасць, успрымальнасць, асімілятыўнасць, антыізаляцыянізм, вялікацярпенне і планетарная свядомасць, ветлівасць і вялікасвецкасць, далікатнасць, прыроджаная культура зносін і патэнцыяльная палітычная (палітэсная), культура, "талерантнасць" і хрысціянскасць ("будзьце як дзеці"), здаровы скептыцызм і здольнасць да экстрэмальнай канцэнтрацыі сілы і экспрэсіі.

Асаблівасць гістарычнай сітуацыі. Уваходжанне (навязанае звонку) у новую імперыю ў той момант, калі магчыма было з'явіцца перадумовам нацыянальна-культурнай ідэнтыфікацыі. Афармленне БНР (1918) і адраджэнне сваёй арыстакратыі (духу, вядома, у першую чаргу — гэты час — беларускі "срэбраны" век). Але драматызм і нават трагізм сітуацыі не вычэрпваўся толькі спыненнем намечанага нацыянальнага развіцця, штуршком у таталітарнасць у бязлікую касмапалітычную і — найбольш глыбокі пласт драматызму — у антыарыстакратычную, антынацыянальную імперыю. Больш глыбіннай была дэфармаваная структура самой нацыі, якая ў гэты час ідэнтыфікавала сябе з плебейскай, мужыцкай. "Вярхі" (зусім як зараз) не былі нацыянальнымі. Таму зыходная нацыянальная маса была досыць аморфнай, амальгамнай, яна не набірала крытычнай масы для самараскрыцця яе нацыянальна-генетычнага кода. На той час адсутнічалі неабходныя для звычайнага сцэнарыя генезісу буржуазнай нацыі ўстоі традыцыйнага *грамадзянскага грамадства* (неразвітасць прысутнічае нават у гэтым плеаназме). Беларускае грамадства на працягу сваёй гісторыі амаль заўжды было інтэгравана ў імперскія дзяржаўныя структуры з перманентным змяненнем сілавых цэнтраў і іграла ролю балансіра паміж духоўнымі імперыямі. Гэта істотна паўплывала на абазначаныя вышэй асаблівасці беларускага генатыпу, у прыватнасці такія, як надзвычайная асімілятыўнасць і касмапалітызм. Драздовіча цікавіць, аднак у адваротнай ступені, сувязь паміж якасцямі нацыянальнага генатыпу і гісторыяй нацыі.

Падыход вызначаць нацыянальную гісторыю з асаблівасцяў сацыяльнай псіхалогіі і нацыянальнага генатыпу не новы ў сацыялогіі. Яго аўтарамі і распрацоўшчыкамі з'яўляюцца М. Вэбэр і Т. Парсанс. Але што да яго прымянення на ўзроўні жывапіснай эстэтыкі і мастацкай інтуіцыі, тут Драздовіч з'яўляецца абсалютным наватарам. Другі прэцэдэнт на ўсёй гісторыі жывапісу наўрад ці знойдзем.

У Драздовіча вельмі сімвалічнае — паэтычна-светаасэнсоўнае — спалучэнне вобразаў, своеасаблівае клішэ сюжэта. Па-першае, гэта гістарычна-рэалістычны блок — замкі, палеткі, хаты, гумны, дываны і касмазорныя пейзажы з фантастычнымі полісамі і побытам.

Відавочна, такая своеасаблівасць выклікана адметнай глыбіннасцю тэматыкі, ідэі "культурнага адраджэння этнасу". Менавіта гэтая ўзнёслая ідэя арганічна яднае два полюсы, два сусветы, два пласты вызначэння нацыі, яе існавання і лёсу, самой беларускай душы і беларускасці. Адзін — старажытны са спаэтызаваным мінулым, шчымліва-трагічным, бязмежным, невычэрпным, гісторыка-славянскім, сакральным, спрасаваным да арнамента. Другі — неалагічны, фантастычны, касмагенны, які характарызуецца нейкімі словамі, якія нават зараз завараюць слых незвычайнай і надзвычайнай мелодыкай першаадкрыцця. Як магічна: "паветракі-напалётныя вандроўкі па лунай краіне", "касмавізії", "астральныя падарожжы", "велічава-прыгожыя муры", "узвышшы ўздоль трактаў" альбо "тускласветная папяляная ноч". Усяслаў Чарадзей — і лідэр, нехта з жахлівай харызмай руйнуючай улады; "нутро старой капліцы з распятым Хрыстом" і "нірвана", гравюры цэркваў, касцёлаў, капліц і замкаў — і цыркі і марсіянскія або сатурнавыя пейзажы. Альбо назвы: Гарадзішчы, Гарадзец, Гарадольня, Гарадзея, Гараватка, Гародня... Услухайцеся ў спалучэнне: гарадзішч, гарадоў, гарышч, агарод, якое прымае ўвасабленне ў нагорных пейзажах-прапаведзях, пейзажах-прывідах. Абодва вымярэнні роўныя па моцы, яны не маюць яснай грані, яны прадужаюць і прыцягваюць адно аднаго, яны сплаўлены і пераплаўлены. Урэшце гэта выражэнне адной і той жа існасці "на заўсёдныя часы". На гэтым працэ-су-існаванні становіцца зразумелай сакральная формула беларускасці і нацыянальнасці. *Нацыянальнае — тое, што на ўзроўні касмічнага, але прыдае яму хатнюю цеплыню і боскі сэнс.*

Драздовіч будуе праекцыю праз час — на промні рэтра- і прад-бачання, каб ахапіць прастору і час у велічным і шматвымяральным (мета-, мега-, косма-) існаванні. Ён імкнецца знайсці адвечны парадак існавання нацыянальнай беларускай існасці. Праз сувызначэнні, сувымярэнні, суіснаванні. Гара Гедыміна вельмі падобная на кратэр вулкана. Хаты, гумны, дрэвы (тонкія, ажурныя, замілаваныя, заваражаныя), дзядзінцы, палеткі набываюць свае падоўжаные існаванне, быццё ў паселішчах, абсерваторыях, цырках, гарадах і дрэвах таксама (але ўжо дзябёлых, экзатычных, нязвыкла цяжкавагава чужынскіх).

"Мілы шчыры побыт хацін і гумен, касцёлкаў і царквак" — і "Цырк капернік", кратэры і штучныя моры. Палеткі набываюць узор і стыль дываноў, становяцца вельмі гарманічнымі, строгімі, арнаментальнымі. Валачобныя абрады ператвараюцца ў сустрэчу вясны на Сатурне. Але гэта — толькі сродак кадыфікацыі часу, як сказалі б зараз, эксперымент у рэальным часе, а таксама і з часам. Вось як аб гэтым паведаў сам майстра: "Усё тое, што мне даявілося бачыць на Месяцы праз любоў і веру ў звышнатуральнае, па-за часам і прасторай — не ёсць ані з мінуўшчыны, ані з будучыні, а настаяшчае, сучаснае, як яно ёсць цяпер...".

І люд — быццам бы той жа самы — прымае нейкае новае вызначэнне нейкай аднароднай масы, якая магутная і велічная, але яшчэ скораная, яшчэ не праяўленая, на адзін твар. Як лава. У чаканні месіі.

Таму нельга без іроніі ўспрымаць абвінавачванні Драздовіча ў нацыяналізме. Бо ён паказаў вытокі касмапалітычнай па сутнасці нацыі. А перанос тагачасных людзей у касмічныя абставіны — спроба паказаць тагачасны душэўны і духоўны, акрылены рэвалюцыйны ўздым. У літаратуры таго часу падобны прыём знаходзім у Андрэя Платонава. Таму і звычайныя беларускія пейзажы Драздовіча выкананы "з птушынага палёту". Мастак глядзіць на наваколле "вачамі, поўнымі крылаў".

Сплаў часоў Драздовіч імкнуўся перадаць у рэчах паўсядзённага народнага, сялянскага побыту: дыванах і дыванках. Таму сярод звыклых і да болю знаёмых сіметрычных лебедзяў ці архаічных кветачках не-не ды ўсплыве дзівосны незямны пейзаж, месячны краявід. Майстрам кіравала ўсведамленне... задачы духоўнага першапраходцы, эстэтычнага місіянера: "Аддаюся дзеля развіцця ў народзе мастацка-эстэтычнага пачуцця і размалёўваю для запрашаючых на простым вясковым саматканым афарбаваным па чорным палатне рознаўзорыстыя дываны — *арэналы*(выдзелена мной. —**Г. М.**) з месячнымі пейзажамі на асяродках." Мастак стварыў серыю дыванаовых краявідаў з замкамі. Магчыма, многія з іх яшчэ захаваліся ў вясковых хацінах, перажыўшы і мастака, і іх сціплых уладальнікаў. Але гэта была яшчэ і вельмі неалагічная спроба (дарэчы, вельмі сугучная сучасным "постматэрыяльным каштоўнасцям"), — увасобіць у народных ужытковых паўсядзённых рэчах наватарства і геніяльнасць светапогляду чалавека, які шчодра аддаваў адкрыты ім *старажытны космас.* Згустак новага густу. "Дываны-арэналы", "нябесныя бегі", "веранда ратунку", "гара Сігнал", "бальшына", "трывеж" — глыбінныя, плынныя, новыя, як глыткі незразумелага наканавання і бачання яго словы. Захапляючыя, зязюючыя, зямельныя і нябесныя, круглыя, як планетныя формы. Словы, за якімі спасціжэнне новых законаў светабудовы і чалавечай супольнасці.

Тут прадбачлівы чытач можа ўсклікнуць: "Божа! У гэтым — ключ да ўсведамлення формулы генатыпу нашае нацыі: існаванне ў глыбінях самавыражэння ў сабе — без адэкватнага (ці, барані Бог, рэкламуючага) праяўлення вонкі". Так. Гэткі ж і лёс нацыі.

## Зоркам — разгарацца




**Зборнічак вершаў пад ласкавай назвай “Крынічка” — вынік двух папярэдніх конкурсаў юных паэтаў і кампазітраў Віцебскай вобласці. Старшынёй журы конкурсаў, аўтарам прадмовы і рэдактарам зборніка быў аўтар гэтых радкоў.**

**І вельмі ўсцешна, што закладзеная традыцыя мае працяг. Сведчанне таму — выхад лепшых твораў юных паэтаў і кампазітараў Віцебшчыны пад агульнай назвай “Зоркі Прыдзвіння”. Можа, яно крыху і занадта — “зоркі”. Лепш мо сказаць пакуль што сціплей — зорачкі. Выхад зборніка — плён апошняга абласнога конкурсу юных талентаў, цеснага супрацоўніцтва абласнога аддзялення па арганізацыі пазашкольнай работы з дзецьмі і падлеткамі, абласнога метадычнага цэнтра і абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў.**

**Чытаю вершы, тэксты песень. Многія аўтары мне даўно знаёмы, бо друкаваў іх у літаратурнай старонцы “Зарніцы” ў газеце “Віцебскі рабочы”, як старшыня журы абласнога конкурсу “Дэбют” рэкамендаваў на рэспубліканскі конкурс. Вось, напрыклад, мае знаёмыя Васіль Гарановіч з Глыбокага — вучань 7 класа СШ N 3, Ганна Навасельцава — вучаніца 8 класа СШ N 11 г. Віцебска, Юля Вітко — вучаніца 11 класа СШ N 1 у Мёрах...**

**Карацей кажучы, у кніжцы прадстаўлена творчасць шасцідзесяці аўтараў ва ўзросце ад 10 да 17 гадоў. Што ж, гэта ўзрост, які патрабуе пільнай увагі старэйшых таварышаў-пісьменнікаў. А яна была, ёсць і будзе. І новую кніжку адрэдагаваў і напісаў да яе прадмову паэт і празаік Барыс Беляжэнка, а сабрала вершы метадыст вышэйназванага аб’яднання Ларыса Пабядзінская.**

**Зборнік выйшаў. І — няхай разгараюцца зоркі!**

**Алег САЛТУК,**
**сакратар Віцебскага абласнога аддзялення СБП**

## “Нёман”, NN 11—12

**Чарговы нумар часопіса “Нёман” выйшаў здвоены. Адкрываецца ён паэмай У. Някляева “Індыя”. Змешчаны падборка вершаў А. Дракахруста “Асенні зоркапад”, “Запісныя кніжкі розных гадоў” А. Адамовіча, аповесці В. Гігевіча, М. Купрэева, апавяданне С. Астраўцова. Да 200-годдзя з дня нараджэння слыннага сына беларускай зямлі — развагі Л. Тарасюк “Кантэкст Адама Міцкевіча”. У раздзеле “Запіскі. Успаміны. Дакументы” прапануюцца “Справа N 33556” А. Кудраўца і “Успаміны члена Беларускага гуртка” Г. Царыка. Матэрыялы навуковай канферэнцыі “Максім Гарэцкі: жыццё і творчасць” дазваляюць глыбей спасцігнуць свет, увасоблены класікам нацыянальнай літаратуры. Друкуюцца выступленні М. Мушынскага, І. Шаўляковай, Н. Пыско, А. Барадзіной. Г. Ануфрыеў (“У мастацтве — душа народа!”) гутарыць з першым намеснікам міністра культуры Рэспублікі Беларусь У. Рылаткам.**

# Раяцца словы з душою

### ЛІРА-ФІЛАСОФСКАЯ МІНІЯЦЮРА Ў КНІЗЕ ЯНКІ БРЫЛЯ “ДЗЕ СКАРБ ВАШ”

Даўно вядома, што мы, людзі, стварэнні маланазіральныя і не да канца праўдзівыя нават перад сабой. Авалодаць няпростым мастацтвам быць самім сабой дадзена далёка не кожнаму, таму, відаць, і цягне нас так упарта да рызыкантаў, якія не баяцца агаліць перад іншымі сваю душу. Мы зайздросцім ім, спрачаемся, нават злараднічаем (ага, і ты не лепшы за мяне!), але, самае галоўнае, мы пачынаем іншы раз глядзець і на сябе іх яснымі вачамі.

Аўтарытэтны ў філасофіі і літаратуры чалавек некалі сцвярджаў: “Толькі тое чытанне вартае, калі кніга “перажываецца” (В. Розанаў). Творы Янкі Брыля чытаць па-іншаму, без “перажывання”, проста немагчыма. Яны ў нечым парадаксальныя, бо адначасова прыцягваюць і насцярожваюць, даюць пачуццям палёгку і стамляюць іх. А прычына ўсяму — адкрытасць аўтаравай душы. Вось і апошняя па часе кніга “Дзе скарб ваш” не стала ў гэтым плане выключэннем.

Кампазіцыйны прыём, закладзены ў яе аснову, можна азначыць як прыём “свядомай непаслядоўнасці”. У большай ступені ён, праўда, уласцівы ліра-філасофскім мініяцюрам пісьменніка, чым яго эсэ і апавяданням. Знешняя калейдаскапічнасць думак, тэм і сюжэтаў мініяцюр дае магчымасць чытачу засяродзіцца на тым, што ён лічыць для сябе найбольш важным. Для самога ж аўтара шматгалоссе думак — рэч натуральная, бо адценьвае і пацвярджае заканамерную выснову: жыццё багацейшае, важнейшае за літаратуру.

Нягледзячы на многія моманты, якія захапляюць нязмушаным гумарам, кніга атрымалася мінорнай па сваёй настраёвасці, сугучнай, зрэшты, сённяшняму невясёламу часу. Ды і на што вартае спадзявацца, калі аўтар не чужымі вачамі бачыць, як штодня мізарнеюць памкненні зняверaных людзей, а іх кіраўнікі ўсё яшчэ знаходзяць асалоду ў звыклым пустазвонстве? Адкуль узяцца аптымізму, калі ў гэтым жыцці ўсё менее і менее сяброў, адны з якіх адыходзяць на вечны супакой, а да іншых не прарвацца праз наспех зладжаныя кімсьці бар’еры? “Да ўсіх бедаў нашага ліхалецця — яшчэ і гэтая міжнародная раз’яднанасць!..” — з непрыхаванай горыччу прамаўляе пісьменнік. На жаль, і тая вялікая справа, якой прысвяціў ён свой талент, таксама немаведама калі і кім будзе завершана (“На колькі пакаленняў разлічана яно, наша беднае адраджэнне? Ды яшчэ пры нашай нацыянальнай энергіі...” Але хіба чалавек жыве толькі аднымі сусветна важнымі праблемамі? Не, вядома. Хаця менавіта яны і вызначаюць агульны настрой, непакояць і нервуюць. Так ці іначай, але пісьменнік пачувае сябе вельмі няўтульна сярод чэрстваcці і хлусні, якімі набрыняла грамадства. Ён прызнаецца: “На душы зачаста бывае цяжкавата, асабліва начамі... У будучыню загадваць не прыходзіцца, а жыць днём сённяшнім мы не ўмеем...”

Пад гэтым “мы” чамусьці не хочацца падразумяваць аўтарскае “я”, бо самі творы паказваюць на тое, што ў Янкі Брыля ёсць свая “экалагічная ніша”. Праца за пісьмовым сталом, сям’я, прырода, чытанне, якое таксама — праца, знаёмыя і незнаёмыя людзі — ды ці мала таго, што дапамагае расквеціць будзённасць!.. Пісьменнік умее па-юначаму радавацца непаўторным імгненням, якія дорыць жыццё: “Такі дзянёк пачаўся, такая сонечная, яшчэ ўсё — у канцы верасня — зялёная краса. А на стале такая любая работа — вычытванне пасля машынкі новага, чаго за пяць дзён не чытаў, каб трохі пасвяжэла вока.

І чаго табе трэба, куды ты спяшаешся? Сёння ж тут тое, што потым успамінаецца як вялікае шчасце". Сэнс чалавечага жыцця... Ён зусім не ў празе недасяжнай вечнасці, ён у тым мімалётным, што дае душы паўнакроўнасць і бясконцае абнаўленне. Своеасаблівы фетышызм жыццёвых імгненняў праяўляецца ўвогуле ва ўсёй творчасці пісьменніка, але якраз мініяцюры сталіся найлепшым увасабленнем аўтарскага крэда.

Янка Брыль, як заўсёды, скупаваты на словы. Ён вельмі тонка адчувае мяжу, за якой можна з лёгкасцю страціць разуменне і ўвагу чытача, бо, не сакрэт, гаварунам, як і зацятым маўчальнікам, не надта даверaюць. Таму думкі пісьменніка важкія і лаканічныя, амаль не скажоныя капрызлівымі словамі. Не дзіва, што многія з маладзейшых, імкнучыся да поўнага самавыяўлення, усё часцей спрабуюць свае сілы ў галіне менавіта самай малой празаічнай формы. Іх смеласць уражвае, аднак ці хопіць ім бездакорнага густу, мудрасці і майстэрства, каб не надакучыць чытачу самапаўторамі? Хто ведае, бо нават Настаўнік дазваляе сабе іншы раз буркатлівае: “Пісаць для сябе. Можна так дапісацца, што цікава будзе толькі самому сабе”. Творам Я. Брыля няўвага з боку чытачоў не пагражае. Расслабленым рафінiраванай белетрыстыкай, нам таксама калі-нікалі хочацца наталіцца шчыра-жыццёвым.

Той, хто спрабаваў выкласці на паперы свае думкі, ведае, як цяжка знайсці ім адпаведнае слоўнае ўвасабленне. Пакутліва шукае патрэбныя словы і несумненны талент, і звычайны рамеснік ад літаратуры. Уся розніца толькі ў выніках іх пошукаў. Калі чытаеш творы Я. Брыля, міжволі звяртаеш увагу

*Янка Брыль. “Дзе скарб ваш. Лірычная проза”. Мн., “Мастацкая літаратура”, 1997.*

# Падыходзіў творча

### ЯНКА КУПАЛА — ПЕРАКЛАДЧЫК АДАМА МІЦКЕВІЧА

15 мая 1905 г. у газеце “Северо-Западный край” з’явіўся першы арыгінальны верш Я.Купалы “Мужык”, а 9 ліпеня таго ж года датаваны першы пераклад беларускага паэта — балада “Тры Будрысы” А.Міцкевіча. Глыбока сімвалічна, што ў самым пачатку сваёй паэтычнай творчасці Я.Купала спыніўся на гэтым шэдэўры польскай літаратуры. Упершыню ён быў апублікаваны ў зборніку “Шляхам жыцця” пад назвай “Трох Будрысаў”. Уключаны быў гэты пераклад і ў другі том збору твораў 1929 года. Да 85-й гадавіны з дня смерці А.Міцкевіча ў перапрацаваным выглядзе змешчаны ў газеце “Літаратура і мастацтва”.

Пры супастаўленні двух варыянтаў купалаўскага перакладу бачна, што яны вельмі блізкія: у абодвух вытрыманы легендарна-апавядальны стыль, захаваны асобныя строфы, лексічныя і меладычныя асаблівасці арыгінала.

Параўнаем, для прыкладу, два невялічкія ўрыўкі абодвух варыянтаў:

*Стары Будрыс трох сынаў, як сам,*
*ёмкіх літвінаў*
*На дзядзінец заве і гавора:*
*“Коні з пашы вядзеце: зброю,*
*сёдлы браць з клеці!*
*А спраўляцца мне жвава і скора.*
*З Вільні вестку мне далі,*
*што ўжо там наказалі*
*Тры вайны на тры света староны:*
*Ольгерд рускіх біць едзе,*
*Скіргел — ляхаў-суседзяў,*
*А князь Кейстут заграбіць Тэўтоны”.*

А вось варыянт 1940 года, дзе дадзены падзагаловак “Літоўская балада”, апушчаны раней у першадруку:

*Стары Будрыс трох сынаў,*
*Як сам, гэткіх літвінаў,*
*Да сябе на дзядзінец паклікаў,*
*Ды ім кажа: “Зважайце,*
*Коні борзда сядлайце,*
*Натачыце мячы ў міг і пікі!*
*З Вільні вестку мне далі,*
*Што ўжо там наказалі*
*Тры вайны на тры свету староны:*
*Ольгерд рускіх біць едзе,*
*Скіргел — ляхаў-суседзяў,*
*А князь Кейстут разгроміць Тэўтоны”.*

Акрамя меладычнай напоўненасці, што з’явілася ў новым варыянце, ёсць у ім тэкстуальныя разыходжанні, якія не заўсёды апраўданыя. Скажам, эпітэт “ёмкіх” больш каларытны, чым нейтральнае “гэткіх”. Збедненай аказалася тут і сёмая страфа — у параўнанні з першым варыянтам. Урэшце, змены больш тычыліся ўнармаванасці арфаграфіі, лексічных удакладненняў.

Другім па даце перакладу з А.Міцкевіча з’яўляецца вольнае ўзнаўленне байкі “Мужык і вужака” (у арыгінале “Мужык і змяя”), зробленае 23 ліпеня 1905 г. Упершыню пераклад быў апублікаваны ў 5—6 нумарах “Полымя” за 1930 г., а потым у 12-ым нумары часопіса “Іскры Ільіча” 1940 г. Арыгінал, напісаны класічным сілабічным 13-складовікам, Я.Купала перадае 8-складовым амфібрахіем. Парушана і эквілінеарнасць, на 14 радкоў у параўнанні з арыгіналам зменшаны тэкст, апушчаны асобныя вобразы і дэталі. У параўнанні з арыгіналам Я.Купала больш дакладна акрэслівае мараль міцкевічаўскай байкі:

*Навуку тут маем у том,*
*Ёсць прыклад такі для людзей:*
*Што хто за дабро плаціць злом, —*
*Як гадзіна, сам прападзе.*

Творчасць А.Міцкевіча прыцягвала Я.Купалу сваёй шчырасцю і непасрэднасцю, аўтарскім лірызмам. Так, у зборніку “Шляхам жыцця” быў змешчаны пераклад паэмы А.Міцкевіча “Пані Твардоўская”, а ў 1940 г. ён быў перапрацаваны. У першадруку чытаем:

*Салдату, удаваў што зуха,*
*Усіх ён лае, разганяе, —*
*Свіснуў шабляй каля вуха,*
*Ўжо з салдата зайца мае.*

*Старшыні, што місу з мясам*
*Паражніў з вялікім смакам,*
*Пырснуў квасам — і тым часам*
*Старшыню зрабіў сабакам.*

*Пстрык! шаўца ў нос кароткі,*
*Тры да лба прыткнуў краночкі,*
*Цмокнуў цмок, і гданскай водкі*
*Са лба вытачыў паўбочкі.*

Перакладчык у цэлым дакладна перадаў імклівае разгортванне сюжэта, дыялогі герояў, узнавіў мастацкія дэталі, насыціў твор яскравым народным гумарам, перадаў трапнасць і дасціпнасць паэтычнага слова. Пры гэтым ён імкнуўся захаваць лёгкасць і непасрэднасць міцкевічаўскага радка, вобразны лад і мастацкую структуру паэмы. Каб наблізіць польскі арыгінал да беларускага чытача, перакладчык у асобных месцах аздабляў вобразы арыгінала нацыянальнымі рэаліямі, трапнымі каларытнымі дэталямі. Так, у чацвёртай страфе выраз “патрон з трыбуналу” замяняецца адным словам “старшыня”, а ў семнаццатай “конь”, проста “маляваны на палатне”, — больш паэтычным і вобразным: “Конь грывасты, хвост, як вехаць”.

Што ж прымусіла Я. Купалу праз тры дзесяцігоддзі ўзяцца за рэдагаванне сваіх перакладаў з А. Міцкевіча? Па-першае, папярэдні варыянт перакладу ажыццяўляўся ў час, калі беларуская мова была яшчэ неўнармаванай, калі толькі выпрацоўваліся яе граматычныя формы. Па-другое, — гэта сведчанне таго, наколькі патрабавальна ставіўся паэт да сваёй працы, як дабіваўся пры кожнай дапрацоўцы большай адпаведнасці свайго перакладу аўтарскаму арыгіналу.

Пры гэтым ён дбаў і аб захаванасці сюжэтных асаблівасцей перакладзенага твора, стылёвых і сэнсавых адценняў кожнай фразы, кожнага паэтычнага радка:

*Ён жаўнеру, што йграў зуха,*
*Ўсіх піргае, лезе драцца, —*
*Свіснуў шабляй каля вуха,*
*І з жаўнера мае зайца.*

*Адвакату з трыбуналу,*
*Абгрызаў што костку ўпарта,*
*Пазваніў машной памалу,*
*Адвакат зрабіўся хартам.*

*Шаўца пстрыкнуў ў нос кароткі,*
*Да ілба прыткнуў тры дудкі,*
*Цмокнуў: “Цмок!” і бочку водкі*
*Са лба вытачыў ў мінутку.*

Пры супастаўленні прыведзеных варыянтаў відавочна, што бліжэй да арыгінала другі варыянт. Так, “салдат” у першым варыянце замяняецца на польскае слова “жаўнер”, “старшыня” — на “адваката з трыбуналу”. Больш ёмка гучыць і радок “Абгрызаў што костку ўпарта” (замест “Паражніў з вялікім смакам”). А той факт, што і тут сустракаюцца русізмы тыпу: “лезе драцца”, “водкі”, “знае дзела”, “пункт увідзіш”, “жджэ”, “суча”, тлумачыцца, хутчэй за ўсё, палітыкай русіфікацыі, якая ў 30—40-я гады нанесла вялікую шкоду і нацыянальнай культуры, і станаўленню правільнай беларускай літаратурнай мовы.

Звернемся, для прыкладу, яшчэ да аднаго купалаўскага перакладу з А. Міцкевіча — балады “Ваявода”. У прыжыццёвых выданнях Я. Купалы твор друкаваўся пад назвай “Удагонку”. Ён прывабіў беларускага паэта дэмакратычнай ідэяй, праўдзівым адлюстраваннем падзей, блізкасцю да фальклору. У першым варыянце была такая чатырохрадковая страфа:

*Ваявода з слугою сталі ту ж пад вярбою,*
*І з-за поясу бралі набоі, —*

*Адсякалі зубамі, прыбівалі штамплямі*
*Жмені пораху й шроту удвое.*

*— Пане, — так казак кліча, —*
*нейкі чорт мною смыча,*
*Не магу я застрэліць той дзеўкі:*
*Як свой курак адводзіў, я ўздрыгнуў,*
*бы на лёдзе,*
*І зляцела сляза да панеўкі.*



ЧАСАПІС

## Як ні любіць Андэрсена...

І сапраўды, яго любяць дзеці ва ўсім свеце. І не толькі дзеці, а і дарослыя, бо часам прыемна зазірнуць у свет, створаны невычэрпнай фантазіяй аднаго з самых знакамітых пісьменнікаў. І, зразумела, па меры магчымасці прачытаць яго творы на сваёй роднай мове. Казкі Х.- К. Андэрсена неаднаразова выходзілі ў перакладзе і на беларускую мову. Але том "Снежная каралева", што з'явіўся ў выдавецтве "Юнацтва" напярэдадні Новага года, прыкметна вылучаецца сярод іх і сваім аб'ёмам, і афармленнем. І гэта апраўдана: "Снежная каралева" і іншыя творы знакамітага дацкага казачніка папоўнілі "Бібліятэку замежнай дзіцячай літаратуры", што не першы год выпускае "Юнацтва" і аналагаў якой няма ў іншых краінах. А дапамаглі Андэрсену загаварыць па-беларуску пісьменнікі, якія самі вельмі любяць яго творы і хочуць, каб гэтаксама палюбілі іх дзеці.

## Той самы Тарас... з Парнаса!

Выпускаць больш вядомых твораў беларускай літаратуры ў арыгінале і паралельна ў перакладзе на іншыя мовы даўно стала для выдавецтва "Юнацтва" добрай традыцыяй. Некалькі гадоў назад "напаткаў" такі лёс і знакамітую паэму "Тарас на Парнасе", якая была выдадзена адразу на трох мовах — беларускай, рускай і англійскай. Цудоўна афармлены мастаком У. Гладкевічам, томік адразу стаў бібліяграфічнай рэдкасцю. "Юнацтву" нічога не заставалася, як падрыхтаваць яшчэ адно выданне трохмоўнага "Тараса..." Яно ідэнтычна папярэдняму: тэкст у арыгінале, пераклад М. Лазінскага на рускую мову і ўзнаўленне твора па-англійску У. Мээм. З адной розніцай. Тады кніжка была з супервокладкай, а цяпер вокладка пад плёнкай. У рэшце рэшт яшчэ больш зручна. І не менш прыгожа.

## "Песня пра Зубра" і... Савіч

Адзін з выдатнейшых помнікаў беларускай лацінамоўнай літаратуры "Песня пра Зубра", аўтарам якой, як вядома, з'яўляецца выдатны паэт Мікола Гусоўскі, неаднаразова выдавалася. У тым ліку і ў мініяцюрным выглядзе. Цяпер жа яшчэ адно жыццё гэтаму твору дало выдавецтва "Юнацтва". Кніга альбомнага фармату — з яркімі, непаўторнымі малюнкамі Уладзіміра Савіча. Тэкст пададзены ў вядомым перакладзе на беларускую мову, выкананым у свой час Я. Семяжонам, а таксама рускамоўны пераклад, аўтар якога — С. Куняеў.

## Нядоля не зламала

Туды, дзе Макар цялят не пасвіў, ахвяры сталінізму траплялі па-рознаму. Вісарыёну Гарбуку (ён тады вучыўся на літаратурным факультэце Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя М. Горкага) дастаткова было ў коле новых сяброў (Вісарыён Сцяпанавіч перавёўся з завочнага аддзялення) засумнявацца ў аўтарытэце "правадыра ўсіх часоў і народаў". Неяк у кампаніі В. Гарбук аказаўся адзіным, хто не курыў. Апраўдаўся — маўляў, для здароўя шкодна. А нехта не стрымаўся, паказаў на партрэт Сталіна на сцяне, а на ім Іосіф Вісарыёнавіч быў са сваёй нязменнай люлькай. І трэба ж было В. Гарбуку сказаць нешта, накшталт: "У такой справе і таварыш Сталін мне не аўтарытэт". Тады ж у снежні 1936 года В. Гарбука і арыштавалі — знайшоўся хтосьці з "добразычлівцаў", паведаміў куды трэба. Зняволенне В. Гарбук адбываў на Калыме. На Беларусь вярнуўся ў 1941 годзе, працаваў настаўнікам і загадчыкам навучальнай часткі ў Мехаўскай сярэдняй школе на Віцебшчыне. У ліпені 1941-га быў прызваны ў армію. Абараняў Маскву, вызваляў Беларусь, Польшчу, браў Берлін. У 1946 годзе цяжка захварэў на поліартрыт і быў прыкаваны да ложка, але, жывучы ў Пяцігорску, да апошніх сваіх дзён (памёр 8 жніўня 1986 года) займаўся творчасцю. А ўпершыню ўзяўся за пяро ў шпіталі. У 1957 годзе надрукаваў першае апавяданне. На беларускай і рускай мовах у В. Гарбука выйшлі кнігі "Не шукаю спакою", "Лицо в полоску", "Танюшкины рассказы", "Алачка-забывалачка", "Такіх кветак не бывае", "Мышки и Мишки", "Са мной здарылася неверагоднае" — у асноўным для дзяцей. В. Гарбук пераклаў на беларускую мову і апрацаваў для дзяцей казкі народаў Паўночнага Каўказа "Напітак волатаў". У гэтыя дні Вісарыёну Сцяпанавічу споўнілася б 85 гадоў.

ПАЭЗІЯ

Мікола ПРАКАПОВІЧ



•

*Плывуць павучкі ў вырай —*
*паўз вёску Аркадзія,*
*над капліцай святога*
*Афанасія Берасцейскага;*
*сядаюць перадыхнуць*
*на газету "Народная воля",*
*на вялізныя чорныя літары*
*артыкулы "Пятая калона",*
*якія патроху хаваецца*
*пад скрылікамі "Угліцкай" каўбасы.*
*Краязнавец Юрась згадвае*
*ілжэ-Дзмітрыя,*
*а "франтавец" Вітаўт*
*шукае аналогіі*
*з навейшай гісторыяй,*
*але на палітыку*
*аб'яўляецца мараторый:*
*ігумен Афанасій вяртаецца*
*з Масковіі.*
*А следам гуляе казацкая*
*вольніца —*
*паміж Захадам і Усходам, —*
*задыхаецца Княства*
*чорным смуродам.*
*Эх, Налівайко!..*
*Дружна крэкча сябрына,*
*глынуўшы "пушчанскай казкі":*
*настоенай на дваццаці сямі*
*Караткевіцкіх травах.*
*Ляцяць і ляцяць павуцінкі —*
*на дол,*
*на яшчэ маладыя чубы...*
*А уже слышны стрелецкие песни,*
*а ўжо на Літве ліцвінам цесна...*
*Адчайна згадае гітара*
*пра час, што застаўся ў марах,*
*ірдзяцца жарынкі рабіны —*
*гарчыць на душы.*
*Кроў на "Дыярыушы"...*
*Гучыць у вышынях глас*
*Афанасія Філіповіча*
*пра вольны бунтарскі розум,*
*які не любілі спрадвеку*
*ў вялебных дварах.*
*Верасень. Вырай.*
*Самотна Ярыле.*
*Самотна рабіне*
*над Віленскім трактам*
*гарэць-дагараць...*

### Крыж Еўфрасінні Полацкай

Міколу КУЗЬМІЧУ

*Скрадзены крыж...*
*Адлятаюць душы*
*з прададзенай д'яблу*
*зямлі.*
*Крыж закляты —*
*ён вяртаецца*
*ў свой храм.*
*Ці вернуцца душы,*
*каб адрадзіць Радзіму?*

•

*Сплывае пясочкам*
*падмурак у хаце.*
*Зраслася з кіёчкам*
*да вечара маці.*

*Знікае адзінае,*
*што яшчэ маю, —*
*сядзіба радзінная*
*над небакраем.*

*Куды ты? Навошта*
*ляціш-адлятаеш,*
*зямліцу-травіцу*
*сваю пакідаеш?*

*Куды я ступлю*
*з вечаровага ганку,*
*калі ты забрала*
*з сабой калыханку,*
*дзяцінства грыбное,*
*пякучыя росы,*
*слядок мой,*
*безабаронны і босы?..*

•

*На мяне глядзіць з люстэрка*
*у куток загнаны звер.*
*Квокча з дзеткамі цяцерка,*
*і здушыў душу нясцерпна*
*на ўсе гузікі каўнер.*

*Усміхнуся я люстэрку,*
*пацалую я цяцерку,*
*пасаджу дзяцей у ношку*
*і пайду святой дарожкай*
*у Чарнобыльскую ССР.*

•

*На стале — "Белая Русь",*
*на сцяне — Белая вежа,*
*у вакне насупраць —*
*белая дзяўчынка.*

*З кутка, дзе павук,*
*варухнулася нешта чорнае.*

*Пусцее "Белая Русь"...*
*Знікае ў прыцемках*
*Белая вежа...*
*Каторую гадзіну*
*пазірае на вуліцу*
*белая дзяўчынка...*

*Чорнае з кутка*
*назвалася Самотай*
*і прысела да стала.*

*Белая дзяўчынка*
*пырхнула з падваконніка —*
*усміхаецца з неба*
*дрыготкай зоркай...*

•

*Я губляю цябе, губляю...*
*Божа мой, уратуй ад бяды —*
*твая гнуткая постаць знікае*
*калідорам... жыццём... назаўжды...*

*Застанецца на ўзмежку ночы*
*безнадзейнае рэха лунаць.*
*...Як умелі кахаць твае вочы, —*
*як умеюць яны забываць.*

*І не ўмоліш каханне, не ўпросіш,*
*толькі прывід яго, толькі цень*
*залатая цыганачка-восень*
*вераснёва сукняй мяце.*

*Разгулялася ў шале жаночым —*
*і абдымкам чужым не ўтрымаць.*
*...Як умелі вяртаць твае вочы,*
*толькі восень не хоча вяртаць.*

*Ціха-ціха я ёй пажуруся, —*
*хай і ў нас будзе тайна свая.*
*Закружуся, як ліст закружуся,*
*дагару разам з восенню я.*



ПРОЗА

ІШОЎ ДОЖДЖ — той, што можа быць толькі ў Амерыцы і толькі на пачатку лістапада: густы, неашчадны. Спорна грукацеў па даху, шаргацеў па шыбах, зацякаў у душу...

Яшчэ з лета Алесь Хведаравіч — сам не свой. Непакоіцца, не спіцца, а да ўсяго — сэрца кволіцца пачало, яго старэчае спрацаванае сэрца. Пэўна, апошнія месяцы разменьвала, бо з чаго гэта сярод восені — акурат на Дзяды — пачалі стукацца ў памяць сябры і знаёмцы, з якімі даўно ўжо развітаўся й якія ўжо даўно пакінулі турботны свет? А гэтыя цугі ўспамінаў, згадак, трызненняў — з далёкага, нават мройнага? Асабліва ў такія вось ночы — дажджлівыя, беларускія...

А калі аціхае наўкола — узрушвае штосьць, заве таемна-зманліва. І тады так салаўінага спеву хочацца — маладога, вясёлага!

Дзіўна...

Калі яго паласаваў боль, ён стойваўся і трываў, калі яму станавілася няўсцерп — стомна ўсміхаўся...

Калісьці сябар (па працы на амерыканскіх каменяломнях) прывёз яму магнітафонны запіс салаўіных спеваў — надарылася была такая магчымасць, праязджаў праз Беларусь. І прыпыніўся ў прысадах пад Мінскам, птушак падпільнаваў, — з ягонай просьбы...

Ноч цэлую — зноў і зноў — слухаў ён тады запіс гэты. І плакаў, і смяяўся. І жывыя салаўіныя выціленькванні нагадаць намагаўся, бо ўсё ж было ў той магнітнай музыцы штосьць прышттучненае, абрабаванае, недавезенае. Як і кветку ў гербарыі не разнюхаеш, так і салаваспеву па стужцы не вычуеш...

Так і ён сёння — ці не той жа казённы запіс далёкае беларускае гісторыі, прачуць якую толькі адзін ён і здольны цяпер? А тае значнасці: сціры-размагніць ягоную памяць-стужку — і што, першаспеў-гісторыя знікне? Не, канешне... Але яму, тады, у адзіноце, выразна ўяўлялася, што з такіх адзінкавых дачыненняў — распазнавання паспеву жывога, удыхання водару кветкавага (у другі, трэці разы тога, першага, не адчуць!), смакаванні свежага нектару вершаванай метафары — і сплятаюцца імгненні чалавечыя. А жыцця, насамрэч, і няма, бо гэтым доўгім, часта аскомістым словам падмяняць звыклі тое вязьмо-пярэвітак усемагчымых паўтораў, — як слуханне магнітнага салаваспеву, перагортванне гербарыю...

Але колькі ж тых руладаў-мелодый у салаўя?! Не болей сямі (пералічваў жа ўсю ноч!)! І ў іх узнесці песню свайго жыцця! А вось яму ўвесь час і бракавала гэтых сямі мелодыяў, слоў... І ці знойдзе ўжо іх, ці расчуе?

І як песня, толькі ўжо не на стужцы, праслухоўвацца пачало цяпер ягонае жыццё. Жыццё затаёнае, доўгае — доўгае праз тое, што спяваць не пераставалі ў ім якраз тыя сапраўдныя беларускія салаўі, спявалі болесна і радасна.

...Аціхае дождж — а ён не можа заснуць. Ад сэрца лекі праглыне, коўдру ўсцягне, а подумкі — не схавацца ад іх, не пазбегчы. Трываў, гараваў, ліпеў — і грошы ёсць, ледзь не катаржна, праўда, прызаробленыя, і дом свой, не горшы ў горадзе — ды пусты дом, адзічэлы нават. Так і не пачулі сцены ягоныя пяшчотаў начных, так і не нарадзілася ў ім крыку дзіцячага...

Дзесяцігоддзямі хаваў сябе — у працы, ратаваў літаратурай, а яно вазьмі дый лавінай правісся, і не калі-небудзь, пры моцы-здароўі, а вось цяпер, ціха, па-здрадніцку. І раптам як агнём апякло: ехаць дадому. Былі ж — па газетах знаў — на Беларусі і Сяднёў, і іншыя. І вярнуліся. І савецкай імперыі няма ўжо. Гэта ж так проста: ранкам замовіць білет, і праз якіхсьці восем-дзесяць гадзінаў лёту...

І зусім ужо нечакана — ён заснуў, заснуў спакойна (такога даўно не здаралася), салодкім дзіцячым сном акрыўся. І бачыў маці сваю, і з дзедам гаварыў, і за Цароўку, вёску сваю слуцкую, кудысь весела бег — нібыта дождж даганяючы...

...Незвычайна нейк сцюардэса ў вочы зірнула — як зразумела штосьць, як паспачувала. А мо проста за ўзрост ягоны, далёка ўжо не небны (ці наадварот — не зямны) непакоілася, — каб не здарылася непрыемнасці...

Самалёт ад зямлі адарваўся, а ён — ад рэальнасці, у туманнасць мройную акунуўся, быццам сам у сябе — маладога, колішняга — увайшоў...

•

Першая купальская ноч іх дарослага жыцця прыйшла нечакана: толькі-толькі, здавалася, над зялёнымі шапкамі Слуцка вісеў сонечны яблык, вотолечкі цікаваў над імі неўтаймовец-жаўрук, як раптам сонца пачало хавацца, адно нероўныя вішнёвыя стужкі параскідвала па небакраі — нібыта хтось (можа, нават і вецер) наспех абчысціў яблык-сонца; дзесь у духмяным чаборы нагледзела сабе начоўку маладая пара жаўрукоў... Прыпынілася ў невысокіх берагах і рэчка. Чубы полымя люстраваліся на яе роўнядзі — гарэзілі й лашчыліся ў маленькай затоцы.

да старэйшай Марыі не хінецца?" — прызлоўваў Алесь...

Спяклася бульба, яе хутка выграблі — каб астывала — і, падкінуўшы на вуголле сушэйшых голек, пяклі сала. Алена расхінула абрус, і дзяўчаты выклалі на яго яйкі, цыбулю, хлеб. Па-важнецкі выставіў на траву дзве пляшкі "крамніцы" Асьвяцімскі...

...Як хутка надышла, так борздзенька і збягала за недалёкія ўзлескі купальская ноч, жвава падмятаючы сваёй пасвятлелай спадніцаю пухматыя туманы над лугавымі ўзлобкамі. Схмялелыя, больш ад гэтай вольнай начы, нязведанага прастору, чым ад выпітага, яны сядзелі моўчкі, грэліся каля пералiўнага

федральным саборам, на месцы былога Саборнага пляца (ад Губернатарскага дома і ратушы й следу не засталося), — нібы апамятаўшыся — спешка перахрысціўся. (Што думаючы? Дзякаваў, канешне, Небу за гэты падарунак звароту.) А затым — міжволі, спантанна — пакрочыў... Куды? Ён і сам яшчэ ўсвядоміць не мог, не паспеў. І ўблудзіў у нейкі напаўзакінуты двор, пашкадаваў нават, што на тлумнай шырокай вуліцы не застаўся ці — і таго лепш — зноў у таксі не сеў. Ды, дзякуй ёй, — акурат перад вачыма кабетка, жвава з пад'езда выпырхнула і ледзь з ім не сутыкнулася.

— Прабачце... Падкажыце, як на...

мае!!! Толькі шыльду новую займеў — Дом мастацтваў. Някепскую. Можа, і слушна: Беларусь — гэта мастацтва... А вунь і вакно на другім паверсе — ягонага кабінета... Хтось мільгатнуў у ім... Ён жа заўсёды першым дзверы адмыкаў, не павінна яшчэ там нікога быць... То чаго ж ён ня йдзе, лайдакуе?..

І што гэта з вачыма сталася: і дамы з праспекта зніклі, і святлафораў не відно, і машын?.. І з душы — як семдзесят гадоў спала... А там, унізе, за голым паркам, каля Свіслачы цёмнай і сціснай — Купалаў домік...

Ён рушыў напрасткі, як і хадзіў часта — паўз рэчку, і нават бетон, што ваду сціскаў, знаёмым здаваўся...

# І ДАМ ТАБЕ ВЯНОК ЖЫЦЦЯ

Алесь ПАШКЕВІЧ



*Прапаную чытачам "ЛіМа" фрагменты з раздзелаў нядаўна завершанага рамана-дакумента, які ўзнаўляе і ажыўляе старонкі беларускага нацыянальнага ўздыму 1918-га, 1919-га, 1920-га гадоў (яго кульмінацыя — Слуцкі збройны чын), імкнецца абудзіць аціхлую памяць і 1998-га, і 1999-га, і... 2000-га...*

*Здавалася шматкроць, што не герой сённяшні — Алесь Ваяр — у мінулае сваё паглыбляўся (як аб тым сюжэт складваўся), наадварот — героі мінулага: Янка Купала, Алесь Гарун, Язэп Лёсік, Усевалад Ігнатоўскі, Ядвігін Ш., Уладзімір Жылка, Адам Бабарэка, Кузьма Чорны, Юрка Лістапад, Макар Краўцоў і іншыя (шарагоўцы і камандзіры Слуцкай брыгады) — у днях нашых ажывалі, нас дапаўнялі, — вучачы, на пайторы і памылкі нашы ківаючы. І ўдзел названых дзеячаў у беларускім нацыянальна-вызвольным руху і ў Слуцкім збройным чыне — не аўтарская фантазія, а факты, пацверджаныя дакументальна (праз гэта і "давесак" пры абазначэнні жанру — дакумент). На жаль, шмат яшчэ мусім мы* ***даказваць*** *і самі сабе, і састарэлым арміям містыфікатараў... А галоўны герой твора — Алесь Ваяр — ці выдуманы? Ён — родны падвойнік свайго прататыпа Алеся Змагара, беларускага пісьменніка-эмігранта, як — наогул — кожны ваяр змагару родны.*

*Урэшце, гэта твор не толькі пра гора й войны, але — і пра каханне, пра любоў, і найперш пра любоў, бо — не зважаючы ні на халады, ні на слёзы, ні навт на смерць — жыццё дадзена, каб любіць, і кветкі не для смерці цвітуць, а для Любові, і з любоўю на светлыя магілы кладуцца...*

**АЎТАР**

Яны ж, слуцкія гімназісты-аднакашнікі (адзін толькі Фабіян Шантыр ужо настаўнічаў) упаўкруг сядзелі вакол полымя, калі за спінамі нечакана пачуўся мядзведжы трэскат — Сяргей Бусел, завадатар-весялун, цягнуў да агню аграмадную сухадрэвіну.

— Ну, Клекатун, ці не купалка-русалка табе падсобіла — такую стваліну вывернуць... — падчапіў Андрэй Бараноўскі.

Мянушка да Сяргея прыстала не толькі з-за ягонага прозвішча — Бусел, але і праз вялікую гаварлівасць: як пачне, бывала, "клекатаць", дык каму-небудзь цяжка і слова ўшпіліць.

Але гэтым разам Бусел змаўчаў, прысеў каля яго, Алеся, і ціха адсопваўся — стаміўся.

Калі сухадрэвіну, з цяжкасцю паламаўшы, укінулі ў агонь, сноп іскраў ускружыў у неба, далёка асвяціў і сонную рэчку, і рэдкі арэшнік, і квола прытуманены ўскраек лугу.

Хлопцы, нібы апамятаўшыся, кінуліся купацца, іх з завідкай пазіралі дзяўчаты — сёстры Марыя і Людміла Стагановічы ды Алена Лабуш (дачка гаспадароў, у якіх кватаравалі сёстры, толькі збіралася паступаць у гімназію), пазіралі, але ў рэчку лезці не насмельваліся — сорам.

Ён любіў плаваць ноччу. Вада, шчодра належаная за дзень, была асабліва мяккай. У густым цемрыве рачная роўнядзь пялёскалася ціха, перад самымі вачыма злівалася з нябачным небам... А цяпер — дык і зусім дзіўна перабліствалася сполахі-іскрынкі полымя і зярняты зорак. Доўга плыў на спіне, гублюючыся паміж чорнай рэчкай і покрывам начы, вада гулліва набягала на ягоны твар, пяшчотна казытала вусны. Ён успамінаў мінулы ўжо год вучобы, шкадаваў, што днём не адшукаў у Слуцку новых беларускіх кніжак. Колькі гадоў таму і сам пачаў пісаць вершы, некаторыя ўжо змясцілі ў гімназічным часопісе "Прамень" — пад псеўданімам Алесь Ваяр. Штось натхнёнае трапяталася ў душы і зараз — ён хацеў напісаць пра гэтую ноч, пра іхняе чубатае полымя, пра залатоўкі-зоркі...

Здалёк убачыў, як паважна вылез на бераг Шантыр, атрэсваючы кучаравую копку валасоў, выпырхнуў з вады Мікола Асьвяцімскі і — вот жа празала! — усеўся паміж Марыяй і Людай. Мікола, старэйшы за Алеся на два гады, пачаў апошнім часам зашмат заляцацца перад малодшай Стаганавічанкай... "І чаму ён

россыпу вугалля — толькі неўгамонны Клекатун высільваўся для ўсіх, апавядаючы пра свае чэрвеньскія прыгоды.

— Дык што, так і разыдземся йзноў да самае вучобы? — Асьвяцімскі, як і не чуючы Клекатуна, прыкурваў, і ён тады скарыстаў узніклую пярэрву, агледзеў паўкруг (Люда падкруціла пальчыкам доўгі кудзярок, што звісаў на скронь, і апусціла вочы).

— Сябры! — ажывіўся Шантыр. — Я неяк вычытаў, што раней у Вільні былі студэнцкія гурткі... філаматаў і філарэтаў, дык давайце штось падобнае створым і ў нас...

— А што... Суполку сваю ці таварыства... — Сяргей Бусел — было відно па вачах — ужо не меў ахвоты цягнуць ранейшыя показкі.

— Можна было б заснаваць свой невялічкі тэатр, ладзіць спектаклі... Запрасілі б з Менску артыстаў! — дадаў і Андрэй Бараноўскі.

— І назваць таварыства гэтае "Папараць-Кветка", на якую мы сёння чамусь забыліся, — усміхнуўся і ён, Алесь.

— А што... добра! — прыўзняўся наўколенцы Васіль Русак. — Яй бо... добра! Толькі ж вы, братцы, пра хор забылі!

— І, узварухнуўшы свой святлявы чуб, заспяваў (ён наогул любіў співаць)...

Дзяўчат вызваліся праводзіць ён, Мікола і Сяргей. Ускраек Слуцка выглядаў сціпшанай вёскай — тыя ж няроўныя драўляныя хаты ў густых садках, лапікі зямлі, пакрытыя бульбоўнікам і ўжо крыху пажаўцелым ячменем каля самай вулкі. Вусатыя калаські вылазілі з-за плота і бліталіся ў прычаўрэлай крапіве.

Раптам Люда гарэзна ўсміхнулася і, кальнуўшы яго іскаркамі зеленаватых зрэнак, расіяжна прадэкламавала:

***Мне цалавалі шыю спелыя жыты,***
***а так хацелася, каб гэта была ты...***

Ён ледзь тады не спатыкнуўся на роўнай дарозе: гэта ж пачатак ягонага верша, змешчанага ў "Промні"! Усю дарогу да Лабушаў плёўся моўчкі, злуючыся на сваё няўмельства расцякацца салаўём — як гэта рабіў Сяргей, і толькі калі ўвайшлі ў двор, а Люда падалася выкруціць вады з калодзежа, ён дапамог выцягнуць вядро і, нязграбна разліваючы ваду на свае і яе ногі, высмеліў:

— А ведаеш, Людка, той верш... пра жыты... я пісаў табе...

•

Ён яшчэ крыху пастаяў перад Ка-

прашпект... Скарыны (ледзьве вымавіў, не верачы ўсё яшчэ, што ўрэшце Захар'еўская-Міцкевіча-Савецкая-Сталіна-Леніна імя беларускага першадрукара займела) выкільгікаць?

— Скарыны? — кабета нібыта ад нейкага сну свайго адпрэчвалася. — А вось так прама і йдзіце...

І ён пасунуўся "прама", не здзівіўся нават, што яму па-беларуску адказалі. На нейкай вуліцы раптам расступіліся дамы — пастарэлыя, хоць і дагледжаныя, наноў нядаўна пафарбаваныя. Смялей загулі машыны, два тралейбусы прашаргацелі адзін за адным — і ён здагадаўся, што йшоў правільна: там "цэнтар". А супыніўся перад святлафорам — і застыў, уражаны, агаломшаны... Праз дарогу, на той бок праспекта, стаяў, як і семдзесят гадоў таму, будынак тэатра — як зубр аціхлы. Ён раптам перастаў заўважаць усе іншыя будынкі, "чужыя", узведзеныя *пасля яго*; колькі разоў запрашаў зялёным агеньчыкам святлафор... Божа мой, гэта ж тут Першы Усебеларускі кангрэс адбыўся, і гэта ж сюды паслухаць Мележкоўскага ў 1920-м ён з Алесем Гаруном прыходзіў! І вось — застаўся! Збярогся — і цяпер ужо і пра Купалу памяць цепліць ("Дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы"), і слова беларускае...

Урэшце пераклыпаў праспект — ледзь, праўда, паспеў, праваруч нейкае аўто з прыцемненым шклом прытармазіла — амаль у паўкроку. Зноў на чыста вымеценым тратуары пастаяў, навокал паўзіраўся — астатняе незнаёмае ўсё, чужое. Хіба яшчэ тую горку памятаў — праспект, здавалася, нырнаў-бег уніз да Свіслачы. Там колісь парк быў, і Юбілейны дом — Беларускі дом — на горцы ганарліва стаяў...

Пайшоў сцяжынкаю, павольна. Мароз падціскаць пачаў — адвык ён ад восеньскага холаду! Вось і шчокі ўзгарэліся, і рукі стыць пачалі (чамаданік з рукі ў руку перакідваў — і па чарзе далоні ў кішэнях плашча грэў). Пальчатак адтуль не захапіў... *Адтуль* — і здзівіўся, што краіну, дзе большую частку жыцця свайго правёў, праз колькі беларускіх гадзінаў нечакана і неўсвядомлена замяняць гэтымі "там", "адтуль" пачаў...

Вецер пялёсткі сняжынак нагнаў, заказытаў гарэзліва твар. І тады зноў як агнём апякло (сненнем ці мройнай казкай усё гэта лічыць нават у хвілю тую спрабаваў) — Беларускі дом! Вось ён!!! Стаіць, купалкі свае два высока ўзды-

Пад абед 20 сакавіка Купала выпісаўся з земскай бальніцы. У адведкі шмат тады пайшло: Гарун, Бядуля, Ігнатоўскі, Лёсік, Цярэшчанка, Рак-Міхайлоўскі, яшчэ некалькіх запамятаваў... і ён. Сустрэла Купаліха, заўсміхалася, — значыць, добра ўсё, на папраўку ідзе гаспадар. А ён — больш таго! — за сталом сядзеў, пісаў. Шчокі схудзелыя, цені пад вачыма, а зрэнкі — ажно свецяцца...

— Ажыў, браткі, ажыў! І крэмзаць пачаў, — прызнаваўся Купала за гарбатай. Але пра сябе амаль не расказваў (хіба толькі пра тое, што паэмы частку, у палаце складзеную, запісаў), больш пра навіны менскія распытваў. І нельга было не заўважыць, як і весялосць ягоная знікала, і агеньчыкі ў вачах затуманіліся.

Слабым усё ж, бачыў Алесь, быў яшчэ Купала, не паправіўся напоўніцу. Хоць нашмат горш на пачатку года пачуваўся. 2 студзеня Алесь карэктуру з "Беларусі" яму дадому прыносіў (Лёсік папрасіў — сам з газетай дужа пільна заняты быў). Вось і тады Купала весяліўся, жартаваў. Уладзіслава Францаўна пірагом частавала... А праз тыдзень, 9-га, Купала ў бальніцу лёг. На аперацыю...

Пасядзелі ў Купалы нядоўга, адпачываць пакінулі, напрыканцы толькі на паседжанне Часовага Беларускага Нацыянальнага Камітэта запрасілі — на 22 сакавіка.

А як выйшаў Алесь з Купалавага дома, карэктура колішняя і ўзгадалася — артыкула "Справа незалежнасці Беларусі за мінулы год". Па дарозе Алесь і прачытаў быў яго, і цяпер роўныя абзацы ўвачу з'яўляліся:

"Калі немцы, пасля бальшавіцкага перавароту ў Расіі, занялі большую часць нашай тэрыторыі, кучка бальшавіцкіх камісараў, гаспадарыўшая раней у Менску, уцякла ў Смаленск. ...неяк дагаварыліся і стварылі часовы ўрад "Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі". Старшынёй урада быў назначаны Жылуновіч (Ц. Гартны), а рэшта "портфелей" былі падзелены паміж Дылам, Мясніковым, Шантырам, Яркіным ды інш. Гэты ўрад прыехаў у Менск, і 1 студзеня 1919-га была абвешчана "Незалежная Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка" ў федэратыўнай сувязі з Маскоўшчынай. Адначасна старыя беларускі ўрад "Рада Беларускай Народнай Рэспублікі і Рада Міністраў БНР" былі абвешчаны без абароны закону".

"Палякі занялі Вільню, пасунуліся да Маладзечна і пагражалі Менску... І "чразвычайка" сваю працу "павялічыла". Праца гэта менчанам добра вядома. Курганы сотняў расстраляных аб гэтым і цяпер сьведчаць".

Так, яны, "папараць-кветаўцы", разышліся з Шантырам. Але Бог яму суддзя — рабіў гэты рамантык-апантанец усё шчыра...

•

Яго пачуццё незвычайнай гульні разбілася з першым стрэлам...

Ранак — нібыта падмянілі: хмурна, золка, ветрана. З усходняй роўнядзі небасхілу як аграмадныя плыты сунуліся шэра-брудныя хмары — нізка завіслі над галавою, нібыта зачапіўшыся за дзіды векавых-елак.

Батальён залёг, чакаючы праходу Сіняўскім трактам частак 8-й дывізіі Чырвонай Арміі, аб чым неадкрыто перадавала разведка.

Напачатку на дарозе ўзніклі цёмныя крэскі, затым сталі расці й ператварацца ў вершнікаў. Гэта была конная застава.

— Чырвоныя! — зашапталі раптоўна шарагоўцы.

— Ціш-эй... Страляць толькі па маёй камандзе, — хваляваўся, бачна было, і камандзір Мацэля.

(Працяг на стар. 12)



ЧАСАПІС

## "Паяцы" зноў на сцэне

На сцэне віравалі жарсці. Артыст у парыве рэўнасці падчас прадстаўлення забіў жонку. Гэтая трагедыя сталася сюжэтнай асновай оперы "Паяцы" славутага італьянскага кампазітара-верыста Р. Леанкавала. Прэм'ера яе канцэртнага выканання адбылася ў Нацыянальным акадэмічным тэатры оперы Беларусі.

Музычны кіраўнік і дырыжор Аляксандр Анісімаў зрабіў усё магчымае і немагчымае, каб аркестр гучаў ярка, вобразна, каб гэтая прэм'ера сталася сапраўдным святам.

"З вялікім задавальненнем я працаваў са спевакамі, — гаворыць ён. — Цудоўна валодае сваім голасам Уладзімір Пятроў. Партыя Каніё лёгка "кладзецца" на голас Сяргея Франкоўскага. Вікторыя Курбацкая ў партыі Нэды — чуллівая, цікавая. Яна ў выдатнай творчай форме". Са словамі Аляксандра Міхайлавіча нельга не згадзіцца. Партыя Нэды складаная. Спявачцы трэба было спалучаць магчымасці меццо і вельмі высокія сапранавыя ноты. З гэтым яна справілася.

Сярод партнёраў, з якімі ёй лёгка было выступаць у новым спектаклі, Вікторыя Курбацкая назвала, прынамсі, Сяргея Франкоўскага. Абое артысты, дарэчы, удзельнічалі ў першых паказах прэм'еры.

Як прызнаўся Сяргей Франкоўскі, перш чым рыхтаваць партыю Каніё ён праслухаў яе ў выкананні вядучых італьянскіх спевакоў. "Але я стараўся нікога не капіраваць, а прапускаць перажыванні праз сябе", — удакладняе ён. Можна сказаць, усё і атрымалася ў тэмпераментнага музыкальнага артыста. У першым жа спектаклі ён настолькі ўвайшоў у вобраз, што нават нечакана для сябе расплакаўся. А "вярхі" гучалі проста бліскуча і сакавіта!

Парадаваў публіку артыст Васіль Кавальчук у партыі Тоніё. Іронія, гратэск і раней дапамагалі яму ствараць яркія запамінальныя вобразы Скарпіё ў "Тосцы" Пучыні, Барыса Цімафеевіча ў "Кацярыне Ізмайлавай" Шастаковіча, Дона Базілiё ў "Севільскім цырульніку" Расіні, а на гэты раз ён змог раскрыць няпросты характар закаханага гарбуна.

У партыі Тоніё выступіў таксама уладальнік прыгожага барытона Юры Бастрыкаў, які, на жаль, пакуль не знайшоў для ўвасаблення гэтага вобраза адметныя фарбы.

Па-свойму ў кожнага цікавы Сільвіё Уладзіміра Пятрова ды Уладзіміра Мароза, уладальнікаў цудоўных галасоў. У партыі Бепа выступілі В. Стральчэня ды А. Тузлукоў.

Нельга не сказаць і пра яркае ўражанне ад хору, які можна назваць дзейнай асобай. Сваёй эмацыянальнасцю, напоўненасцю хор спрыяе раскрыццю зместу, рэагуе на дзеянне. І ў гэтым немалая заслуга хормайстра Ніны Ламановіч.

Шчырая музыка Р. Леанкавала не можа не хваляваць. Але, думаю, спектакль быў бы намнога больш выразны, калі б гэта было не канцэртнае, а паўнавартаснае сцэнічнае ўвасабленне. Тады б і артысты былі больш раскаваныя, і публіцы было б больш зразумела, што адбываецца на сцэне. Ды і каб мова арыгінала "не замінала" ўспрыманню, трэба, на мой погляд, зрабіць для нашых гледачоў, як і ў іншых краінах, бягучы радок з перакладам.

Дзесяткі гадоў прайшло, а я і зараз памятаю той даўні спектакль "Паяцы" нашага опернага, калі на сцэне ззялі незабыўныя зоркі: Рыта Млодак, Ісідар Балоцін, Мікалай Ворвулеў... Цяпер змяніўся час; новая пастаноўка, іншыя выканаўцы. Але сённяшні слухач таксама шукае і знаходзіць таленты, што яскрава раскрываюцца ў сучасных сцэнічных работах, якіх чакаем заўсёды з нецярплівасцю...

**Вера КРОЗ**

## Новы год — з новымі маркамі

Паштавікі аб гэтым паруліліся загадзя. У першыя дні 1999 года з'явілася ў продажы сцэпка з дзвюх марак, прысвечаная Калядам і Новаму году. Адпаведна выпушчаны і віншавальны канверт. Аўтар марак і канверта — мастачка Т. Гуткоўская. На працягу года з'явіцца нямала новых марак, у тым ліку прысвечаных знамянальным падзеям і юбілеям.

МЕРКАВАННЕ

*"Нягледзячы на творчыя нестыкоўкі, прэм'ера "...Кэт" адбылася. Многія спецыялісты лічаць працу адкрыта правальнай. Крытыкі альбо маўчаць, альбо акцэнтуюць увагу на старых заслугах..."*

**Ігар Карней, "Памінальнае" лібрэта для беларускай аперэты" ("Свободные новости", N 40, 1998 г.).**

Паважаны спадар І. Карней, дазвольце адрэкамендавацца. У маім кансерваторскім дыпломе значыцца: "музычны крытык". А тэма маёй дыпломнай працы, абароненай, дарэчы, на "выдатна", фармулявалася так: "Жанр мюзікла: асаблівасці, вытокі і шляхі развіцця". Гэта я паведамляю на ўсялякі выпадак, для даведкі. Як і тое, што пра тэатр музычнай камедыі Беларусі я пішу больш за 10 гадоў.

Вы спасылаецеся на "многіх спецыялістаў", якія нібыта сцвярджаюць, што прэм'ера мюзікла К. Портэра "Цалуй мяне, Кэт!" у тэатры музкамедыі адкрыта правальная. Цікава, каго вы маеце на ўвазе? Бо знаёмыя **мне** спецыялісты якраз вельмі прыхільна ўспрынялі гэтую новую працу тэатра і яго мастацкага кіраўніка — рэжысёра Барыса Лагоды.

Асабіста я не адгукнулася на прэм'еру аператыўна толькі з адной прычыны: спектакль быў паказаны летам перад самым закрыццём сезона, яму трэба было крыху "адстаяцца", набыць неабходную форму, а артыстам (у тым ліку выканаўцы галоўнай ролі А. Касцецкаму, які ў дзень прэм'еры страціў голас) — проста ачуняць, адпачыць пасля перадпрэм'ернага вэрхалу. Але цяпер, калі тэатр, нарэшце, адкрыўся пасля задоўжанага рамонту (так запознена сезон тут, здаецца, не адкрывалі ніколі!) і новы спектакль сапраўды ўвайшоў у належнае рэчышча, аказваецца, што напісаць простую рэцэнзію ўжо недастаткова. Трэба яшчэ штосьці тлумачыць, высвятляць, уступаць у палеміку. І рабіць усё гэта так, каб не распаляць унутрытэатральныя жарсці.

Напэўна, я здзіўлю паважанага апанента, калі паведамлю, што бачыла самую першую самастойную рэжысёрскую работу Б. Лагоды — яго дыпломны спектакль "Залёты" (паводле В. Дуніна-Марцінкевіча), пазначаны як мюзікл. Тое было яшчэ відовішча, скажу я вам! Пастаноўку ажыццявілі ў Гродзенскім драматычным тэатры, і я разам з прадстаўнікамі Міністэрства культуры ды Саюза тэатральных дзеячаў была запрошана ацаніць гэту працу.

Ну, і ацаніла.

Гэта была слоўная рэцэнзія, выказаная падчас абмеркавання. У выніку я была ўпэўнена, што ў асобе Б. Лагоды прыдбала сабе лютага ворага. Праўда, сам ён сустракаў мае крытычныя нападкі з нейкай нават спачувальнай усмешкай: маўляў, давайдавай, гавары, мілая, уся твая балбатня для мяне — як насмарк для нябожчыка... Згадзіцеся, гэта не давала Б. Лагоду падстаў запісвацца ў мае добразычліўцы і тым больш — ангажаваць як крытыка на стварэнне "заказных" рэцэнзій.

Такім чынам, я не прадстаўляю інтарэсы Б. Лагоды, які за мінулыя 10 гадоў у пошуках працы павандраваў па былым Саюзе, перш чым уехаў у Мінск "на белым кані". За некалькі гадоў на пасадзе галоўнага рэжысёра і мастацкага кіраўніка Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі Беларусі ён і сапраўды перасварыў артыстаў, давёўшы да крайнасцяў вайну нерваў, пра якую пішаце Вы. Не робіць яму гонару і тое, што сваю незадаволенасць тымі ці іншымі акцёрамі ён, не саромеючыся, выказвае прылюдна — ці то прэс-канферэнцыя пасля прэм'еры, ці то нататка ў друку.

А вось Вы, шаноўны апанент, з такой руплівасцю апісваеце дэталі агіднага ўнутрытэатральнага канфлікту, нібыта прадстаўляеце бок, процілеглы галоўнаму рэжысёру. Можа, Вам хацелася "адзначыцца" з дапамогай скандальнага матэрыялу, заснаванага на "смажаных" фактах? Але, здаецца, калі ўжо ўмешваюцца ў гэткія канфлікты людзі нашай з Вамі прафесіі, яны павінны захоўваць максімальную аб'ектыўнасць, — прынамсі, абавязаны даць магчымасць выказацца абодвум бакам, а не праваказаваць чарговыя выбухі эмоцый сваімі публікацыямі з фразамі, кшталту: "Фактычна каля 90% асабовага складу тэатра музкамедыі ў той ці іншай ступені прад'яўляюць прэтэнзіі да свайго мастацкага кіраўніка".

Тым больш нельга мяшаць у адну кучу прэтэнзіі да чалавечых якасцяў і высновы накont прафесійных здольнасцяў, спасылаючыся на меркаванні нейкіх міфічных "спецыялістаў", якія лічаць спектакль Б. Лагоды "Цалуй мяне, Кэт!" правальным.

На маю ж думку, за апошнія гады — гэта адзін з найбольш удалых спектакляў тэатра, якія цяпер рэдка з'яўляюцца тут. Дзякуючы дакладнаму выбару акцёраў глядач атрымаў выдатны падарунак. Магчыма, відовішча крыху зацягнутае, і ад некаторых сюжэтных калізій можна было б без цяжкасцяў пазбавіцца, — тады б яно набыло неабходны тэмпарытм, асабліва ў 1-й дзеі (дарэчы, аналагічны недахоп уласцівы і дзвюм першым мінскім пастаноўкам Б. Лагоды — "Капелюшу Напалеона" і "Цыганскаму барону"). Ды ўсё ж гэты мюзікл глядзіш з вялікай цікавасцю і неадрыўнай увагай.

Як можна не заўважаць цудоўныя акцёрскія работы! Упершыню за шмат гадоў сваёй творчай практыкі на сцэне тэатра музычнай камедыі акцёр характарнага амплуа А. Касцецкі атрымаў ролю першага плана, і дэбют такога маштабу варты самых цёплых слоў. Ён іграе ролю рэжысёра Фрэда Грэхема, які ставіць п'есу У. Шэкспіра "Утаймаванне сваволніцы". Вобраз Кэт мусіць стварыць былая жонка рэжысёра Ванеса (І. Шыцікава), па характары нічым не горшая за шэкспіраўскую гераіню. Пры ўсёй трупе яна абражае Фрэда, адкрыта сабатуе рэпетыцыі... Герой жа А. Касцецкага ўсё гэта мужна трывае. Па-першае, ён апантаны тэатрам і не ўяўляе жыцця без водару куліс, без рэпетыцыйнай мітусні, без сваіх акцёраў — такіх жа, як ён, бяссрэбранікаў. Ну, а па-другое, Фрэд Грэхем усё яшчэ закаханы ў Ванесу, ды і яна ў яго. Але тэатральныя інтрыгі ўвесь час перашкаджаюць ім працягнуць адно аднаму рукі (о, гэтыя шматсэнсоўныя паралелі! Але чамусьці толькі на сцэне прымірающца рэжысёр і ягоныя акцёры, а вось у жыцці...).

# Пра ўяўныя працэнты і танныя ангажэменты





Свайго героя А. Касцецкі ўвасабляе натхнёна, шчыра, ён літаральна пражывае ролю, аддаючыся ёй цалкам.

А Ванеса ў выкананні І. Шыцікавай! Як бы каму тое ні было прыкра, а жонка галоўнага рэжысёра Б. Лагоды — вельмі прыгожая жанчына і адораная актрыса. І ў спектаклі "Цалуй мяне, Кэт!" зачароўвае сваёй пластычнасцю, уменнем дакладна расстаўляць неабходныя акцэнты, а таксама цудоўна таньчыць і спяваць. У гэтай пастаноўцы І. Шыцікава — сапраўдная зорка, і той, хто гэтага стараецца не бачыць, проста хлусіць сабе. А з якім захапленнем я назіраю за працай В. Мінгалёва (Білі Келхоўн — Лючэнца)! У сваіх невялічкіх ролях акцёр проста непараўнальны. Тое ж самае можна зазначыць і наконт яго старэйшага калегі В. Бажэнава (Гары Трэвар — Баптыста). Гэтым акцёрам даручаны, па сутнасці, ролі другога плана, нават эпізадычныя, але як ярка яны ў іх раскрываюцца! А "крымінальны дуэт" у асобах Г. Казлова і В. Сердзюкова! Кожны іх выхад у "парным канферансе" выклікае шчырыя ўсмешкі і апладысменты слухачоў — настолькі адточаныя іх сцэны, настолькі

Ірына БАГДАНОВІЧ

# Жывы струменьчык адраджэння

## БРАНІСЛАЎ ЭПІМАХ-ШЫПІЛА І СЕЛІГОРСКАЯ БІБЛІЯТЭКА ВІНЦЭНТА МЯНІЦКАГА

ПАЧАТАК XX ст. характарызаваўся моцным уздымам нацыянальнага літаратурна-грамадскага руху. Адным з найбольш ранніх яго асяродкаў быў, як вядома, Пецярбург, дзе гуртавалася беларуская студэнцкая моладзь і дзе займаў сціплую пасаду памочніка дырэктара бібліятэкі Пецярбургскага універсітэта грунтоўны філолаг-класік Браніслаў Эпімах-Шыпіла — прызнаны дзеяч беларускага культурнага адраджэння. Ён быў нібы жывы масток паміж апошняй чвэрцю XIX ст. — Багушэвічавым перыядам літаратуры і пачаткам XX ст. — новым, "нашанíўскім" этапам. Маючы сталую працу і жыццё ў Пецярбурзе, Б. Эпімах-Шыпіла з пачатку стагоддзя і да рэвалюцыі 1917 г. падтрымліваў студэнцкую моладзь з Беларусі, быў у цэнтры беларускага літаратурна-грамадскага жыцця ў паўночнай сталіцы Расійскай імперыі.

“Бліжэй апісваючы беларускую дарэвалюцыйную працу Шыпілы, — пісаў аб ім у 30-я гады Адам Станкевіч, — трэба зазначыць, што ішла яна перадусім у трох кірунках: сабіранне кніжак і агулам культурных памятак беларускай мінуўшчыны, гадаванне, арганізаванне і ўсведамленне беларускай моладзі і ўрэшце арганізаванне беларускай культурнай, перадусім выдавецкай працы”. Высока ацэньваючы заслугі Б. Эпімах-Шыпілы ў фарміраванні цэлай кагорты свядомых дзеячаў нацыянальна-культурнага, грамадска-палітычнага і рэлігійнага адраджэння, аўтар адзначыў, што ўсе яны (Я. Купала, Б. Тарашкевіч, З. Жылуновіч, Т. Грыб, Я. Варонка, К. Душэўскі, ксяндзы В. Гадлеўскі, А. Станкевіч, Ф. Абрантовіч, Я. Шутовіч, А. Цікота і інш.) у большай або меншай ступені — яго выхаванцы, яго духоўныя дзеці.

У 90-я гады ў друку з'явіліся абгрунтаваныя заўвагі аб тым, што роля Б. Эпімах-Шыпілы ў беларускім культурным адраджэнні ў некаторай ступені перабольшана. Так, Ю. Туронак падкрэсліае непраўдзівасць версіі аб тым, што Эпімах-Шыпіла быў кіраўніком суполкі “Загляне сонца і ў наша ваконца”, што на самай справе ім быў В. Іваноўскі, актыўная адраджэнская дзейнасць якога па вядомых прычынах замоўчвалася. Дасведчаны гісторык звяртае ўвагу і на тое, што Эпімах-Шыпіла падключыўся да выдавецкай справы, калі яна ўжо перайшла пасля 1905 г. у легальнае рэчышча, а да гэтага часу ў нелегальным беларускім друку ён не ўдзельнічаў, стараючыся і ў далейшым унікаць небяспечных сітуацый. Пры ўсёй слушнасці гэтых заўваг, думаецца, аўтарытэт Б. Эпімах-Шыпілы застаецца бясспрэчным, а яго заслугі ў справе нацыянальнага адраджэння значнымі.

А. Станкевіч нават параўноўваў Б. Эпімах-Шыпілу з Ф. Багушэвічам, выказваў думку, што яны былі добра знаёмымі ў апошняе дзесяцігоддзе XIX ст. “Багушэвіч — гэта патрыярх сучаснага нацыянальнага адраджэння, а Шыпіла — першы практычны піянер, пачынальнік гэтага адраджэння, — пісаў А. Станкевіч. — Першы тварыў тэорыю, а другі — жыццё”. Б. Эпімах-Шыпіла аказваў значны ўплыў на развіццё беларускай нацыянальнай навукі і культуры і ў 20-я гады, калі па запрашэнні Інбелкульта прыехаў у Мінск і да павальных рэпрэсій у 1930 г. працаваў тут, атрымаўшы ў асяроддзі маладзейшых калег неафіцыйны ганаровы статус Нестара беларускага адраджэння. А як можна было не шанаваць і не любіць гэтага адзінокага ў асабістым жыцці чалавека — адраджэнца 70-гадовага ўзросту, які не пабаяўся заступіцца за маладых беларускіх пісьменнікаў — студэнтаў універсітэта, аўтараў сумнавядомага “ліста трох” А. Александровіча, А. Дудара, М. Зарэцкага?! Калі яны за свае нацыянальна-патрыятычныя погляды былі звольнены з універсітэта, менавіта Эпімах-Шыпіла ў прыватнай размове сказаў, што за гэтых трох пісьменнікаў ён аддаў бы ўвесь Мінскі універсітэт з усёй яго тагачаснай прафесурай. Думаецца, што гэтыя словы былі сказаны з гонарам за тое, што было каму і ў канцы 20-х гадоў працягваць справу нацыянальнага адраджэння, і з душэўным болем, бо ўжо бачна было тады, у якія катавальныя сутарэнні заганяецца гэтая справа. І сам ён, “Нестар беларускага адраджэння”, і маладыя абаронцы беларушчыны, разам з сотнямі іншых паплечнікаў сталі вязнямі гэтых сутарэнняў, калі адраджэнне Беларусі ім здавалася ўжо блізкім і рэальным.

Б. Эпімах-Шыпіла сапраўды як бы сімвалічна звязваў у адну найкаштоўнейшую ніць культурныя і літаратурныя працэсы, што адбываліся ў XIX ст., з абнаўленнем іх у пачатку XX ст. Найістотнейшай рэаляй такой звязкі была яго рукапісная “Беларуская хрэстаматыя”, арыгінал якой захоўваецца зараз у Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва. Гэта унікальная крыніца, дзякуючы якой да нас сёння дайшлі многія вершаваныя творы другой паловы XIX — пачатку XX ст. Яна яшчэ мала вывучана даследчыкамі, нягледзячы на тое, што многія творы адтуль былі, адны раней, другія пазней, перадрукаваны і занялі сваё належнае месца ў гісторыі беларускай літаратуры: гэта вершы Ф. Тапчэўскага, зашыфраванага псеўданімам “Хвэлька з Рукшэніц” — “Панскае ігрышча”, “Саўсім не тое, што было”, “Грошы і праца” і інш., ананімны твор “Гутарка старога дзеда”, што прыпісваецца В. Каратынскаму, верш “Добрыя весці” У. Сыракомлі і рускі пераклад яго “Паштальёна”, знакаміты “Тарас на Парнасе”, перапісаны складальнікам з газеты “Минский листок” у 1889, эпігонскі твор “Сцяпан і Тацяна” А. Шункевіча, напісаны стылізаваным пад пушкінскага “Яўгенія Анегіна” ямбам, верш Зыгмунта Нагродскага ў памяць пра ягонага сябра Ф. Багушэвіча “На памятку зычліваму для сям'і”, творы Цёткі “Мора” і “Хрэст на свабоду”, адзін з лепшых узораў лірыкі Альберта Паўловіча — верш “Сумная восень” у арыгінале і з некалькімі перакладамі, два з якіх (на польскую і нямецкую мовы) зрабіў сам Б. Эпімах-Шыпіла, а таксама шматлікія іншыя вершы. Як сведчаць крайнія даты дакумента, пачаў Б. Эпімах-Шыпіла запісваць беларускія вершаваныя тэксты ў спецыяльна заведзены для гэтага сшытак летам 1889 г. на роднай сваёй Лепельшчыне, апошнія ж запісы былі зроблены напрыканцы жыцця ў 1931 годзе. Як бачна, на працягу паўстагоддзя не расставаўся Эпімах-Шыпіла са сваёй “Хрэстаматыяй”, хаця выдаць яе так і не паспеў, а можа, і не збіраўся, захоўваючы яе як унікальны беларускі рукапісны альманах, накшталт славутага “Альбома” А. Вярыгі-Дарэўскага, аб існаванні якога, ён, магчыма, ведаў з вусных размоў у сваім асяроддзі. Асяроддзе ж гэтае фарміравалася часткова і ў старых беларуска-польскамоўных фальварках, дзе ствараліся бібліятэкі, назапашвалася беларушчына ў выглядзе старых дакументаў і грамат, памятных рэчаў і новых арыгінальных тэкстаў. Такімі асяродкамі цягам стагоддзяў былі нясвіжская рэзідэнцыя Радзівілаў, з архівам якой працавалі, як вядома, У. Сыракомля і В. Каратынскі, сядзіба Храптовічаў у Шчорсах, да бібліятэкі і архіваў якой мелі доступ прынамсі А. Міцкевіч і Я. Чачот, маёнтак А. Ельскага ў Замосці пад Мінскам, дзе ўжо ў канцы XIX ст. збіральніцкая праца гаспадара была накіравана менавіта на беларускія рарытэты. Але гэта толькі некаторыя красамоўныя прыклады, можа быць, самых вядомых збіральнікаў і захавальнікаў нацыянальна-культурных каштоўнасцей Беларусі. Гэтую справу ў пачатку XX ст. працягнуць браты Іван і Антон Луцкевічы, стварыўшы вядомы Беларускі музей у Вільні, і сам Эпімах-Шыпіла, сабраўшы калекцыі і кнігі ў сваім родным фальварку Залессе ў Лепельскім павеце. Штогод улетку Б. Эпімах-Шыпіла прыязджаў туды з Пецярбурга.

Калі мы ўважліва прыгледзімся да зробленага мініяцюрнымі літарамі подпісу пад першым вершам у “Хрэстаматыі” (а гэта вядомы рэлігійны верш-гімн “О мой Божа, веру табе!”), то ўбачым наступнае: “Спісана ў чэрвені 1889 г. у Селігорах у п. Вінцэнта Мяніцкага з карткі “друкаванай”. У той жа час і там жа былі перапісаны “Гутарка старога дзеда” і верш “Добрыя весці” Сыракомлі. Было яшчэ шмат твораў з такой жа паметай... Само сабой напрошвалася пытанне: хто такі Вінцэнт Мяніцкі з загадкавых Селігор, у якіх нарадзілася славутая “Беларуская Хрэстаматыя” Б. Эпімах-Шыпілы? Сапраўды, ні імя Мяніцкага, ні назва Селігоры бадай ніяк не прысутнічалі ў гісторыі нашай літаратуры XIX ст., за выключэннем некалькіх ускосных згадак, але нават не ў сувязі з “Хрэстаматыяй”. Слушныя парады даў на пачатку пошукаў даследчык літаратуры XIXст. д-р Г. Кісялёў, якому аўтар шчыра ўдзячны. Высветлілася, што В. Мяніцкага, відавочна, добра ведаў Р. Зямкевіч, бо ў сваім лісце да Б. Тарашкевіча ён згадвае імя Мяніцкага сярод асоб, ад якіх ён атрымаў звесткі аб А. Вярыгу-Дарэўскім. Ёсць і яшчэ адна згадка: у 1928 г. была змешчана цікавая інфармацыя ў хроніцы часопіса “Полымя” аб тым, што ў маёнтку Селігоры Лепельскага раёна ў дарэвалюцыйныя часы знаходзілася вялікая бібліятэка, у якой было шмат рэчаў з беларускай культуры, у тым ліку драма “Аказія падпалкоўніцам” Гароніма Марцінкевіча, якая ў 1862 г. ставілася на віцебскай сцэне. Гэтую ж звестку крыху раней даваў Ф. Аляхновіч. Апрача гэтага, у другім томе польскага “Слоўніка геаграфічнага” ў спісе асоб, якія дапамагалі нейкімі матэрыяламі для слоўніка, значыцца прозвішча Вінцэнта Мяніцкага з Селігор. Гэта было, бадай, і ўсё.

Такім чынам, высвятлялася бясспрэчна, што ўладальнік маёнтка Селігоры, блізкі сусед Б. Эпімах-Шыпілы, быў адукаваным і цікавым чалавекам, які збіраў беларускія рукапісныя рарытэты XIX ст. і, магчыма, валодаў каштоўнай бібліятэкай. Хто ж ён, гэты ўладальнік Селігор, такі падобны ў сваёй дзейнасці на І. Храптовіча і А. Ельскага, але імя якога яшчэ так мала гаворыць даследчыкам беларускай літаратуры? У выніку архіўных і іншых пошукаў загадка паступова пачала праясняцца.

Маёнтак Селігоры Лепельскага павета, ад якога цяпер на карце засталася толькі назва возера Селігоры, знаходзіўся зусім недалёка ад радзіннага фальварка Залессе Б. Эпімах-Шыпілы. Суседства паклала пачатак сяброўству, бо відавочнымі былі беларускія зацікаўленні абодвух. Б. Эпімах-Шыпіла ў 80-х гадах XIX ст. ужо скончыў універсітэт у Пецярбурзе і распачынаў там філалагічную працу. Улетку ён звычайна наведваўся на бацькаўшчыну, і ў адзін з такіх прыездаў у чэрвені 1889 г. пры сустрэчы з даўнім знаёмым, суседам, старэйшым за яго на 9 год Вінцэнтам Мяніцкім, даведаўся аб тым, што той даўно збірае ў сваю бібліятэку (фамільную каштоўнасць, якая дасталася ў спадчыну ад продкаў разам з Селігорамі) беларускія творы, якія ананімна і рукапісна распаўсюджваліся сярод адукаванай беларускай спольшчанай шляхты. Такім чынам, магчыма, і ўзніклі пачаткі рукапіснай “Хрэстаматыі”, якую Б. Эпімах-Шыпіла будзе папаўняць новымі творамі амаль да канца жыцця.

Архіўныя росшукі дапамаглі ідэнтыфікаваць асобу Вінцэнта Мяніцкага сярод шматлікіх шляхетных сямействаў Мяніцкіх у Віцебскай губерні. У “Спісах патомных дваран Лепельскага павета за 1880—1908 гг.” знайшоўся “Спіс аб сямействе двараніна Лепельскага павета Віцебскай губерні Вікенція-Міхаіла-Пятра Пятровіча Мяніцкага”, складзены 10 студзеня 1903 г. Паводле гэтага дакумента, Вінцэнт Мяніцкі быў далучаны да роду яшчэ ў 1861 г. і менавіта ён быў апошнім зацверджаным у дваранстве прадстаўніком сваёй радаводнай галіны. У 1903 г., як сказана ў дакуменце, “іншыя асобы, паказаныя ў спісе, да роду не далучаны”. Вінцэнт Мяніцкі быў досыць буйным землеўладальнікам, валодаў у агульнай колькасці 240 дзесяцінамі зямлі, дзе, апрача земляробства, вёў лясную гаспадарку. Для параўнання згадаем, што Б. Эпімах-Шыпіла, валодаючы маёнткам Залессе, меў 25 дзесяцін зямлі і 9 дзесяцін лесу, што, аднак, не перашкаджала іх сяброўству і агульным зацікаўленням. Дарэчы тут будзе прывесці і адпаведны радаводны дакумент: “Спісак аб сямействе двараніна Лепельскага павета Віцебскай губерні Браніслава Ігнатавіча Эпімах-Шыпілы”. Ён быў складзены ў 1883 г. і гаворыць аб тым, што Б. Эпімах-Шыпіла клапаціўся аб захаванні свайго радаводу, падаўшы адпаведныя дакументы. Яны сведчылі, што сам Браніслаў Ігнатавіч і яго браты Баляслаў і Уладзіслаў-Юльян былі ўнесены Віленскім Дваранскім дэпутацкім сходам у 1865 г. у шостую частку дваранскай радаводнай кнігі, а ў 1870 г. атрымалі пасведчанні аб пацвярджэнні дваранскай годнасці, выдадзеныя Дэпартаментам Герольдыі Праўячага Сената. Што датычыць В. Мяніцкага, то іх род двойчы, у 1819 і 1834 г., быў зацверджаны ў дваранстве. З гэтага дакумента праясніліся і біяграфічныя факты: Вінцэнт Мяніцкі нарадзіўся 31 мая 1850 г., быў жанаты з Зоф'яй Ізабелай Служка-Цяпінскай (нар. 1863 г.), меў трох сыноў Рышарда (нар. 1886 г.), Мар'яна (нар. 1890г.) і Пятра (нар. 1892 г.), а таксама дачку Ганну (нар. 1894 г.).

Вывучэнне спадчынных каранёў Вінцэнта Мяніцкага крыху спрасцілася ў выніку таго, што ў Варшаве ў 1928 г. былі выдадзены асобным выданнем “Радавод дома Мяніцкіх герба Леў з муру”. Радавод быў апрацаваны варшаўскім архівістам Аляксандрам Валадарскім. Як вынікала, Мяніцкія былі старажытным рыцарскім родам у былым Полацкім ваяводстве. Заснавальнік роду Пётр жыў у XV ст., памёр каля 1493 г. Селігоры былі набыты ў сям'ю ўжо ў 1557 г. унукам Пятра Васілём. Герб Мяніцкіх (на тарчы ў блакітным полі леў, павернуты ўправа, які высокквае з чырвонага муру і трымае ў лапах залатое кола; у кароне пад шлемам такі ж леў) быў зацверджаны каралём Жыгімонтам Аўгустам у 1551 г.

Васіль, як паведамляе “Радавод”, “пад кіраўніцтвам ваяводы кіеўскага А. Неміровіча і ваяводы полацкага Давойны змагаўся як годны рыцар і шляхціц у многіх і частых патрэбах з непрыяцелямі”. Менавіта Васіль значна пашырыў валоданні Мяніцкіх, і ў тым ліку набыў Селігоры. Адзін з сыноў Васіля, Юры, служыў у войску Стэфана Баторыя і загінуў у бітве пад Полацкам у жніўні 1579г. Сярод знакамітых нашчадкаў гэтай галіны Мяніцкіх у пазнейшы час, ужо ў XVIII ст., вызначыўся Міхал (нар. 1763 г.). Ён, у 1786г. ротмістр Полацкага ваяводства, быў прызнаны мужным і адважным полацкім патрыётам, надзеленым іншымі годнымі ўхвалы вартасцямі. Адзін з яго сыноў Пётр (гэтае імя заснавальніка роду пастаянна сустракаецца ў генеалагічным дрэве) быў дэпутатам Лепельскага павета, дзедзічам Селігор. Менавіта яго сынам і быў Вінцэнт, які атрымаў у спадчыну Селігоры разам з ужо сабранай бібліятэкай і калекцыямі, якія потым усё жыццё папаўняў, збіраючы беларускія рукапісныя творы ў другой палове XIX ст. і пашыраючы калекцыі. Гэта пацвярджае і нашчадак В. Мяніцкага сп. Гарольд Мяніцкі, які жыве цяпер у Варшаве і дзеліцца ўспамінамі пра свайго дзеда: “Збіраючы кніжкі і часопісы, дбаў старанна аб іх адборы, адначасова ж ахвотна рабіў іх даступнымі суседзям і асобам заінтэрэсаваным... Бібліятэка селігорская відавочна залічалася да вялікіх і багатых. Была створана не толькі дзякуючы Вінцэнту Мяніцкаму, але таксама дзякуючы яго продкам”. Такім чынам, рыцарская шляхецкая сям'я Мяніцкіх вылучалася не толькі дзяржаўнай чыннасцю і вайсковымі подзвігамі, але і любоўю да духоўнасці, асветы, імкненнем да захавання культурнай спадчыны продкаў, што відавочна яднае гэты род са слаўнымі духоўнымі традыцыямі Полаччыны і найперш з традыцыямі Ф. Скарыны, у эпоху якога заглыбляюцца карані роду Мяніцкіх.

Каб закончаным выглядаў сямейны партрэт Мяніцкіх, трэба згадаць, што былі вартымі сваіх продкаў і сыны самога Вінцэнта Мяніцкага, на долю якіх ужо выпалі ўсе гістарычныя драмы і трагедыі першай паловы нашага стагоддзя. Сам пан Вінцэнт і яго жонка памерлі абодва ў 1916 г., не ўбачыўшы жахлівага лёсу свайго спадчыннага гнязда, раскіданага і знішчанага рэвалюцыяй. Старэйшы сын — вядомы ў далейшым польскі гісторык Рышард Мяніцкі, аўтар шматлікіх манаграфій па гісторыі Беларусі, асталяваўся ў даваенны час у Вільні, паспеўшы вывезці

*(Працяг на стар. 14—15)*

## Перакладчык Купалы

**Больш за сорак твораў народнага песняра Беларусі Янкі Купалы пераўвасобіў па-руску паэт і перакладчык Сяргей Гарадзецкі. Сярод іх — паэмы "Барысаў", "Над ракою Арэсай", такія вядомыя вершы, як "Хлопчык і лётчык", "Партызаны", "Старыя акопы", "Сосны", "Сыходзіш, вёска, з яснай явы..." і іншыя. С. Гарадзецкім напісаны артыкул "Творчасць Янкі Купалы і беларуская народная паэзія", "За што мы яго любім", "Любімы пясняр", "Тры вершы"... А пазнаёміўся Сяргей Мітрафанавіч з Янкам Купалам і Якубам Коласам у пачатку трыццатых гадоў. Асабліва зблізіўся з Іванам Дамінікавічам, з якім хутка пасябраваў. І ўвогуле, С. Гарадзецкі падтрымліваў цесныя сувязі з Беларуссю, шмат рабіў па прапагандзе нашай літаратуры ў Расіі. Ён з'яўляўся рэдактарам і складальнікам шэрагу кніг беларускай паэзіі ў перакладзе на рускую мову. А зборнік "Песня дружбы" С. Гарадзецкага, выдадзены ў 1947 годзе ў Мінску, з'явіўся з прысвячэннем "Светлай памяці друга і брата Янкі Купалы". 17 студзеня з дня нараджэння С. Гарадзецкага споўнілася 115 гадоў (памёр Сяргей Мітрафанавіч 8 чэрвеня 1967-га).**

## З клопатам аб мове

**Споўнілася 70 гадоў з дня нараджэння вядомага мовазнаўцы, доктара філалагічных навук Мікалая Васілеўскага (памёр 14 снежня 1989 года). Мікалай Сямёнавіч — родам з вёскі Макраны цяперашняга Капыльскага раёна. У 1948 годзе скончыў Нясвіжскае педагагічнае вучылішча, у 1954-м — філалагічны факультэт Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя М. Горкага. Настаўнічаў на Случчыне, вучыўся ў аспірантуры. З кастрычніка 1961 года да жніўня 1968-га аддзелам беларускай літаратуры Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна. А пасля зноў звязаў лёс з педінстытутам — старшы выкладчык, дацэнт, загадчык кафедры агульнага мовазнаўства, дацэнт кафедры агульнага і рускага мовазнаўства, прафесар кафедры рускай мовы для нацыянальных школ. М. Васілеўскі — аўтар манаграфій "Прадуктыўныя тыпы дзеясловаў у сучаснай беларускай мове" і "Дзеяслоўнае словаўтварэнне. Адыменныя суфіксальныя лексемы", шматлікіх публікацый у навуковых зборніках і перыёдыцы.**

## Студэнцкі культурна-асветніцкі дэсант

**Некалькі дзён у Брэсце гасцявала група студэнтаў Мінскага універсітэта культуры ў адпаведнасці з праграмай прафесійнай арыентацыі юнакоў і дзяўчат. Студэнты наведалі гістарычныя мясціны горада, знаёміліся з працаю культустаноў, сустракаліся са сваімі аднагодкамі і школьнікамі. Суправаджалі іх супрацоўнікі Міністэрства культуры рэспублікі, паэтка Ніна Загорская і паэт Васіль Жуковіч. У абласной бібліятэцы госці наладзілі паэтычна-музычнае выступленне, у якім прыняў удзел і брэсцкі дзіцячы паэт Іван Мельнічук.**

**С. А.**

## Першая справаздача "Фону"

**Амаль трыццаць гадоў працуе з самадзейнымі мастацкімі калектывамі брэсцкі кампазітар Віктар Фяцісаў. Пад яго кіраўніцтвам заслужылі права называцца народнымі ансамбль песні і танца "Золак" і хор "Вербніца". А паўтара года назад Віктар Фяцісаў стварыў пры абласным цэнтры маладзёжнай творчасці ансамбль народнай музыкі "Фон".**

**Днямі адбылася першая творчая справаздача новага калектыву. Сваё майстэрства паказалі група народных інструментаў і дзве вакальна-харавыя групы.**

**Дапамагаў рабіць творчую справаздачу "Фону" ансамбль народнага танца "Крынічка".**

**Сымон АКСЕНІН**

ВАНДРОЎКІ

# І гэта быў не сон...

***Цяпер, калі на вуліцах Мінска ляжыць снег і дзьме пранізлівы вецер, перад вачамі паўстае неверагоднай прыгажосці краявід. У бездань пранізліва блакітнага бязвоблачнага неба ўпіраюцца магутныя горныя вяршыні, пакрытыя вечнымі льдамі. У іх атачэнні велічна вымалёўваецца пік гары Манблан. Яркае сонца залівае сваім бурштынавым святлом раскошныя альпійскія лугі, ахопленыя непасцігальным у гэты час цвіценнем траў. З абрывістых скал імкліва зрываюцца грымучыя вадаспады, рассыпаючыся ў паветры на мільёны дробных дыяментаў... І думаецца: што гэта — сон, ява? Такое сапраўды магло б прысніцца. Але ўсё гэта мы ўбачылі на ўласныя вочы, праязджаючы па дарогах Швейцарыі. Ды, зрэшты, пра ўсё па парадку.***

### ЗАПРОСІНЫ Ў ШВЕЙЦАРЫЮ

Апошнім часам балетная трупа Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі Рэспублікі Беларусь — творчы калектыў, які стварыла і ўзначальвае заслужаная артыстка Расіі Ніна Дзьячэнка, — усё больш прыцягвае да сябе ўвагу не толькі самых патрабавальных айчынных знаўцаў харэаграфічнага мастацтва, а і замежных імпрэсарыо. У 1995—97 гг. калектыў неаднаразова і паспяхова гастраляваў у Іспаніі і Партугаліі, яго з захапленнем прымалі гледачы Англіі, Шатландыі, Германіі.

Генеральны менеджэр швейцарскай гастрольна-канцэртнай арганізацыі, якая прадстаўляе сваім гледачам новыя музычныя праекты і калектывы, звярнуў увагу, зацікавіўшыся маладой перспектыўнай трупай з Беларусі, увесну 1998 г. наладзіў стасункі з кіраўніцтвам тэатра. Урэшце прыехаў у Мінск, пазнаёміўся з прэсай, прагледзеў відэакасеты, наведаў шэраг спектакляў і творчы вечар лаўрэатаў міжнародных конкурсаў, салістаў балета тэатра Ю. Дзятко ды К. Кузняцова. Спецыяльна для гэтага вечара, па просьбе Юліі і Канстанціна (хто ж не марыць пра партыі Жызэлі і Альберта!) быў падрыхтаваны другі акт балета А. Адана "Жызэль". І менавіта "Жызэль" зацікавіла швейцарскага менеджэра, бо гэты балет ужо некалькі гадоў не паказваўся ў Швейцарыі.

У выніку, Аляксандр Янкоў, прадстаўнік саліднай швейцарскай арганізацыі "Pro Mùsica", якая аб'ядноўвае ў сваім складзе вядучых крытыкаў і дзеячаў музычнага мастацтва, заказаў пастаноўку спектакля і запрасіў на гастролі з ім у Швейцарыю балетную трупу і аркестр нашага тэатра.

Магчыма, каб не паступіла гэта зусім канкрэтная прапанова, якая адкрывае перспектыву выезду на гастролі за мяжу не толькі балета, а і аркестра тэатра, Н. Дзьячэнка пакуль і не рызыкнула б "замахнуцца" на пастаноўку "Жызэлі" — шэдэўра сусветнай балетнай класікі. Але чалавек валявы і мэтанакіраваны, яна зацікавілася прапановай, бо прывыкла ставіць перад сабой і сваім калектывам усё больш складаная творчыя задачы. Намер уключыць спектакль у рэпертуарна-пастановачны план тэатра быў падтрыманы мастацкім саветам. А пераадолець шэраг узнікшых цяжкасцяў па здзяйсненні гэтай работы дапамагло кіраўніцтва горада, прынамсі, намеснік старшыні Мінгарвыканкама Васіль Васільевіч Гурын.

Прэм'ера спектакля, прымеркаваная да пачатку новага тэатральнага сезона, была паказана на родных падмостках і цёпла сустрэта мінскімі гледачамі. Ды напярэдадні былі гастролі ў Швейцарыі. І калі калектыў балета рыхтаваўся да свайго ўжо дзевятага па ліку замежнага турнэ, дык аркестр тэатра на гастролі за мяжу выязджаў упершыню. Упершыню за 28 гадоў працы ў тэатры (20 гадоў вядучай салісткай балета, апошнія 8 гадоў — загадчыцай літаратурнай часткі) выпраўлялася на замежныя гастролі з родным мне калектывам балета і я.

Пасля двух сутак дарогі на аўтобусах фірмы "Інтэркар" праз Польшчу і Германію, а першай гадзіне ночы 3 лістапада мы прыбылі на мяжу Швейцарыі. Дабрадушны швейцарскі пагранічнік, даведаўшыся, адкуль мы, і пракаментаваўшы: "О, Беларусь — Лукашэнка!", быў з намі вельмі прыветны і зычлівы. Фармальнасці праходжання тамтэйшай мяжы занялі, наўздзіў, зусім няшмат часу.

### ШАФХАЎЗЕН, 4 ЛІСТАПАДА

Горад Шафхаўзен, дзе адбыўся наш першы спектакль, ляжыць у маляўнічай мясцовасці на беразе магутнай і паўнаводнай ракі Рэйн, непадалёк ад мяжы з Германіяй. Своеасаблівасць і непаўторнасць архітэктурнаму абліччу горада надаюць вузкія звілістыя вулачкі з невысокімі, у гатычным стылі, старадаўнімі будынкамі і прыгожымі скульптурнымі ансамблямі. У муніцыпальным тэатры Шафхаўзена праводзіўся восеньскі фестываль музычных спектакляў. "Жызэль" адкрывала фестывальную афішу, пасля нас выступаў Іспанскі нацыянальны балет ды іншыя калектывы.

З вялікім хваляваннем чакалі ўсе мы пачатку гэтага першага спектакля. Хвалявалася Ніна Дзьячэнка, якая два дні практычна не пакідала тэатр, праводзіла ўрок, рэпетыцыі, давала інтэрв'ю тэлебачанню і прэсе, разам з мастаком спектакля Вольгай Жалонкінай дэкаравала ўстаноўкай святла і манціроўкай дэкарацый. Узбуджана даваў апошнія настаўленні артыстам аркестра і карэктаваў нюансы дырыжор Міхаіл Сіньковіч. Укладала сваю душу і унікальное майстэрства, грыміруючы і прычэсваючы выканаўцаў, Юлія Раброва. Адпрасаваўшы і падрыхтаваўшы гару касцюмаў, завіхалася між артыстаў загадчыца касцюмернага цэха Галіна Сердзюкова. Разагравaліся і апрабоўвалі тэхнічна складаныя мясціны сваіх партый артысты балета.

Ды й як ужо тут не хвалявацца! Бо Аляксандр Янкоў папярэдзіў: "На такі прыём, як у Мінску (ён прыязджаў на прэм'еру), — не разлічвайце: у нас, як правіла, дзеянне па ходзе спектакля не перапыняецца апладысментамі. Не спектаклі прыязджаюць гледачы з Берна, Жэневы ды іншых гарадоў. Швейцарская публіка — надта спешчаная, часам тут "не праходзяць" нават самыя праслаўленыя калектывы".

Ва ўтульнай, кампактнай глядзельнай




зале, з высокім купалападобным скляпеннем, распісаным фрэскамі, з партэрам на 363 месцы і двума ярусамі балконаў — усяго 700 месцаў — быў аншлаг. У сярэдзіне І акта нечакана пачуліся апладысменты. Дынаміка і драматычны напал дзеяння паступова ўзмацнялі ўзаемасувязь паміж сцэнай і залай, а да кульмінацыйнай развязкі акта лёд насцярожанай увагі быў поўнасцю растоплены. Юлія Дзятко правяла сцэну вар'яцтва Жызэлі надзвычай эмацыянальна і пераканаўча, настолькі хвалююча-кранальна, што нават у нас, хто стаяў за кулісамі, літаральна камяк падкаціўся да горла. Глядзельную залу апанавала хвілiннае маўчанне, якое потым выбухнула громам апладысментаў! Заслона пасля І акта не закрывалася некалькі хвілін.

З-за невялікіх памераў сцэны выканаўцам спектакля давялося крыху эканоміць на шырыні і амплітудзе рухаў, але, разам з тым, гэта ўнесла ў танец Юліі Дзятко і Канстанціна Кузняцова незвычайную адухоўленасць і эмацыянальную напоўненасць. Сугучна шчымліва-хвалюючаму сола альта, кожная падтрымка ў адажыо II акта, кожны арабеск напаўняліся струменлівай кантыленай руху, глыбокім зместам і сэнсам. У варыяцыі Жызэлі бязважка-лунаючыя скокі па-дэ-ша, субрэса з эфемерна-таючым надломам корпуса "прапяваліся" Юліяй Дзятко ўсім целам, кожнай часцінкай душы, і гэта было, напэўна, адзін з лепшых яе спектакляў. Дуэт Ю. Дзятко і К. Кузняцова ўздымаўся да ўзроўню споведзі, гучаў як гімн вечнага кахання.

Я была ў глядзельнай зале, і мне падалося, што апладысменты ў канцы спектакля ды бясконцыя паклоны доўжыліся больш за 10 мінут. Гэта быў поспех. Пасля спектакля Аляксандр Янкоў запрасіў Ніну Дзьячэнку ў

# Жывы струменьчык адраджэння

*(Працяг. Пачатак на стар. 13)*

з Селігор значную частку бібліятэкі. Другі сын, Мар'ян, стаў медыкам, прафесарам універсітэта ў Лодзі, аўтарам навуковых кніг па дэрматалогіі. Малодшы сын Пётр, які меў агранамічныя схільнасці і пры добрых сацыяльных варунках мог годна працягваць гаспадаранне ў Селігорах, загінуў у 1919 г. у баі пад Мінскам.

Радавод, аднак, не даваў больш падрабязных звестак пра асобу Вінцэнта Мяніцкага, яго гісторыка-культурныя зацікаўленні і далучанасць праз Б. Эпімах-Шыпілу да справы беларускага адраджэння і беларускай літаратуры. Некаторае святло на гэтае пытанне пралівае згаданы ўжо ліст сп. Гарольда Мяніцкага з Варшавы. Так, паводле яго ўспамінаў, атрымаўшы толькі гімназічную адукацыю і меўшы вялікія здольнасці да навуковай працы, В. Мяніцкі тым не менш не здолеў працягваць далей вучобу, бо з-за ранняй смерці бацькі рана стаў спадкаемцам Селігор і павінен быў весці там гаспадаранне. Усё жыццё ён прысвяціў Селігорам, пры гэтым цікавячыся і займаючыся навукай: археалогіяй, гісторыяй, літаратурай. Як піша Г. Мяніцкі, у яго была шырокая карэспандэнцыя з Генрыкам Сянкевічам, з выдаўцамі часопісаў "Край", "Вісла", "Квартальнік гістарычны", "Ведамасці нумізматычна-археалагічныя" і інш. Удзельнічаў ён і ў тагачасным навуковым гістарычным і археалагічным руху, збіраў дакументы, стадарукі. Цікавіўся таксама літаратурай, меў калекцыю беларускіх тэкстаў, аб чым яскрава сведчыць "Беларуская хрэстаматыя" Б. Эпімах-Шыпілы, які паклаў ёй пачатак менавіта ў Селігорах у В. Мяніцкага. Збіраліся ў Селігорах абразы і гравюры. А таксама захавалася фамільная легенда аб тым, што жонка В. Мяніцкага Зоф'я, дачка паўстанца 1863 г., сасланага ў Сібір, дзе і сама яна правяла 20 гадоў свайго жыцця, паходзіла з роду Цяпінскіх, які выводзіўся з XVI ст. і прадстаўніком якога быў славуты беларускі асветнік Васіль Цяпінскі. Гэта таксама цікавая, хоць дакументальна не пацверджаная згадка, якая яднае гісторыю Беларусі даўніх і новых часоў у адзінае духоўнае цэлае, звязанае ў сваё непарыўнае адзінства ніцямі канкрэтных чалавечых лёсаў, што ўтваралі магутны і велічны, часамі трагічны і слаўны Радавод Беларусі.

Большая частка з таго, што ацалела ад каштоўнай селігорскай бібліятэкі (нездарма ж сляды яе шукала ў 20-я гады Лепельскае краязнаўчае таварыства!), апынуўшыся

рэстаран, што насупраць тэатра, каб абмеркаваць далейшыя планы. Наведвальнікі рэстарана, у асноўным публіка, што прысутнічала на спектаклі, пазналі Ніну Мікалаеўну і сустрэлі яе апладысментамі.

**З рэцэнзіі на спектакль.** "Не спрачацца, а захапляючыся — дыскутаваць дало нагоду майстэрства артыстаў... І калі публіка сама нястрымна апладзіруе ў сярэдзіне актаў, для гэтага павінна быць важкая прычына: разуменне высокага ўзроўню танцавальнай тэхнікі, больш чым фантастычнага матэрыялу з эпохі Рамантызма і, нарэшце, уздзячнасць бачыць пачуцці, якія ўжо аджылі і "ачышчаюць", што тэатр робіць таксама магчымым... Канстанцін Кузняцоў як мімічна, так і танцавальна паказаў развіццё вобраза закаханага чалавека, які страціў сваё шчасце і адчуў пакуту, усвядоміў гэта, сам зведаў небяспеку і стаў сапраўдным мужчынам. У выкананні Юліі Дзятко Жызэль — летуценніца, спачатку наіўная, квітнеючая, шчаслівая, потым — на мяжы адчаю і, нарэшце, чароўная ў "апраметнай" прывідна цудоўных віліс... І танцы ўсіх віліс з іх выдатнай сінхроннасцю мелі толькі адзін недахоп: сцэна Шафхаўзена была для іх занадта маленькай..."

Назаўтра мы, 8 чалавек, што жылі ў прыватным гатэлі невялікага гарадка Штайнам-Райна за 20 кіламетраў ад Шафхаўзена (астатнія размяшчаліся ў трох іншых гатэлях), мелі магчымасць пазнаёміцца з нашай гасціннай гаспадыняй фрау Рытай. Не ведаючы мовы, мы на здзіўленне добра разумелі адзін аднаго. Фрау Рыта карміла нас снеданкам і расказвала пра сябе. Ёй 67 гадоў, разам з мужам Рока яны трымаюць гатэль з 15-ці нумароў на 34 чалавекі і невялікі рэстаранчык. Гэта іх сямейная справа, якая перадаецца з пакалення ў пакаленне. Іх дарослы сын жыве з сям'ёй у Берне. Трымаць усё ў парадку памагае маладая жанчына. Фрау Рыта запрашала нас і нашых знаёмых спыніцца ў яе гатэлі... А пасля мы з інспектарам балета і выканаўцай ролі Берты Валянцінай Саладзілінай шпацыравалі па гэтым прыемным курортным гарадку, дзе Рэйн імклівa нясе свае воды, а паветра крышталёва чыстае і свежае, як крынічная вада, дзе а 6-ай раніцы б'е царкоўны звон, абвяшчаючы пачатак новага дня, а праз гадзіну ажываюць вузкія вулачкі, дзе мясцовыя жыхары ездзяць на веласіпедах, бесклапотна пакідаючы іх у любым месцы, а дзеці, якія ідуць у школу, вітаюцца з незнаёмымі людзьмі.

## ЦУГ, 5 ЛІСТАПАДА

Па дарозе ў Цуг мы бачылі неапісальную прыгажосць швейцарскіх Альпаў, якая так ярка захавалася ў памяці. Выехаўшы з Шафхаўзена ў 13 гадзін, мы перасеклі нямецкую частку Швейцарыі, увесь час падымаючыся ў горы, і да 17 гадзін апынуліся ў Цугу. Сучасны, з бетону і шкла, будынак "Тэатр Казіно Цуг" стаіць на самым беразе Жэнеўскага возера. На яго водную гладзь адкрываецца цудоўны від са шкляных вокнаў-сцен глядзельнага фае, а па каскадзе прыступак можна спусціцца да самай вады. У цугскіх афішах і праграмках, акрамя інфармацыі пра калектыў, значылася: "Гастролі праходзяць пад патранажам пасольства Рэспублікі Беларусь у Швейцарыі".

На сцэне гэтага тэатра выканаўцы адчувалі сябе, нібыта ў родных сценах, і для гэтага былі падставы. Глядзельная зала, аркестравая яма і, самае галоўнае, сцэна па памерах і планіроўцы аказаліся практычна такімі ж, як у нас у Мінску. І яшчэ адна прыемная акалічнасць: на спектаклі ў Цугу прысутнічалі прадстаўнікі беларускага пасольства, якія перад пачаткам прыйшлі сказаць добрыя словы і пажадаць поспеху.

Натхнёныя выканаўцы, што называецца, выкладваліся, дэманструючы ўсё, на што здольныя, адчуваючы жывы водгук глядзельнай залы і радуючыся шчодрым апладысментам. У дакладнай плыні рухаў спляталі нястрымны карагод белых начных прывідаў-віліс артысткі кардэбалету. У шырокай амплітудзе жэстаў лунала над сцэнай пагарску велічная, уладарная і непранікальна-халодная Мірта — Ксенія Сямёнава. Глыбінёй увасаблення ролі Альберта ўзрушваў сэрцы гледачоў Канстанцін Кузняцоў. Гэты вобраз у яго інтэрпрэтацыі варты асобнай размовы і падрабязнага прафесійнага разбору. Танец Кузняцова ўражвае прыгажосцю і высакароднасцю, гэта па-акцёрску напоўнены, дзейсны танец, які раскрывае пластычнымі сродкамі найтонкія нюансы пачуццяў і перажыванняў. У людзей, якія разбіраюцца ў тонкасцях балетнага мастацтва, выклікае захапленне дасканаласць формы, чысціня ліній, акуратнасць ног і пазіцый; высокі скачок, які завісае ў паветры, пакрывае прастору, завяршаецца нячутным прызямленнем у мяккае плие; дынамічныя, віртуозныя вярчэнні, выбуховыя туры — словам, высокая харэграфічная культура.

Прыйшоўшы пасля спектакля за кулісы, часовы паверанy ў справах Рэспублікі Беларусь у Швейцарыі Андрэй Гіро быў шчыра рады поспеху сваіх суайчыннікаў. Сярод мноства цёплых слоў, адрасаваных выканаўцам спектакля, ён сказаў і тое, што я занатавала дакладна: "За апошнія чатыры гады гэта, напэўна, адна з самых яскравых падзей у культурным жыцці Швейцарыі". І, звяртаючыся да Аляксандра Янкова, шчыра зазначыў: "Дзякую Вам за тое, што ў нашай роднай Беларусі Вы адшукалі такую жамчужыну і адкрылі гэты калектыў швейцарскім гледачам".

**З рэцэнзіі на спектакль.** "Спектакль быў высокай якасці. І адметны ўжо той факт, што трупа гастралюе са сваім аркестрам, які пад кіраўніцтвам дырыжора Міхаіла Сінькевіча надаў партытуры Адама драматычна абгрунтаванае, лірычна асэнсаванае жыццё... Прадстаўленая Юліяй Дзятко сцэна вар'яцтва Жызэлі праканаўча кранальная, Канстанцін Кузняцоў надаў раскаянням Альбрэхта рэдкую выразную інтэнсіўнасць. Гэтыя якасці ў другім акце зліліся ў абаіх абдуманым, нюансаваным, пялыблённым валоданнем формай і прывялі да напоўненага танцавальнага ўражання".

Пасля спектакля, а 2-ій гадзіне ночы, мы прыехалі ў гатэль горада Кюлі, што паміж Цугам і Віспам, а, прачнуўшыся, раніцай апынуліся ў казцы. Гатэль стаяў ля падножжа высокай гары, спрэс засаджанай вінаграднікамі. Іх салатава-зялёныя лозы тэрасамі ўздымаліся да самай вяршыні гары. Недзе ў вышыні віднеўся, нібы цацачны, старадаўні замак, вакол якога былі раскіданы малюсенькія сялянскія дамкі — ну, проста, жывая дэкарацыя да "Жызэлі"! А насупраць усёй гэтай жыццесцвярджальнай прыгажосці стаялі голыя каменныя волаты з пакрытымі вечнымі льдамі вяршынямі. Мы спусціліся да Жэнеўскага возера. З-за адсутнасці беларускіх манет кідалі ў ваду каменьчыкі, загорнутыя ў папяровыя "зайчыкі". Артысты аркестра з дырыжорам М. Сінькевічам, узняўшыся на плоскі дах гатэля, загаралі пад швейцарскім лістападаўскім сонцам. Было цёпла, светла і радасна на душы.

## ВІСП, 6 ЛІСТАПАДА

У знакаміты гарналыжны курорт Вісп, размешчаны ў самым "паднябессі", мы прыехалі, калі сонца схавалася за адным з вострaканечных пікаў, якія шчыльным кольцам акружаюць з усіх бакоў горад. У параўнанні з ласкавай сонечнай раніцай у Кюлі, тут было па-сапраўднаму холадна.

Менавіта за гэты спектакль у Віспе больш за ўсё хваляваўся Аляксандр Янкоў, таму што ў Культурным цэнтры Ла Постэ прысутнічалі прадстаўнікі арганізацыі "Pro Musica". Іх думка пра спектакль і калектыў, які наш імпрэсарыо адкрываў швейцарскім гледачам, была надзвычай важная для яго. Не буду падрабязна апісваць ход спектакля — спашлюся на швейцарскага крытыка, які напісаў ёмісты артыкул.

**З рэцэнзіі на спектакль.** "Аркестр і балетны ансамбль з Мінска прадставілі гэты балет, гэты твор мастацтва, з вялікім пачуццём і вельмі арганічна. Суправаджэнне аркестра, сцэнаграфія, багатыя касцюмы (Вольга Жалонкіна), светлавое афармленне і выкананне трупы — усё прываблівала... Танцоўшчыцы і танцоўшчыкі, якія вельмі часта падчас выканання сцэн узнагароджваліся апладысментамі, падарылі прысутным вечар, поўны грацыі, поўны чароўнай лёгкасці лунаючых рухаў і менавіта тое, што ператварае балет у мастацтва, казачнае, летуценнае, проста нерэальнае... Выканаўца ролі Жызэлі (Юлія Дзятко) і яе партнёр Альбрэхт (Канстанцін Кузняцоў) паказалі са свайго боку балетны танец у тэхнічнай і пантамімічнай дасканаласці. Фрау Дзятко, акрамя сваіх цудоўных танцавальных магчымасцяў, валодае выяўленай драматычнай сілай. Наўрад ці думаеш пра месца, дзе адбываецца дзеянне, калі яна ў канцы першага акта выказвае свой боль, даведаўшыся пра нявернасць Альбрэхта. Таксама і сумесныя танцавальныя па з уражлівым Альбрэхтам (сп. Кузняцоў) застаюцца незабыўнымі. Прысутныя сапраўды перажылі незабыўны вечар, напоўнены прыгажосцю музыкі і выканання".

...Праляцелі чатыры дні, праведзеныя ў Швейцарыі, якія аказаліся такімі насычанымі і багатымі на ўражанні. Можна было падводзіць вынікі. Усе тры спектаклі прайшлі пры перапоўненых залах (кожная на 700 месцаў). Усе тры спектаклі стабільна і прафесійна правялі артысты балета і аркестра.

Непазбыўнасцю гора, якое перапоўніла мацярынскае сэрца, кранала сэрцы гледачоў Валянціна Саладзіліна — Берта. Вельмі цёпла прымалася гледачамі і адзначалася крытыкай як "сімбіёз пачуццяў і сілы" сялянскае па-дэ-дэ І акта ў выкананні Вольгі Лядскай і Віталія Краснаглазава, хаця мы, ведаючы патэнцыйныя магчымасці гэтых выканаўцаў, бачылі нявыкарыстаныя імі рэзервы для надання бляску іх найкласічнаму ў тэхнічных адносінах дуэту. Андрэй Кісялёў стварыў на сцэне тэатра Шафхаўзена каларытны вобраз ляснічага Ганса, а ў выкананні гэтай партыі Максімам Кілеевым у Цугу і Віспе прaявіўся глыбокі драматычны напал, які афарбаваў ролю трагедыйным гучаннем. Аксана Сямёнава — Мірта была карэктная ў тэхнічным кантэксце ролі, пластычная і па-акцёрску пераканаўчая. Юлія Дзятко і Канстанцін Кузняцоў, стаўшы ўлюбёнцамі публікі, сваім віртуозным майстэрствам штораз пацвярджалі званне "лепшага дуэта", якім яны двойчы былі ганараваныя на міжнародных конкурсах артыстаў балета ў Люксембургу і Маскве.

Гастролі атрымалі шырокі рэзананс у прэсе.

Пра наш тэатр даведаліся гледачы ў далёкай Швейцарыі.

Калектыў атрымаў афіцыйнае запрашэнне на новыя гастролі — у студзені 2000 года.

**Людміла РАБУШКА,**
**заслужаная артыстка Беларусі**

# Яўген РАДКЕВІЧ



3 студзеня пасля цяжкай працяглай хваробы памёр вядомы беларускі пісьменнік, доктар філалагічных навук Яўген Радкевіч.

Яўген Рыгоравіч Радкевіч нарадзіўся 3 кастрычніка 1937 года ў гарадзе Сянно Віцебскай вобласці ў сям'і настаўнікаў. Некаторы час жыў у Казахстане, працаваў трактарыстам, камбайнерам у Паўладарскай вобласці. У 1963 годзе скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна. Быў рэдактарам, загадчыкам маладзёжнай рэдакцыі Беларускага радыё. Пасля заканчэння аспірантуры працаваў выкладчыкам, загадчыкам кафедры тэлебачання і радыёвяшчання БДУ.

Друкавацца Яўген Радкевіч пачаў з 1966 года. Ён — аўтар кніг апавяданняў і аповесцей "Плытагоны" (1972), "Месяц Межань. Зіма на выратавальнай" (1976), "Горны мёд" (1982), аповесцей "Антаніна" (1979), "Пешшу праз Галактыку" (1984), раманаў "Сутокі дзён", (1984), "Закон прыцягнення" (1990). Яўген Радкевіч таксама аўтар кнігі публіцыстыкі "Камсамольская дынастыя" і іншых. Яго творы, якія вызначаліся гуманістычным пафасам, былі станоўча ацэнены крытыкай і чытачом, годна служаць і сёння справе выхавання моладзі.

Яўген Радкевіч быў добрым, зычлівым і жыццярадасным чалавекам, карыстаўся вялікай павагай і аўтарытэтам у калектыве. Да апошняга дня ён мужна змагаўся за сваё жыццё...

Светлая памяць аб таленавітым пісьменніку і вядомым вучоным назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

потым у Вільні, загінула пры пажары ў час другой сусветнай вайны: "Спаліліся ў 1944г. прыгатаваныя да друку манаграфія аб Мікалаю Дарагастайскім, ваяводзе полацкім у XVI ст., а таксама камплектны збор дыпломаў (грамат) з XV—XVII стст., што датычылі Вялікага княства Літоўскага, пісаных на мовах польскай, старабеларускай і лаціне. Пажар знішчыў каля 30000 нататак і копій разам з мапамі і ілюстрацыйнымі матэрыяламі да гісторыі Полацкага ваяводства 1504—1793 гг., якая ахоплівала гісторыю палітычную, сацыяльна-гаспадарчыя стасункі і культурнае жыццё". Гэта быў ужо навуковы даробак гісторыка-архівіста Рышарда Мяніцкага, які грунтаваўся на руплівай збіральніцкай працы яго бацькі Вінцэнта Мяніцкага, дзеда Пятра, а, відаць, яшчэ і ранейшых продкаў.

Такім чынам, можна меркаваць, што Селігоры, прынамсі, у другой палове XIX ст. былі адным з асяродкаў культуры і духоўнасці на Полаччыне. Менавіта адсюль вызначае адзін са струменьчыкаў жывой вады беларускага культурнага адраджэння, які праз Б. Эпімах-Шыпілу і яго рукапісную хрэстаматыю далучыцца да моцнай хвалі нацыянальнага адраджэння і літаратурна-культурнага ўздыму пачатку XX ст.

Сама ж "Беларуская хрэстаматыя" Б. Эпімах-Шыпілы, як унікальны гісторыка-літаратурны помнік, была даследавана Р. Семашкевічам, які ў цэлым дакладна апісаў многія тэксты і зрабіў слушны вывад, што "як у люстры, у "Хрэстаматыі" Эпімах-Шыпілы адбіліся складаныя, вузлавыя пытанні літаратурнага, больш таго, грамадскага жыцця Беларусі". У святле вышэйсказанага аб вытоках рукапіснай "Хрэстаматыі" Б. Эпімах-Шыпілы звяртае на сябе ўвагу згадка Р. Семашкевіча аб тым, што, захапіўшыся збіральніцтвам беларускіх літаратурных помнікаў, Эпімах-Шыпіла пашыраў свае зборы: у яго паперах знаходзіліся копіі розных гістарычных дакументаў (даследчык канкрэтна называў акты "Рэвізіі Ваяводства Полацкага" ад 1580 года) і беларускіх інтэрмедый XVII—XVIII стагоддзяў. Адносна актаў можна з упэўненасцю сказаць, што крыніцаю іх стала тая ж селігорская бібліятэка В. Мяніцкага, які з'яўляецца аўтарам выдадзенай у Кракаве ў 1894 г. працы "O naidawniejszej rewizyi wojewodztwa Polockiego".

Такім чынам, менавіта багатыя зборы селігорскай бібліятэкі В. Мяніцкага, дзе збіраліся, захоўваліся і вывучаліся матэрыялы па гісторыі, культуры і літаратуры Беларусі, далі творчы штуршок Б. Эпімах-Шыпілу, паспрыялі станаўленню яго глыбока дасведчанай у розных галінах гуманітарных ведаў асобы, як асобы актыўнай, арыентаванай на справу нацыянальнага адраджэння, вакол якой фарміравалася кола аднадумцаў і паслядоўнікаў. Назапасіўшы дух і энергію нацыянальнага адраджэння на Бацькаўшчыне, Б. Эпімах-Шыпіла рэалізоўваў яе ў канкрэтных культурна-асветных справах у Пецярбургу, дзе ўтваралася шматлікая і актыўная на той час беларуская дыяспара пераважна з самасвядомай, адукаванай, ініцыятыўнай студэнцкай моладзі.

# Дзень перад пецярбургскай паводкай 1824

Са сваім земляком, самабытным беларускім мастаком Юзафам Аляшкевічам, бацькі якога жылі ў Радашкавічах, Адам Міцкевіч сустрэўся недзе ў канцы 1824 года ў Пецярбурзе, куды яго за філамацкую дзейнасць згодна з пастановай суда "даставіла" паліцыя ў распараджэнне Міністэрства адукацыі, што павінна было вызначыць месца ссылкі "палітычнага злачынцы". Юзаф Аляшкевіч быў вельмі вядомай асобай у Пецярбурзе. Перш за ўсё яго высока цанілі як мастака. Мастака-прафесіянала, які атрымаў даволі высокую адукацыю. Закончыўшы ў 1803 годзе школу жывапісу ў Вільні, ён удасканальваў сваё майстэрства ў Дрэздэне, потым у Парыжы, у славутых мастакоў Давіда і Энгра. У Пецярбурзе, куды ён прыехаў у 1811 годзе, Ю. Аляшкевіча выбралі членам Імператарскай акадэміі мастацтваў. Асабліва праславіўся ён у жанры партрэта. Яго проста закідвалі пецярбуржцы заказамі на партрэты, якіх ён зрабіў больш за сто.

Незвычайны быў Ю. Аляшкевіч і як чалавек. Прасякнуты рэлігійнасцю, глыбока ўспрыняўшы сутнасць хрысціянства, ён усяго сябе аддаваў людзям, з радасцю дзяліўся з беднымі апошнім грошам. Пакланяўся ўсяму жывому, нават раслінам. Да звяроў і жывёл ставіўся як да нейкіх таямнічых, яшчэ не разгаданых істот. Калі Адам Міцкевіч, партрэт якога намерыўся рабіць мастак, завітаў у яго пецярбургскую кватэру, то вельмі здзівіўся вялікай плойме катоў, што вольна і беспакарана гойсалі па ўсіх пакоях.

Душэўная дабрыня Ю. Аляшкевіча выразна адбілася, як зазначаюць мастацтвазнаўцы, і на яго палотнах. Нават не надта добрыя людзі выглядалі на яго партрэтах больш лагоднымі, з мяккімі рысамі твару.

У асяроддзі інтэлігенцыі Ю. Аляшкевіча лічылі дзіваком, знахаром-прарокам, складалі пра яго анекдоты. Разам з тым усе ведалі яго як прагрэсіўнага чалавека. Паводле сведчання філамата Францішка Малеўскага, "новыя адкрыцці ў навуцы, новыя дасягненні ў грамадскім жыцці заўсёды мелі ў яго асобе абаронцу".

Адам Міцкевіч быў вельмі ўражаны талентам і асобай мастака, што і выказалася ў яго вершы пра Аляшкевіча, які ўвайшоў у паэму "Дзяды" як адзін з самастойных твораў.

Выношу на суд чытача свой пераклад гэтага верша з польскай мовы.

**Кастусь ЦВІРКА**

Адам МІЦКЕВІЧ

## Аляшкевіч

*Марозам звонкім неба палымнела,*
*Ды вось паблекла і чарнотай хмар*
*Там-сям укрылася, зусім ссінела,*
*Нібы нябожчыка пры печы твар*
*Ад цеплыні, якая не вяртае*
*Ужо ў жыццё, а тленам патыхае.*
*Павеяў вецер цёплы. З камінoў*
*Над горадам цяпер слупы дымоў,*
*Што выраслі, бы здані веліканаў,*
*Апалі долу пасмамі туманаў.*
*Змяшаны з парай, цёплаю, густой,*
*Дым белы поўніў вуліцы і пляцы.*
*Снег раставаць пачаў.*
*Бы Стыкс-ракой*
*Ён брук заліў, падкраўся*
*пад палацы!*
*І зніклі сані. Палазы сарвалі*
*З карэт, вазоў. Яны залескаталі*
*Па бруку коламі.*
*Ды ў белым змроку*
*Было зусім іх не адрозніць воку.*
*Мільгалі толькі ліхтары:*
*бы з пнёў*
*Сярод балота прывіды агнёў.*

*У змроку тым якіясь маладзёны*
*Ішлі каля Нявы. Быў гэта час,*
*Калі ў бязлюддзі*
*ўжо не стрэнуць вас*
*Ні шпік тут,*
*ні чыноўныя персоны.*
*Ішлі й размову моваю чужой*
*Вялі ўсе, часам песню напявалі*
*Чужую ды хаду не-не й спынялі.*
*Мо слухае хто з весніцы якой?*
*Блукалі доўга*
*над Нявы гранітам,*
*Што цягнецца альпійскаю градой.*
*Спыніліся, дзе да ракі глухой*
*Збягала сцежка*
*камневым карытам.*
*З ліхтарыкам там постаць*
*ля ракі*
*Чыясьці зачарнела. Хто ж такі?*
*Не шпік, бо што ў глыбі рачной*
*ён знойдзе?*
*Не перавозчык:*
*хто ж плыве па лёдзе?*
*І не рыбак ён, бо ў руках сваіх*
*Трымаў паперы стос*
*ды звязку кніг.*
*Наблізіліся. Ён на іх і вока*
*Не ўскінуў, бо вяроўку цёг з вады.*
*Пералічаў на ёй вузлоў рады,*
*Запісваў іх — змяраў,*
*як там глыбока.*
*У змроку водбліск цьмяны ліхтара*
*Ад лёду адбіваўся таямніча*
*На кнігі, на жаўтавае аблічча —*
*Фарбуе хмары ўвечар так зара.*
*Быў твар шляхетны,*
*гожы і суровы.*
*Так пільна ў кнізе нешта*
*ён чытаў,*
*Што, побач чуючы*
*чыесь размовы,*
*Хто падышоў туды, не запытаў.*
*Даў толькі знак рукой,*
*каб памаўчалі*
*І каб у працы не перашкаджалі.*
*Было штосьць дзіўнае у руху тым,*
*І бы ад чараў, стаўшы перад ім,*
*Вандроўнікі свой смех перапынілі*
*Ды там, чакаючы яго, застылі.*
*Адзін пільней яму зірнуў у твар,*
*І ўсклікнуў: "Гэта ж ён, мастак!*
*З палякаў.*
*Цяпер вядомы больш ён,*
*як знахар,*
*Бо кінуў пэндзаль.*
*Таямнічых знакаў*
*Ён знаўца. Кажуць.*
*Кабалу спасціг,*
*І з духамі ён свой, склікае іх".*
*Мастак тут склаў паперы ўсе,*
*устаў*
*І сам з сабою развaжаць пачаў:*
*"Хто ранак стрэне —*
*цудаў шмат спазнае.*
*Па пробах дзвюх —*
*нас новая чакае.*
*Бог зрынуў калісь асірыйскі трон,*
*Змяшаў з зямлёю грэшны Вавілон.*
*Ды трэцяй пробы мецъ*
*не дай ты, Божа"*
*Сказаў і там пакінуў*
*ён прахожых.*
*Падаўся сходамі ў туман, у ноч.*
*І з ліхтаром праз хвілю*
*знікнуў з воч.*
*Трывожыла: што ж мова*
*тая значыць?*
*Той спахмурнеў,*
*той больш павесялеў.*
*Пасля сказалі так:*
*"Мастак дзівачыць".*
*Было ўжо позна, вецер зашумеў,*
*Нагнаўшы холаду сюды,*
*пад строму,*
*І кожны заспяшаў хутчэй дадому.*
*Ды не дамоў адзін — за мастаком*
*Пабег тэрасай:*
*хоць яго й не бачыў,*
*Ды дзе ішоў,*
*ліхтар здалёку значыў,*
*Пасвечваючы*
*бледным светляком.*
*Ён не запомніў мастака аблічча,*
*Не чуў, што гаварылася аб ім,*
*Ды як пра свет прарочыў*
*таямніча,*
*Уразіла вандроўніка, прытым*
*Згадаў ён голас той. І бег да змогі*
*За ім у цемры ночы без дарогі.*
*Ліхтар усё далей, далей мільгаў*
*І потым згаснуў,*
*паглынуты змрокам.*
*Ды зноў во мільгануў,*
*на месцы стаў*
*Сярод пустэчы на пляцы шырокім.*
*Вандроўнік кінуўся туды, глядзіць:*
*Ён там, мастак,*
*над пусткаю стаіць,*
*Расхрыстаны,*
*з адкрытай галавою.*
*Пры бляску мігатлівым ліхтара*
*Відаць было начной парою тою:*
*Ён бы застыў з узнятаю рукою,*
*Воч не спускаючы з муроў цара:*
*Свяцілася акно ў глыбі палаца —*
*Хто там не спаў, відаць,*
*хацеў дазнацца.*
*І ўсё штосьць Небу ён шаптаў,*
*мастак,*
*Пасля пачаў казаць уголас так:*

*"Ты, цар, не спіш.*
*Навокал — ноч глухая.*
*Твае дваране спяць, як штоначы.*
*Бог міласэрны духаў пасылае*
*Цябе ад кары перасцерагчы.*
*Цару б заснуць,*
*ён сілай жмурыць вочы:*
*У сны ж яго не раз у цемры ночы*
*Раней анёл-ахоўнік залятаў —*
*Ад ліхадзейства перасцерагаў,*
*Бо цар тады быў чалавек,*
*не нелюдзь,*
*Не злосны гэтакі тыран, не звер.*
*Пакінулі яго анёлы. Мелюць*
*Ліхое ліха д'яблы з ім цяпер.*

*Парады ўсе анёльскія святыя*
*Забыў ён, нібы мроі-сны пустыя.*
*Яго ўсе ўзносяць к высі залатой,*
*Ды ён ачнецца ў д'ябла пад пятой.*

*У нізенькіх халупах люд падданы*
*Перш за цара ўсё ж*
*будзе пакараны.*
*Вядома ўсім,*
*грамы спачатку б'юць*
*У дуб ці ў скалы —*
*так сярод прыроды*
*А між людзей —*
*спярша ў нізы заўсёды*
*І меней вінаватых там кладуць.*
*Угрузлыя ў раскошу,*
*п'янства, свары,*
*Спяць людзі —*
*глупства ўласнага ахвяры.*
*Што ж, спіце, покуль —*
*прыйдзе гэты час! —*
*Ляных, гнеў Божы*
*не дагоніць вас,*
*Бы той лавец, які на ўсё палюе,*
*Пакуль з лагва дзікоў не запудлуе.*

*Я чую, буры ўжо з палярных льдоў*
*Вылазяць,*
*бы страшыдлы незямныя,*
*І хвалі вызваляюць з-пад акоў,*
*Падняўшы*
*крылы-хмары грамавыя.*
*Зрывае мора ланцугі наўкруг,*
*Згрызае ўмомант цуглі ледзяныя.*
*Яшчэ адзін не збіты мо ланцуг,*
*Ды ў неба б'е ўжо пырскамі*
*стыхія,*
*І чую я стук малатоў у ёй..."*

*Мастак, убачыўшы,*
*што нехта збоку*
*Стаіць, задзьмуў агонь і знік*
*у змроку.*
*Мільгнуў ён, як вяшчун пары ліхой,*
*Бяды, што ў сэрца*
*ўдарыць нечакана,*
*Той страшнай,*
*хоць яна і не спазнана.*




# Навукам рабіў цуд зямны

Сярод асабістых бібліятэк, сабраных у розныя часы на Беларусі, адно з першых месц належыць той, якая знаходзілася ў Шчорсах колішняга Наваградскага павета. Яна налічвала каля дзесяці тысяч кніг, што і для сённяшніх дзён нямала. Але ж уладальнік гэтага унікальнага кнігазбору Іахім Літавор Храптовіч жыў у XVII — пачатку XVIII стагоддзя (нарадзіўся ў маёнтку Ясенец таго ж Наваградскага павета (цяпер аднайменная вёска Баранавіцкага раёна) 4 студзеня 1729 года, памёр 3 сакавіка 1812-га). Тады такім духоўным багаццем маглі пахваліцца далёка нямногія. Пасля яго смерці справу прадоўжыў сын Адам, які значна папоўніў збор. На жаль, гэтым багаццем мы парадавацца не можам. Як і многія нацыянальныя каштоўнасці, бібліятэка Храптовіча была вывезена за межы Беларусі і цяпер знаходзіцца ў Кіеве, захоўваецца ў фондах бібліятэкі Нацыянальнай акадэміі навук Украіны.

Згаданага факта дастаткова, каб заўсёды ўспамінаць Храптовіча добрым словам. На шчасце, згадваюць. Тым самым, не жадаючы гэтага, як бы на другі план адносяць іншыя заслугі яго перад радзімай. А. Храптовіч жа — публіцыст, паэт, перакладчык, асветнік, грамадскі і дзяржаўны дзеяч. І невыпадкова Адам Міцкевіч сказаў пра яго, што "навукам робіць цуд зямны".

А паходзіў Іахім Літавор са старадаўняга беларускага магнацкага роду. Дарэчы, Храптовіч пакінуў пасля сябе даследчыцкую працу "Храналогія роду Храптовічаў". Яна з'явілася ў друку толькі ў канцы XIX стагоддзя. Месца нараджэння Іахіма — фальварак Ясенец, што належаў яго дзеду па маці К. Несялоўскаму — чалавеку высокаэрудзіраванаму, культурнаму, які захапляўся прыгожым пісьменствам і быў даволі вядомым пісьменнікам. К. Несялоўскі шмат паўплываў на першапачатковае выхаванне ўнука і авалодванне ім азамі ведаў. У раннім узросце Іахім праявіў і цікавасць да паэзіі. Першы твор з яго вуснаў прагучаў на роднай мове. Гэта было вершаванае апавяданне, прысвечанае дзядулю і бабулі.

Вучобу прадоўжыў у Віленскай акадэміі, пасля заканчэння якой, паколькі сродкаў хапала, паехаў за мяжу. Паглыбляў веды ў Германіі, пабываў у Італіі, Аўстрыі, Францыі, Англіі, Швейцарыі. Не проста падарожнічаў — а і бліжэй знаёміўся з рознымі краінамі, каб узяць у якасці вопыту лепшае, што магло б спатрэбіцца дома. У прыватнасці, зацікавіўся пытаннямі развіцця сельскай гаспадаркі. І пераканаўся, што паншчына шкодзіць у гэтай галіне. Па вяртанні на радзіму адмяніў яе ў сваіх маёнтках Шчорсы і Вішнева, а таксама ў арэндных Нягневічах. У Шчорсах была адкрыта школа для сялянскіх дзяцей.

Да розных пачынанняў прыклаў свае намаганні Храптовіч. Дзякуючы яму (поруч з іншымі) пачала працаваць так званая Адукацыйная камісія, якой наканавана было стаць першай у Еўропе установай дзяржаўнага тыпу, у веданні якой знаходзіліся пытанні кіравання народнай адукацыяй. У камісіі Храптовіч плённа працаваў дваццаць гадоў — столькі, колькі і існавала гэтая ўстанова. Дзякуючы і яго намаганням, асвета пачала набываць усё больш свецкі характар.

Не стаяў Храптовіч убаку і ад палітычнага жыцця. У розны час з'яўляўся маршалкам галоўнага трыбунала, падканцлерам, міністрам замежных спраў Вялікага княства Літоўскага, а з 1793 года — канцлерам. Намаганнямі Храптовіча было створана "Таварыства сяброў навук". Ён напісаў некалькі кніг, сярод якіх "Апісанне пчалярскай гаспадаркі ў Шчорсах", "Аб праве прыроды", "Аб штогоднім нацыянальным узнаўленні", Храптовіч — аўтар артыкула "Паэзія" для даведніка І. Красіцкага "Збор найбольш патрэбных звестак", які выйшаў у 1781 годзе.

З дня нараджэння Іахіма Літавора Храптовіча — 270 гадоў. Ён варты таго, каб удзячныя нашчадкі памяталі пра яго.

**Язэп ЛІТВІНОВІЧ**


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА — ЛіМ — ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Мікола ГІЛЬ — *намеснік галоўнага рэдактара,*
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,
Жана ЛАШКЕВІЧ,
Алесь МАРЦІНОВІЧ,
Барыс ПЯТРОВІЧ — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
Віктар ШНІП — *адказны сакратар*



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2848-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2848-525, 2847-985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 2848-204
пісьмаў і грамадскай думкі — 2847-985
літаратурнага жыцця — 2848-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2847-985
паэзіі і прозы — 2848-204
музыкі — 2848-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2848-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2848-462
навін — 2848-462
мастацкага афармлення — 2848-204
фотакарэспандэнт — 2848-462
бухгалтэрыя — 2366-071





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3850.
Нумар падпісаны ў друк 14.1.1999 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 999
Заказ 117/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12